УДК 821.161.1(476)-1
ББК 84(4Беи)-5
Ш77

Серыя заснавана ў 2011 годзе





**Шніп, В. А.**
Ш77 Тутэйшая туга : паэзія і проза / Віктар Шніп. — Мінск : выдавецтва «Чатыры чвэрці», 2014. — 202 с. — (Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі).
ISBN 978-985-7058-61-7.

«Тутэйшая туга» — новая кніга твораў лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008) пісьменніка Віктара Шніпа.

Кніга складаецца з чатырох раздзелаў. У раздзел «Раніца» ўвайшлі верлібры, прысвечаныя Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Танку, а таксама беларускім мастакам. Раздзел «Дзень» — дзённікавая проза паэта, у якой адлюстравана жыццё з усімі яго радасцямі і трывогамі. Раздзел «Вечар» — філасофская лірыка. Раздзел «Ноч» — тут можна адпачыць ад вершаў і паразважаць над прачытаным…

**УДК 821.161.1(476)-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7058-61-7**



# Раніца



# Ліпень Янкі Купалы

ад рук матуліных і ад калыскі
у ліпені пачалася дарога Паэта
ад сэрца да сэрца
ад Беларусі і да Беларусі
па свеце белым
па цвеце белым
па снезе белым
дзе чорнага заўсёды хапала
як чорнай зямлі
як чорнага дыму
як чорных груганоў
і чырвонай крыві
у свеце белым
у цвеце белым
у снезе белым
і ў Беларусі

у Вязынцы хата Янкі Купалы
як беларускі каўчэг
які плыве па траве як па вечнасці
асвятляючы шлях да Беларусі

збіраюць пчолы мёд
як тутэйшае золата
якое і ў вершах Янкі Купалы
заўсёды было і будзе
як Беларусь

у Вязынцы Купалле
і плывуць па рацэ вяночкі
як нізкі вершаў
якія не паспеў запісаць Янка Купала

у Вязынцы хуткасныя цягнікі
не спыняліся і не спыняюцца
але ўсе беларускія дарогі
вядуць у Вязынку
як у нашу Мекку
і я іду да Янкі Купалы па сцежцы
што ў траве не знікла
і гэтая сцежка
ніколі не знікне як вечнасць
дзе нас чакае Янка Купала
як наш Прарок

на лузе копы сена
як шаломы тутэйшых ваяў
якіх нідзе не бачна
але яны ёсць і яны заўсёды гатовыя
бараніць родную зямлю
як заклікаў Янка Купала

у купалаўскім садзе
светла ад яблыкаў
якія створаны сонцам
і беларускай зямлёю
у купалаўскім садзе
светла ад вершаў
што створаны Янкам Купалам
душой і крывёю

купалаўскія ліпы
і купалаўскія творы
трымаюць неба над Вязынкай
і над Беларуссю

25–30.04.2012

# Лістапад Якуба Коласа

у засценку Акінчыцы
калі бярозы дубы і ліпы
трымалі пагоднае неба
над разлівам залатым лістоты
як над пялёсткамі сонца
самотнага і тутэйшага
пачаўся дзень Якуба Коласа
і ягоны шлях бясконцы
як жыццё беларусаў
у якіх залатыя рукі
і залатыя сэрцы
ад якіх заўсёды светла
было ёсць і будзе
у белым свеце
і ў нашай Беларусі

свеціцца сузор'е вакон
хаты вясковай
і ў лістападзе не губляюцца
сцяжыны лясныя
па якіх прыходзяць ваўкі
паслухаць калыханкі
і малітвы людскія
і голас немаўляці
якое нарадзілася 3 лістапада

на хвалях Нёмана
чаўны і лістота
плывуць у вечнасць
праз лістапад і Беларусь
а вада ў Нёмане
як мёд васільковы
у якім неба як казкі жыцця



такое блізкае і роднае
дзе клёкат бусліны
і спеў жаўруковы
пераплятаюцца і ў вершах застаюцца
як малітвы ў Храмах
на якіх крыжы
як мячы беларускіх вояў
што за волю змагаліся
і каб Прарок нарадзіўся

яблыкі ў траве сівой
як золата ў срэбры
ляжаць у бацькоўскім садзе
дзе праз чорныя галіны дрэў
віднеецца шэрае неба
дзе лятуць журавы
як мары пра волю
як мроі пра сваю зямлю
дзе ростаняў не будзе
а толькі сустрэчы светлыя
як сустрэчы пяра з паперай чыстаю

дубы каля Нёмана як вежы
з якіх відаць увесь белы свет
і Беларусь
дзе жыў жыве і будзе жыць
Сымон-музыка
і ягоная адвечная песня
дзе ў кожным слове ёсць Бог
і ёсць Беларусь
ад якой мы ідзём
праз завеі спякоту дажджы
да Беларусі
як да сонца
якое ніколі не заходзіць

…і пройдуць сотні гадоў
і ў кожным годзе будзе лістапад
і ў кожным лістападзе
будзе лістапад Якуба Коласа
які пачаўся ў засценку Акінчыцы
у разліве залатой лістоты
як у пялёстках беларускага сонца
якое жыве ў творах Якуба Коласа
дзе родны кут заўсёды мілы
і дзе рыбакова хата
на беразе Нёмана
як на краі свету
слухае песні-жальбы
адзінокіх зорак
якія падаючы ў золата лістоты
абуджаюць сонца
што заглядваючы і ў наша ваконца
і ў нашы сэрцы
асвятляе шлях у Беларусь
пра якую марыў Якуб Колас

19–21.09.2012

## Нарач Максіма Танка

золата поўні на вадзе нарачанскай
сцяжынай вугровай
і ты ідзеш па гэтай сцяжыне
у Саргасава мора
каб сказаць вуграм пара вяртацца

у кропельках расы
дзе сонца начавала
ты бачыш нарачанскіх анёлаў
пра якіх ведаеш толькі ты
бо яны прыляцелі з тваіх вершаў

галавешкі ў вогнішчы
як залатыя злiткі
якімі ты заплаціў нарачанскаму вечару
за добры настрой і сяброў

белыя лебедзі як белыя вершы
жывуць на Нарачы
і толькі табе давяраюць
белыя вершы як белыя лебедзі
пачуць дыханне сваё і вечнасці

плывеш па Нарачы ў чаўне
як Ной у каўчэгу
праз туман як райскі сон
што сніцца Богу

сосны як калоны беларускага Храма
якія ты стварыў з вершаў
і калі ты пайшоў у вечнасць
над Нараччу як у Храме тваім загучала
і сёння гучыць твая «Авэ Марыя»

вецер замёў сцяжыну да Нарачы
лісцем як лісткамі твайго календара
які выпаў з тваіх рук
як камень жалеза золата
як хвалі Нарачы

23.03.2012

# ГОД МАСТАКА Ў АЛЯХНОВІЧАХ

## Студзень

студзень не застудзіць студні
дзе ў вадзе як у небе зоры
залатымі крупінкамі снегу
якія прыляцеў з краіны дзяцінства
каб было светла
не толькі мастаку
які ідзе па гурбах
на гару дзе стаіць хата
у снезе як у аблоках
белых як фіранкі на вокнах
праз якія працэджваецца святло
і разліваецца Млечным Шляхам
перад табой

## Люты

люты пытаецца ці добра абуты
і вецер слізгае па цвёрдым снезе
як па белай паперы
нябачны пэндзаль
у руках мастака
і белая фарба зімы
з чырвонай фарбай раніцы
перамешваецца пераліваецца
і цені з дрэў спаўзаюць
і чапляючыся за сцяблiны сухой травы
што тырчыць з-пад снегу
як антэны з падзямельнага царства
расцягваюцца як капронавыя панчохі
на каленях у аляхновіцкіх дзяўчат
што клічуць і цябе на танцы

у клуб дзе ў гармоніку
ужо трапечацца вясна
як у горле пеўня
вада з капяжу

## Сакавік

сярод вазонаў на падаконні руды кот
глядзіць як белы снег
чарнее і ператвараецца ў ваду
што цячэ па вуліцы сярод хат
як сярод драўляных караблёў
па рэчышчы перасохлай ракі
і белыя гусі з двароў праз плот
высоўваюць жоўтыя дзюбы
якія як першыя вясновыя вясковыя кветкі
радуюць цябе
і ў тваіх слядах вада
спыняецца як спыняецца час
але на хвілю
і сонца як велікоднае яйка
выпаўшы з паўнюткага кошыка валачобніка
коціцца па бязмежным небе
чыстым як бярозавы сок
ад тваёй хаты да суседняй
і радуюцца дзеці
пускаючы папяровы караблік
які ў тваім дзяцінстве
яшчэ не патануў



## Красавік

з першай травою купіны
як вожыкі зялёныя
пад сонцам грэюцца
якое як вялікая кропля
чырвонай фарбы
на тваім палатне
на якім як Бог ты ствараеш свет
дзе па полі ў гумовых ботах
ідуць людзі а над імі жаўрукі
што нядаўна вярнуліся з выраю
як вясёлыя думкі
і каменьчыкі ў калюгах як караліі
Снежнай каралевы
якая растала як мроя
на ўзгрэтым узлессі
дзе красуюцца кураслепы
як каганцы
ад якіх святло
трапляючы ў тваю душу
абуджае верад натхнення

## Травень

і ўжо тоне ў травах
і ў пене садовай квецені
тутэйшая туга
і ў барозны кладзецца бульба
як золата хаваецца за пазуху
і чорныя як манахі гракі
ходзяць па ворыве
сярод курэй і пеўня
і ты глядзіш на гэта
як Ной які сышоў з каўчэга
на незнаёмым востраве
дзе ўжо існуе жыццё

## Чэрвень

узыходзячае сонца
як раніцы ракавінка
якая раскрылася
а з яе вылецелі ружовыя матылі
і крышталёва-ізумрудныя стракозы
і цёплы вецер ад іх крылля
развеяў туман у нізінах
і ўзышло макавае сонца
і пачаўся дзень
і зачмурэлі чмялі і пчолы
над россыпам кветак у лузе
дзе пасецца чырвоны конь
і звініць ланцугом
нібыта ён прывязаны да цэнтра Зямлі
дзе стаіш ты
як апостал мясцовы

## Ліпень

паветра густое як мядовае
і конікі стракочуць
нібыта канапацяць бочкі для мёду
па рэчцы плывуць купальскія вянкі
як расквітнелыя німбы анёлаў
якія апусціліся на зямлю
каб жыць як мы і сярод нас
і ты вяртаешся з грыбоў
нібыта з раю ў гэты свет
каля высокіх копаў сена
як каля вежаў у якіх жывуць казкі
і ты чуеш іх і ты бачыш
як навальніцай напаўняецца неба



як палатно на мальберце фарбамі
з якіх пральецца жывы дождж тваіх пачуццяў
у нашы душы

## Жнівень

паспелы яблык падае ў траву
як кропля сонечнага лета
і коціцца ў баразну сярод град
на якіх качаны капусты
як зялёныя планеты
у сузор'і ўкропу
пад сонцамі сланечнікаў
і ходзяць даўганогія буслы
каля Аляхновічаў па іржышчы
нібыта шукаюць мапу
на якой пазначаны шлях у вырай
і золата саломы самотнае
але светлае
як душы вяскоўцаў
што сеялі збожжа
і ў небе плывуць аблокі
як пыл за статкам кароў
якія вяртаюцца з пашы
і ты сядзіш на валуне
як на краі свету

## Верасень

жураўліны клін у небе
як стрэлка вечнага гадзінніка
паказвае на восень
і дзеці ідуць у школу
і светла і святочна ў вачах
як у слове Радзіма

што тут у дзяцей пачалася з Аляхновіч
дзе не спыняюцца хуткасныя цягнікі
і толькі з электрычак чуецца
«станцыя Аляхновічы»
і ты едучы на возе
на якім мяшкі з бульбай
сядзіш як на здабытым золаце

## Кастрычнік

вароны на пазалацелых віхлах
як на восеньскіх вежах
чорныя як у чорных плашчах віжы
глядзяць удалячынь на дарогу
па якой праскакаў вершнік
з прызнаннем ад закаханага
у ціхае мястэчка
якое за палямі за гарамі
дзе жыве Цудоўная і Непаўторная
а дождж сыплецца і сыплецца
і сады ўжо саромеюцца сваёй аголенасці
і кусты як кастрышчы
і апалае лісце
як луска ад залатых рыбак
якіяператварыліся ў людзей
і перасяліліся на карціны мастака
каб быць вечнымі

## Лістапад

павуціна ці першая шэрань
лётае ў паветры
сярод лістоты як лятаючых ліхтароў
якія асвятляюць калюгу
затуманеную першым лёдам



на дне якой бярозавы ліст
як залаты купал Храма
у далёкім-далёкім мінулым
з якога пачаліся твае дарогі
і ты ідзеш па Аляхновічах
і людзі вітаюцца з табой
і жонка чакае цябе і дзеці
і ў кожным кроку тваім
Вера Надзея Любоў
і гэты дзень як вечнасць
у якой няма месца
для здрады злосці зайздрасці
і сонца ў небе і ў тваіх вачах
як пацалунак Божы

## Снежань

ізноўку снег як попел
ад спаленых карцін
якія не атрымаліся ў Бога

13–18.12.2011

# ТРАВЕНЬ – СНЕЖАНЬ, 2009

**30.05.2009.** Выхадны дзень. З самай раніцы сонечна і цёпла. У скверыку людна: хто з малымі дзецьмі, хто з сабакамі, хто з катамі, а я ваджу за руку маму…

***

**31.05.2009.** Маму, якая ў мяне жыла цэлы месяц, да сябе забрала мая сястра. Сядаючы ў машыну, мама плакала. Думаю, не таму, што ў мяне ёй было дрэнна і цяпер нарэшце яна вырвалася ад мяне, і не таму, што ёй у сястры не будзе мядовага жыцця… А таму, што яна — мама…

## «Не памятаю…»

**3.06.2009.** Амаль кожны дзень у выдавецтва да мяне прыходзіць па некалькі аўтараў. Некаторыя першы і апошні раз, а некаторыя, прыйшоўшы аднойчы, наступны раз да мяне прыходзяць як да сябра. Вось і сёння прыйшоў празаік: «Хачу забраць рукапіс!» Я, прывітаўшыся з ім, пачынаю перабіраць на стале і ў шафе рукапісы і тут жа ўспамінаць, як жа яго завуць, каб знайсці патрэбную папку. І не магу ніяк успомніць. «А ў якога колеру папцы ваш рукапіс?» — пытаюся, спадзеючыся пачуць прозвішча. «А я ўжо не памятаю…» — адказвае наведвальнік і спакойна працягвае стаяць сярод кабінета. «А як называецца ваш твор?» — «А я ўжо не памятаю!» — «Вы не памятаеце, куды я мог ваш рукапіс пакласці?» — «Не памятаю…» Праз хвілін дзесяць, наслухаўшыся адказаў «не памятаю», я адважваюся запытацца: «А як жа ваша прозвішча?» Пачуўшы прозвішча майго наведвальніка, тут жа знаходжу яго рукапіс. І празаік, падзякаваўшы мне, што я знайшоў ягоны рукапіс, развітваецца са мной, як з сябрам…



***

**10.09.2009.** Значную частку свайго жыцця праводзім на працы і ў дарозе туды і назад. Словам, мы жывём, як птушкі, што лётаюць у вырай…

## Рубін і Сахарчук

**24.06.2009.** Гэта было незадоўга да таго, як Рыгор Семашкевіч на вуліцы Карла Маркса выпаў з расчыненага акна, сеўшы на падаконнік пакурыць. А дакладней, гэта было праз некалькі месяцаў пасля семінара маладых літаратараў у Каралішчавічах, дзе я пазнаёміўся з Васілём Сахарчуком, з якім мы вясной і сустрэліся. Адшукаўшы Івана Рубіна і купіўшы «чарніла», мы вырашылі схадзіць да Рыгора Семашкевіча, у якога мае сябры нядаўна вучыліся. Рыгор, зяць Янкі Брыля, сустрэў нас добра. Да самай поўначы гаварылі пра літаратуру, чыталі вершы, спрачаліся. Кончылася тым, што мы, не распранаючыся, утраіх спалі на адной вялікай канапе. Тая наша сустрэча нічым не адрозніваецца ад шматлікіх сустрэч таго часу іншых паэтаў, але, успамінаючы начлег у Семашкевіча, я ўсё больш пераконваюся ў тым, што Іван Рубін і Васіль Сахарчук былі з вельмі падобнымі душамі, бо ці могуць розныя паэты выбраць адзін шлях дабравольнага сыходу ў іншы свет…

## Шушко

**24.06.2009.** Некалькі гадоў назад, будучы ў Брэсце, сустрэў на чыгуначным вакзале Анатоля Шушко. Да адыходу майго цягніка заставалася некалькі гадзін, і мы з Анатолем, узяўшы піва, кінуліся ва ўспаміны. Успомнілі і выпілі за Рубіна, за Сахарчука, за Цялегу. На развітанне Анатоль сказаў: «А я вешацца не буду!!! І ты, Віцёк, глядзі не здурыся!»

## Грэшныя мары

**25.06.2009.** Часам хочацца, каб мне было зноў гадоў дваццаць і я зноў, як упершыню, закаханы… І ўсё яшчэ неспазнанае… І я б пісаў вершы для сваёй Цудоўнай і Непаўторнай, а яна б, не чытаючы, паліла іх, не ведаючы, што ў мяне застаюцца чарнавікі… Голас жонкі вяртае мяне з райскіх аблокаў, як з дыму ад спаленых вершаў, на зямлю…

## Дачка і бацька

**26.06.2009.** Святлана Явар, дачка Барыса Сачанкі, некалькі тыдняў назад забрала з выдавецтва рукапісы шасцітомнага Збору твораў бацькі. Забрала, а на другі дзень тэлефануе: «Прабачце, але я не ведаю, навошта я рукапісы забрала, бо ў іх няма таго, што шукаю…» А шукае яна хоць бы якія запісы, зробленыя рукой Барыса Іванавіча. Аказваецца, што ў хатнім архіве пісьменніка мала што з арыгінальнага захавалася. А чаму? Адным сказам на гэтае пытанне не адкажаш, як і не адкажаш, чаму амаль дзесяць гадоў на магіле пісьменніка не было помніка, ды і не мне на яго адказваць. Сёння патэлефанавалі з Міністэрства інфармацыі. Ім прыйшоў ліст ад Святланы Явар, у якім яна просіць не паспрыяць выданню Збору твораў Барыса Сачанкі, а яе самую ўладкаваць на працу…

## Актуальнасць

**26.06.2009.** Яўген Гучок прынёс газету «Туризм и отдых». Убачыўшы на стале кнігу Алеся Жука, сказаў: «Гэта абсалютна не актуальна! Дзе няма падполля, там адно скуголле!» «А што актуальна?» — пытаюся. «П’еса Уладзіслава Галубка “Ганка”!» — адказаў Яўген і пачаў расказваць сюжэт твора…



## ЖЗЛБ

**26.06.2009.** Прыходзіла Галіна Шаблінская з радыё. Забрала для кінарэжысёра Рубінчыка кніжку «Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!», якую яна складала і якая выйшла ў серыі «ЖЗЛБ». Узгадалі пра 23 тамы Караткевіча, якія Анатоль Верабей задумаў з калегамі-караткевічазнаўцамі выдаць у нас, пачынаючы з наступнага года і заканчваючы ў 2020. Сама Галіна цяпер рыхтуе кнігу пра Янку Купалу для серыі «ЖЗЛБ». У выдавецтва задум шмат, але ці здзейсняцца яны з-за цяперашняга фінансавага крызісу і пісьменніцкіх мітрэнгаў, а тым больш што тыя пісьменнікі, ад якіх сёння шмат што залежыць, больш думаюць пра сябе ў літаратуры, чым пра саму літаратуру. І атрымоўваецца, як у вершы Анатоля Сыса: «Паэт сказаў: п’ём за Айчыну! І кожны выпіў: за сябе…»

## Інтэлігент

**8.07.2009.** Чытаю сучасную паэзію Валожыншчыны. Землякі! Радуюся за іх. Сярод аўтараў кнігі «Нашчадкі» мой даўні знаёмы Мікалай Ганчарык. Толькі сёння даведаўся яго біяграфію: «Нарадзіўся ў 1929 годзе на хутары Нестаўшчына Пяршайскай гміны (сучасны Дорскі сельсавет) у сялянскай сям’і. Скончыў Маладзечанскі, потым Магілёўскі інстытут па спецыяльнасці настаўнік біялогіі, хіміі і геаграфіі. Пачаў працу карэктарам газеты “Сталінскі шлях”, пасля — дыктар Маладзечанскага абласнога радыё, настаўнік, завуч Пяршайскай СШ Валожынскага раёна. Заснавальнік Пяршайскага народнага тэатра, якім кіраваў 50 гадоў. Напісаў п’есы “Люцынка”, “Важная фіга”, “Перш і Ая”, народную драму “Доры”. Піша вершы. У 2005 годзе ў выдавецтве “Чатыры чвэрці” выйшла яго кніга нарысаў па геаграфіі, гісторыі, культуры і эканоміцы Пяршайскага краю “Мая Пяршайшчына”». Гэта біяграфія сапраўднага правінцыйнага інтэлігента! А колькі іх такіх, якія засталіся на роднай зямлі і спакойна, без фанабэрыі, да апошняга свайго ўздыху працуюць на ніве беларушчыны? Колькі? Нямнога. Але яны ёсць…

## Сон

**10.07.2009.** На вуліцы лета. І здаецца, што так было і будзе заўсёды цёпла, зелена і светла. А тое, што была вясна і зіма, — гэта сон, і тое, што будзе восень, а потым зноў зіма, — гэта таксама сон. І наогул наша жыццё — гэта сон, які сніцца Богу…

## Рана ці позна…

**17.07.2009.** Рана ці позна канчаецца ўсё. Рана — гэта калі ты яшчэ жывы, а позна — гэта калі ўжо цябе няма…

## Рэальнасць

**17.07.2009.** Ніхто не помніць хвіліну свайго нараджэння, як і не будзе ніколі ўспамінаць хвіліну свайго адыходу ў іншы свет. І паміж гэтымі хвілінамі рэальнасць, якая толькі і патрэбна таму, хто ў гэтай рэальнасці паміж хвілінай прыходу і адыходу…

## Чыя і што там?

**30.07.2009.** І хаця я ў адпачынку, але праз дзень-другі заходжуся ў выдавецтва. Спраў хапае і прыемных, і не. Сёння сустрэлі сігнальнымі экзэмплярамі «Чужой бацькаўшчыны» Вячаслава Адамчыка. Калі здавалі ў друкарню, усё было на месцы. Не забыліся нават напісаць, што мастак Адам Глобус, бо нярэдка выходзяць кнігі без патрэбнай інфармацыі. А тут гляджу: на першай і на апошняй старонках вокладкі напісана «Вячаслаў Адамчык. Чужая бацькаўшчына», а на карэньчыку, дзе таксама заўсёды пішацца аўтар, засталося толькі «Школьная бібліятэка»! Непрыемна! А потым, калі мы кнігу Вячаслава Адамчыка паставілі сярод дзясятка кніг серыі, то ў кожнага з нас рука пацягнулася не да пазначаных на карэньчыку аўтараў, прозвішчы якіх можна, не беручы ў рукі кнігу, прачытаць (Янка Купала, Якуб Колас, Уладзімір



Жылка, Іван Пташнікаў, Андрэй Макаёнак), а да кнігі, на карэньчыку якой няма надпісу, да кнігі Вячаслава Адамчыка «Чужая бацькаўшчына». Спрацоўвае жаданне даведацца: «А чыя і што там?»

## Хлопчык і трактар

**27.08.2009.** Ён быў на два гады маладзейшы за мяне. Ён марыў стаць трактарыстам, каб, як бацька, вясной на палі вазіць гной, араць і сеяць збожжа. Ён ужо ўмеў заводзіць «Беларуса». Але яму гэтага было мала. Яму хацелася самому сядзець у трактары за рулём і ехаць па вёсцы, каб следам курэўся пыл і беглі сабакі. І ў адзін з летніх дзён яго мара збылася: бацька пакінуў трактар каля хаты і некуды пайшоў з дому, і хлопчык, залезшы ў кабіну «Беларуса», паехаў. Спачатку памалу, а потым так, што аж пыл следам закурэўся і пабеглі, зрываючы галасы, сабакі. Выехаўшы за вёску, на павароце юны трактарыст выпусціў руль з рук, і трактар перакуліўся. Разбітым шклом кабіны хлопчыку адрэзала галаву. Яму было дванаццаць…

## Поўня

**4.09.2009.**

*Поўня — залатая шляпка цвіка,*
*забітага ў неба,*
*на якім вісіць сённяшняя ноч…*

***

**15.09.2009.** Вечар. Праходжу каля піўбара. Добра падпіты мужык нешта ціха гаворыць, трымаючы за руку вабную жанчыну. Чуецца гучны адказ: «Я паўтараю вам: я ўжо дваццаць гадоў замужам і ў мяне ёсць з кім спаць!» І мужык ужо не шэпча: «А чаго тады прыпёрлася сюды?!»

## Пажарныя жанчыны

**29.09.2009.** Вяртаюся дахаты на аўтобусе. Сяджу. Час ад часу пасля аб'яўлення прыпынкаў паўтараецца, каб уступалі месца пажылым і цяжарным жанчынам. І раптам чую замест «цяжарным» «пажарным жанчынам». І я ўстаў, бо далекавата ад сябе заўважыў некалькі вельмі «пажарных жанчын»…

***

**13.10.2009.** Гэтымі восеньскімі днямі дома горача, што немагчыма сядзець, а на працы гэтак жа холадна. Дарога на працу і назад як шлях паміж печчу і лядоўняй…

## Бацькі і паэт

**20.10.2009.** Маці і бацька паэта-песенніка Аляксандра Лягчылава, які некалькі гадоў назад памёр, не дажыўшы да шасцідзесяці, прыходзілі ў выдавецтва з просьбай выдаць кнігу сына. Пакінулі рукапіс, у якім 86 старонак тэксту. «Паміраючы, сын прасіў, каб паспрабавалі выдаць яго невялічкую кніжачку. Мы яму абяцалі пастарацца. Хацелася б выканаць яго просьбу. Нам ужо хутка будзе па 89 гадоў…» — развітваючыся са мной, сказала маці Аляксандра…

***

**12.11.2009.** Пра начальніка-самадура ў яго ж прысутнасці, як і пра памерлага, можна гаварыць або толькі добрае, або нічога…

***

**12.12.2009.** Сястра прывезла маму, якая амаль тры месяцы жыла ў яе. Мама пасля дарогі рана заснула. Цяпер у кватэры ціха, нібыта ў нас спіць немаўля…



# СТУДЗЕНЬ – СНЕЖАНЬ, 2010

**14.01.2010.** На працы суседзі па калідоры робяць рамонт. Сёння пакрывалі лакам падлогу. Такі смурод усчыніўся, што немагчыма сядзець, і я, адпусціўшы супрацоўнікаў выдавецтва з працы, сам паехаў дахаты. Дома адна мама. Падрыхтаваў ёй паесці, даў лякарства. З'ела зусім мала, і я маме сказаў: «З'еш усё! Хутка вясна! Паедзеш у вёску бульбу садзіць! Сілы патрэбны! Еш!» Мама заплакала…

## Мёртвы час

**22.01.2010.** Узгадалася. Не пайшоў у школу, а з мамай паехаў у Ракаўскую бальніцу адведаць суседку. Ідзём па калідоры. Раптам з кабінета выходзіць мажная жанчына ў белым кароткім халаце і, убачыўшы нас, кажа: «Прашу пакінуць памяшканне! У нас мёртвы час!» Пачуўшы гэта, мама заплакала: «Бедная Манька… Не паспелі…»

## Марына і сёння

**23.01.2010.** Марына працавала ў нейкай канторы, куды я не мог проста так зайсці, таму я званіў дзяўчыне, прапаноўваючы сустрэцца. Як ні пазваню, усё чую: «Я вельмі занятая. Перазвані заўтра…» Званю заўтра. «Сёння іду адведаць сваю бабулю…», «Сёння ў мяне галава баліць…», «Сёння стамілася…», «Сёння няма настрою…», «Сёння…». І я перастаў званіць Марыне…

***

**25.01.2010.** Калісьці і я быў не жанаты. Для мяне гэта не было трагедыяй, але мне хацелася мець сям'ю, і я ўжо ў 23 гады пачаў згаджацца на сяброўскія прапановы ажаніць мяне. З кім мяне толькі не знаёмілі! Адзін з паэтаў прапанаваў звесці са сваёй

сястрой. Я не адмовіўся. Прыйшоў да сябра ў госці. Сяджу, хвалююся, чакаю, калі прыйдзе мая будучая нявеста. А яна ўсё спазнялася з працы. Прыйшла… у форме малодшага сяржанта міліцыі…

## Прыемна…

**29.01.2010.** Сын ездзіў у паліклініку ў Зялёны Луг. Узяўшы накіраванне, доктарка пацікавілася: «А Віктар Шніп — гэта, можа, твой сваяк?» «Гэта мой бацька!» — адказаў Максім. Аказалася, што доктарка — фанатка маіх «Сабачых гісторый» і ў яе дома ўсе размаўляюць па-беларуску…

***

**29.01.2010.** Мама сядзіць на канапе і дрэмле. Пытаюся: «Можа, есці хочаш?» Не рэагуе, нібыта не чуе. «Дык можа сто грам наліць? Вып'еш, і пойдзем разам на санках катацца!» — спрабую развесяліць маму. Мама, усміхаючыся, злуецца і шэпча, паказваючы на тэлевізар: «Поле чудес»…

## Млын жыцця

**29.01.2010.** Прачытаў кнігу свайго земляка, краязнаўцы Генадзя Равінскага (15.07.1933–25.06.1999) «Млын жыцця», якая выйшла ў Рымска-каталіцкай парафіі Святых Сымона і Алены. З Генадзем Антонавічам мы сябравалі. На пачатку 90-х я неяк прыводзіў яго да сваёй цешчы ў госці — была задума звесці адзінокіх людзей. Нічога не атрымалася. Цяпер, успамінаючы нашы сустрэчы, мне сумна, што Генадзь Антонавіч не дажыў да выхаду сваёй кнігі, у якой ёсць і цікавыя занатоўкі пра Валожыншчыну, і шчырыя вершы…



## Прапанова

**30.01.2010.** Стаю на прыпынку — сабраўся ў супермаркет. Падыходзіць мужык і, пачаўшы пра надвор'е, кажа: «Калі хочаш, магу жаніць…» «З кім?» — бурчу ў адказ. «А вось у тым доме (паказвае праз дарогу) цэлы пад'езд адзінокіх баб усіх узростаў…» — падышоўшы бліжэй да мяне, працягвае размову мужык. «Я жанаты…» — адказваю і адыходжуся. «Падумай. Ёсць і па дваццаць гадоў…» — кідае мне ўслед мужык і, убачыўшы на прыпынку хлопца гадоў сямнаццаці, падыходзіць да яго…

***

**31.01.2010.** Амаль дзве гадзіны шукаў на дысках патрэбныя здымкі для публікацыі ў часопісе. Знерваваўся — і так і не знайшоў. У роспачы адчыніў кніжную шафу і адразу натрапіў на кніжку Міхася Стральцова «Мой свеце ясны». Пачытаў некалькі вершаў, і адразу пасвятлела і павесялела на душы, нібыта выпіў добрага віна…

## Праўдзін і Аўруцін

**17.02.2010.** Празаіку Віктару Праўдзіну мінулай ноччу прысніўся сон, у якім ён, ідучы па праспекце, сустрэў паэта Анатоля Аўруціна. Павітаўшыся, Віктар пацікавіўся: «Куды ідзеш, Анатоль?» «У цырульню. Фарбавацца. Пайшлі са мной!» — сказаў Аўруцін. «Не! Не хачу!» — адказаў Праўдзін.

## Мама і Вялікдзень

**23.02.2010.** Узгадалася. Праз пару дзён Вялікдзень. Вярнуўшыся са школы, з мамай іду за Юстынаву гару капаць хрэн. На былым іржышчы, вызваленыя з-пад снегу, сохнуць мышыныя гнёзды. У небе над намі трапеча жаўрук, рассыпаючы сваю радасную песню на ажываючую пасля марознай зімы зямлю. Прахадзіўшы па полі больш за гадзіну і знайшоўшы толькі некалькі карэньчыкаў хрэну, вяртаюся з мамай дамоў. Праз пару дзён Вялікдзень…

***

**7.03.2010.** Мама ў вёсцы, і мне не трэба ўставаць рана, але ўсё роўна прачнуўся а палове сёмай. У хаце ціха, як на вакзале, праз які два месяцы не будуць хадзіць цягнікі…

## Адам Мальдзіс

**10.03.2010.** На мінулым тыдні ў выдавецтва заходзіў Адам Мальдзіс. Браў у лік ганарара сваю кнігу. Заглянуў і да мяне ў кабінет, каб паведаміць, што маю «Баладу Андрэя Мрыя» ён паслаў у Маскву дачцэ пісьменніка. Яна пераклала твор на рускую мову і, калі прышле яму пераклад, ён мне прынясе яго на памяць. І як толькі Адам Іосіфавіч пайшоў, я зазірнуў у даведнік: 7 жніўня Мальдзісу будзе 78 гадоў…

## Скробат

**11.03.2010.** На другім курсе Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума мяне пасялілі ў інтэрнаце ў адным пакоі з дыпломнікамі. Хлопцы ўжо былі пасля войска, і іх усе паважалі, бо баяліся. Асабліва паважалі Скробата. Ён быў ростам пад два метры. І вось неяк сярод ночы вяртаецца Скробат у пакой увесь усхваляваны. Пытаюся: «Што здарылася?» «Нічога! Спі!» — рэзка адказаў хлопец, а потым, крыху памаўчаўшы, расказаў, як ён у кустах каля нашага тэхнікума паламаў праз калена рукі тром неграм, якія спрабавалі згвалтаваць дзяўчыну…

## Змрочна

**13.03.2010.** На вуліцы ідзе дробны снег. У двары змрочна. Не хочацца выходзіць з кватэры. Стаю каля акна. Бязлюдна. І толькі каты, якія пачалі марцаваць, і п'яніцы не перастаюць швэндацца пад вокнамі…



***

**18.03.2010.** Атрымаў па падпісцы «Наша слова». Газеце — 20 гадоў! Амаль пяць я прапрацаваў у ёй адказным сакратаром. Наклад на пачатку 90-х у штотыднёвіка быў каля 10 тысяч, і ўсё роўна кіраўніцтва ТБМ было незадаволенае нашай працай. Лозунг, прыдуманы мной каля дваццаці гадоў назад, «Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!» і сёння скарыстоўваецца рэдакцыяй. Гэта і прыемна, і сумна, бо наклад газеты 2000…

***

**3.04.2010.** Мастак Алесь Квяткоўскі прынёс каля пятнаццаці нумароў беластоцкай «Нівы» з нататкамі «Дзядоўскае турнэ з Анатолем С.» Міры Лукшы і Ганны Кандрацюк. Чытаў, нібыта разам з журналісткамі вандраваў у Гарошкаў на святкаванне 50-годдзя Сыса. А прачытаўшы, задумаўся, паўтараючы надпіс на помніку паэта: «Як па зорках, па расе твой апошні шлях праляжа, памірай, а жыта сей. Рунь пра сейбіта раскажа…»

***

**6.04.2010.** Учора заходзіла да мяне на працу сястра Анатоля Сыса — Валянціна. Атрымала ганарар за вершы ў кніжцы, якую я складаў. Аддасць Тамары, каб у Гарошкаве працягнуць рамонт хаты. І ўспомнілася даўняе. Прыйшоў да мяне ў «ЛіМ» Анатоль. Пачарнелы і ад сонца, і ад віна. Але найбольш ад гора — сястра Тамара засталася адна. Яна пахавала мужа і дзяцей. І патэлефанаваў ад мяне Анатоль сястры. І гаварылі мы з ёй па чарзе амаль гадзіну. А потым яшчэ доўга сядзелі ўдваіх з Анатолем і плакалі, і не пілі віна…

***

**12.04.2010.** «Я быў закаханы Снягурку. Я верыў: яна існуе. Хадзіў па заснежаным лесе, пытаў пра яе ў завей…» — такое было са мной у дванаццаць гадоў. Потым у ляску за роднай хатай сярод бяроз і асін я знайшоў невялічкую ялінку, да якой хадзіў і расказваў свае крыўды і радасці, чытаў вершы, плакаў… Усё прайшло… І мне хочацца плакаць, але я не плачу… Усё. Прайшло…

***

**17.04.2010.** Патэлефанавала жонка пісьменніка з просьбай не выдаваць мужу ганарар, бо ўсё прапівае. Пісьменнік не такі ўжо і вядомы, але ў свае за семдзесят мае каля дзясятка кніг. Апошніх пятнаццаць гадоў жанчына з ім не жыве, перайшла да дачкі, і ўсё ж амаль кожны дзень ходзіць у старую кватэру, каб прыбраць у пакоях і самога мужа прывесці ў чалавечы выгляд. Угаворы кінуць піць на пісьменніка не дзейнічаюць. Неяк пасля сваркі жанчына да мужа не хадзіла тры месяцы, а калі прыйшла, ёй давялося з дачкой вынесці з аднапакаёўкі пяцьсот пустых пляшак з-пад таннага віна. І як тут не ўспомніць вядомае: тое, што смяртэльна немцу, нашаму чалавеку, а тым больш пісьменніку, — гэта забава…

***

**19.04.2010.** Сёння маёй маме Шніп Ніне Міхайлаўне 80 гадоў. Здароўе пасля інсульту не вельмі, але па хаце тэпае і ўжо цэлы месяц збіраецца паехаць у вёску садзіць бульбу…

***

**22.04.2010.** Па выдавецкіх справах быў у пасольстве Казахстана. Інтэр’ер, мова, у паветры лёгкі пах стэпу… Вяртаўся назад, нібыта з Казахстана…

***

**23.04.2010.** Вярнуўся дамоў з добрым настроем. Выступаў з Навумам Гальпяровічам у былой кнігарні «Падпісныя выданні». Цяпер яна называецца «Кнігі і кніжачкі». Гаварылі пра паэзію, чыталі вершы, адказвалі на пытанні. Слухачы, нечакана для нас, набылі нямала нашых кніг, нягледзячы на іх кусачы кошт. Потым мы падпісалі па дзве для продажу без нас. Праз пятнаццаць хвілін (пакуль пілі гарбату) нашы кнігі з аўтографамі былі зноў прададзены. Давялося падпісаць яшчэ…



## Хто з іх шафёр?

**25.04.2010.** Хадзіў галасаваць. Выбар быў невялікі. Тры кандыдаты. У аднаго гадавы прыбытак — 40 мільёнаў, у другога — 37, а ў трэцяга — 12. Я прагаласаваў за шафёра…

## Інтэрнат на Ангарскай

**1.05.2010.** Учора выступаў у гімназіі № 21, што на вуліцы Несцерава. Ехаць было далёка, таму мне хапіла часу на ўспаміны пра гэты раён, дзе я пражыў амаль пяць гадоў на вуліцы Герасіменкі. Тады мне было дваццаць. Часта да мяне прыходзіў сябра Іван Вараўка, які працаваў на заводзе і пісаў вершы. Побач з маім кватараваннем быў інтэрнат для рабочых. Ён і цяпер ёсць. У ім многія жылі сем’ямі па дзесяць, а то і па дваццаць гадоў, і ніякіх перспектыў на свае кватэры не мелі. Я з Іванам хадзіў да дзяўчат, з якімі ён ужо сам паспеў пазнаёміцца. Дзяўчаты былі нейкія дзіўныя. Часта хаваліся ад нас і ад нашых вершаў. Можа, нехта з іх і сёння жыве ў гэтым інтэрнаце?..

## Можна было і жаніцца…

**1.05.2010.** У доме, дзе я кватараваў, на другім паверсе нашага пад’езда жыла сям’я з чатырох чалавек, з якой мае гаспадары сябравалі. Сыну было гадоў за дваццаць. Ён нідзе ніколі не вучыўся, бо нарадзіўся псіхічна хворым. Дрэнна размаўляў, а калі што і казаў, то ўсялякую брыдоту і непрыстойнасць. Дачка, вельмі прыгожая дзяўчына, закончыла школу і вучылася ў вучылішчы. І неяк, выпіваючы, сусед дамовіўся з маім гаспадаром пазнаёміць мяне са сваёй дачкой, а потым і пажаніць нас. Мне ўжо было дваццаць чатыры гады. Можна было і жаніцца. І пайшоў я знаёміцца з дзяўчынай. Суседзі мяне частавалі, хваліліся чатырохпакаёвай кватэрай, распытваліся. А я глядзеў на іх прыгожую дачку, піў гарэлку, коратка адказваў на пытанні і ўвесь час баяўся іх сына, які хадзіў, размахваючы рукамі, па кватэры туды-сюды і нешта

бубнеў сабе пад нос. Пасля знаёмства я не сустракаўся з дзяўчынай, хоць і хацелася. Я часта назіраў за ёй з акна, калі яна сядзела на лавачцы каля пад'езда. Праз паўгода суседава дачка ўжо хадзіла з хлопцам, які хутка стаў жыць у іх чатырохпакаёвай кватэры…

## Як там мама?

**18.05.2010.** Прачнуўся сярод ночы з думкай: «Як там мама?» Доўга было страшна заснуць. Сёння брат быў у Ракаве ў мамы. Ёй зусім дрэнна. Заўтра еду да мамы ў бальніцу…

## Паліць і курыць

**19.05.2010.** Першае вогнішча, якое я сам у чатыры гады распаліў, было на ганку хаты ў Лягезах, дзе гадаваўся ў цёткі Алі і дзядзькі Вані. Магла згарэць толькі што пабудаваная хата, калі б дзядзька Віця, ідучы з працы, не заўважыў, чым я займаюся. Потым я паліў вогнішчы на ганку ў Пугачах. Спрабаваць курыць пачаў у гадоў трынаццаць. Пасля дваццаці добра ўцягнуўся ў курэнне і, жывучы ў інтэрнаце Літінстытута, скурваў да дзвюх пачак у дзень, пакуль не пазнаёміўся з Людмілай. Пазнаёміўшыся, кінуў курыць, а недапаленыя цыгарэты спаліў у вогнішчы, якое расклаў на ганку інтэрната…

## Трэба

**20.05.2010.** У мяне сёння два выступленні. Адно — у школе № 136, а другое — у Музеі гісторыі беларускай літаратуры. Настрою і жадання выступаць аніякага, але трэба. І я пайду і выступлю…

## Клопаты літарацкія

**20.05.2010.** Нарэшце дома. Навыступаўся за дзень, што аж есці не хочацца. У школе № 136 не хапіла кніжак для аўтографаў. І гэта



прыемна. Запомніўся дзесяцікласнік з пытаннем: «Што вы думаеце пра гібель Качынскага?» У Музеі гісторыі беларускай літаратуры парадавалі бацькі з дзецьмі другакласнікамі — стараліся гаварыць па-беларуску і гаварылі. Да ўсяго, быў і на працы. А заўтра еду зноў да мамы ў Ракаўскую бальніцу…

***

**27.05.2010.** З бальніцы прывезлі маму. Слабая. Не ведаю, што рабіць…

***

**28.05.2010.** Мама ночай амаль не спала — ёй было кепска. І я не спаў. Раніцай, пакінуўшы маме есці, пайшоў на працу. Даў інтэрв'ю для «ЛіМа» і вярнуўся дамоў. Мама спіць, а я не магу заснуць…

***

**28.05.2010.** Толькі задрамаў, як пачаліся тэлефанаванні. І ўвесь мой сон злятучыўся, як туман ад ветру…

***

**28.05.2010.** Цёплы летні вечар. Я ў Пугачах каля бацькоўскай хаты. З-за хлява чуецца, як лятуць верталёты. Мне страшна, але я іду паглядзець. І бачу, як у бок Мінска ў начным тумане адзін за адным, несучы жоўтыя цыстэрны, нібыта ідзе грузавы цягнік, лятуць верталёты. Мінуў цэлы тыдзень, а я ўсё ніяк не магу забыцца пра гэты сон…

***

**29.05.2010.** У Навасёлках ад хаты Леаніда Жыткевіча да месца, дзе пахаваны французскія салдаты, што загінулі ў 1812 годзе, метраў трыста. Праз хвілін дзесяць я, Леанід і Анатоль Блашчыцын з кургана разглядаем наваколле. Прыгожа. Пытаюся: «А тут раскопкі былі?» «Не. Тут ніхто не капаўся. А відаць, калі капануць на метры тры, то можна натрапіць на французскія косці», — адказвае Леанід

і, паказваючы рукой удалеч на зарослую ельнікам гару, кажа: «А там замчышча. На гары і сёння ёсць прасторны роўны пляц, на якім, кажуць, стаяў вялікі замак». Збіраемся ісці да замчышча, але нечаканы навальнічны дождж парушае нашы планы…

## Анёлы і матылькі

**30.05.2010.** На пачатку сакавіка мне на працу патэлефанавала Людміла і сказала: «Я табе знайшла працу! Трэба тэрмінова зрабіць беларускамоўны варыянт песні для нейкага праекта АНТ». Доўга не думаючы, я пагадзіўся. Праз хвілін пятнаццаць Людмілаператэлефанавала і паведаміла, што пытаюцца, колькі хачу, каб мне заплацілі. Каб не напалохаць заказчыкаў, сказаў, што згодзен на сто тысяч рублёў. Вечарам па інтэрнэце атрымаў музыку, пад якую трэба пісаць тэкст. Праз гадзіны тры я зрабіў тое, што мяне больш-менш задаволіла і выслаў на АНТ. Яшчэ праз гадзіну атрымаў адказ, што тэкст вельмі спадабаўся і заўтра вечарам яго будуць запісваць. У час запісу мне тэлефанавалі, і я на хаду зрабіў у тэксце некалькі правак. Для чаго пісаў гэты тэкст, даведаўся праз некалькі дзён, калі прыйшоў на працу і мне супрацоўнікі паведамілі, што мая песня «Анёлы» ў выкананні гурта «3+2» паедзе ў Осла на Еўрабачанне. Гурт перамог на конкурсе, і пра гэта аб’явілі ў навінах па АНТ, дзе ўпершыню і прагучалі мае «Анёлы». Потым мне патэлефанавалі з тэлебачання і павіншавалі, абяцаючы ў хуткім часе выплаціць ганарар у сто тысяч рублёў. Не паспеў я добра пашкадаваць, што так слаба ацаніў сваю працу, як стала вядома з друку, што з’явіўся расіянін Макс Фадзееў, які абяцаў для гурта «3+2» напісаць новую песню за тысячы долараў. І напісаў пра матылькоў. І нашы праспявалі. І занялі 24-е месца з 25…

## Парачка

**30.05.2010.** Суботняя светлая раніца. На лавачцы каля суседняга пад’езда сядзяць незнаёмыя — хударлявая жанчына гадоў сарака пяці з мужчынам такога ж узросту. Яны падвыпітыя, кураць.



Чую з балкона: «Я нарадзілася ў Францыі. У 73-м годзе бацькі вярнуліся ў Саюз, а з імі і я. Доўга не магла прывыкнуць да савецкіх парадкаў, але неяк прывыкла. Цёткі мае жывуць у Амерыцы. Клікалі да сябе — не паехала». «Правільна зрабіла!» — коратка адказвае мужчына і, кінуўшы акурак, прапануе: «Пайшлі». «Пайшлі. Час яшчэ ёсць. Паспеем», — кажа жанчына і, узяўшы пад руку мужчыну, устае. У мужчыны заплятаюцца ногі, але ён стараецца трымацца. Парачка няспешна ідзе да дома, што насупраць майго, і знікае ў пад’ездзе…

## Развітацца…

**30.05.2010.** Пасля Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума я нідзе не працаваў сем гадоў, але жыў у Мінску. Кватараваў у старых, да якіх мяне, яшчэ студэнта, адвяла стрыечная сястра Ніна, каб яе муж перастаў мяне цягаць па розных п’яных кампаніях. Дзеду з бабай у 1980 годзе далі новую аднапакаёўку на вуліцы Люсі Герасіменкі, і я з імі туды пераехаў з завулка Дзмітрава, што быў каля Паркавай магістралі. І так я зжыўся са старымі, што яны да мяне адносіліся як да роднага. Я на ўсіх кожны дзень гатаваў есці, мыў бялізну, прыбіраў у кватэры, хадзіў па крамах, а ў вольны час блытаўся па горадзе, чытаў кніжкі і пісаў вершы. Бабуля, неяк захварэўшы, хутка зусім злягла, і я з дзедам яе гады тры даглядаў, не думаючы: «А навошта мне ўсё гэта здалося?» Вясной 1985 года паступіў у Літаратурны інстытут у Маскве на ВЛК і летам паехаў у вёску на два месяцы да бацькоў. Перад ад’ездам у Маскву заехаў да старых, каб аддаць ім ключы і развітацца. Зайшоў у кватэру, а ў ёй сярод пакоя стаяла труна, у якой ляжала бабуля…

***

**2.06.2010.** На пачатку працоўнага дня да мяне з вёскі прыехаў мастак Генадзь Сянькоўскі і прывёз афармленне кніжкі Віталя Вольскага «Несцерка». Ілюстрацыі да п’есы былі зроблены гадоў трыццаць назад як дыпломная работа ў тэатральна-мастацкім

інстытуце і яшчэ ні разу не друкаваліся, бо калі Генадзь звяртаўся ў выдавецтвы, то яму казалі, што гэтай кніжкі ў іх няма ў плане, а без плана нічога не атрымаецца. У мінулым годзе ў афармленні Сянькоўскага ў «Мастацкай літаратуры» выйшла кніжка Максіма Багдановіча «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык». Выданне атрымалася файнае, а ілюстрацыі ў мастака ляжалі больш дзесяці гадоў…

***

**5.06.2010.** У душы я рамантык і авантурыст. Цалкам быць такім да дваццаці сямі гадоў не дазваляла мама, якая амаль кожны дзень, калі я жыў з ёй, казала мне: «Не хадзі! Не рабі! Не чапай! А што людзі скажуць?» І ўсё ж я нярэдка дазваляў сабе быць дрэнным хлопцам, але не дрэнным сынам, бо ўдалечыні ад мамы я думаў сам: «А што мама скажа?» Пасля дваццаці сямі гадоў, калі жаніўся, ад неабдуманых учынкаў мяне стрымлівае адказнасць за сям'ю. Таму толькі ў сваіх творах я і бабнік, і алкаголік, і курыльшчык, і авантурыст…

## У сталовай

**7.06.2010.** Абедаць хаджу ў сталовую, што побач з Палацам спорта. Апошнім часам са мной у чарзе стаяць юныя спартсмены, якія кормяцца бясплатна. Мяркуючы па росце іх трэнераў, дзеці займаюцца баскетболам. Гляджу на спартсменаў і дзіўлюся, што амаль палова з іх невысокага росту і многія прыгорбленыя. Відаць, бацькі аддалі дзяцей у баскетбольную секцыю, каб тыя падраслі і выпрасталіся. Нехта з іх падрасце, выпрастаецца і кіне секцыю, а нехта, нягеглы, і далей будзе займацца спортам і, прадстаўляючы нашу краіну на міжнароднай арэне, будзе прайграваць тым камандам, у якія ад самага пачатку прыйшлі здаровыя дзеці…



## Жонка пісьменніка

**10.06.2010.** З самага ранку да мяне на працу прыйшла жонка пісьменніка, які ўжо каля дзесяці гадоў як памёр, а яна (малайчына!) па сённяшні дзень клапоціцца пра перавыданне твораў мужа. Праўда, яе найбольш цікавяць ганарары, бо сама ўжо хутка два гады як беспрацоўная. Дзеці ўжо дарослыя, самі зарабляюць грошы. На працу ў якую-небудзь рэдакцыю жонка пісьменніка не можа ўладкавацца, бо ці то месцаў няма, ці проста не хочуць яе браць, бо добра ведаюць яе характар. Жыць цяжка. Просіць, каб дапамог дзе-небудзь уладкавацца. Кажу, што цяпер знайсці працу ў рэдакцыях амаль немагчыма. Прапаную пашукаць у іншай сферы, стрымліваючыся сказаць: «А можа трэба пайсці прыбіральшчыцай ці вартаўніком папрацаваць часова, а не сядзець на шыі ў дзяцей і не хадзіць па рэдакцыях і плакацца!» А яна: «У свае пяцьдзясят я не буду з дыктафонам бегаць па мерапрыемствах! І не забывайцеся, што я жонка пісьменніка!»

## Заданне на лета

**11.06.2010.** Тэлефанавала жонка памерлага паэта і скардзілася, што ў адным экзэмпляры мужавай кніжкі, якую набыў яе знаёмы, на 48-й старонцы дрэнна аддрукаваны фотаздымак. Адчытаўшы выдавецтва за неахайную работу, запатрабавала ўважліва пералістаць усе кніжкі мужа, якія яшчэ не прададзены, а іх засталося каля 800, і экзэмпляры з дрэнна аддрукаванымі фотаздымкамі перавыдаць так, як трэба…

***

**12.06.2010.** Узгадалася. Гадзіны чатыры ночы. Цемра непраглядная. З аднакласнікамі вяртаюся з Еленкі з танцаў. Дарога праз лес. Страшна аж жутка, бо здаецца, што навокал за намі сочаць вурдалакі, якія ў любы момант могуць напасці на нас. І мы ідзём моўчкі і не азіраючыся. І ў мяне перад вачыма, як ікона, постаць аднакласніцы, з якой я танцаваў…

***

**19.06.2010.** Чэмпіянат свету па футболе нагадвае нам, беларусам, што акрамя Еўропы на свеце ёсць Афрыка, Амерыка, Азія і Аўстралія, дзе любяць, а самае галоўнае — умеюць гуляць у футбол…

***

**23.06.2010.** Ствараючы балады пра нашых вядомых і малавядомых нацыянальных герояў, якія жылі 150–300 гадоў таму, захапляюся іх самаахвярнасцю дзеля волі роднага краю. Амаль усе яны былі літаратарамі, мастакамі, краязнаўцамі, выдаўцамі, і амаль усе яны былі калі не паўстанцамі, то вальнадумцамі, якіх знішчалі і знішчалі чужынцы, што гаспадарылі на нашай зямлі… І цяпер у нас ёсць сапраўдныя нацыянальныя героі. Але, задумваючы новыя балады і перачытваючы ўжо створаныя, раптам запытаўся ў самога сябе: «Ці можа памерлы літаратар, мастак, палітык, які пры жыцці быў алкаголікам, вісельнікам або хапугам, быць нацыянальным героем?»

***

**25.06.2010.** Гляджу серыял пра ГУЛАГ, зняты па аўтабіяграфічных творах Шаламава. Уражвае. Узгадалася кніжка Сяргея Грахоўскага «Зона маўчання». Пра ГУЛАГ пісаў і Павел Пруднікаў. Былі б у нас добрыя кінасцэнарысты і рэжысёры, можна было б і ў нас у Беларусі свой серыял зняць пра рэпрэсаваную беларускую інтэлігенцыю. Але, але…

## Валейбалістка

**19.07.2010.** У час летніх вакацый часта па вечарах дапазна з сябрамі гуляў у валейбол. Нярэдка да нашай кампаніі далучалася дзяўчына з Гіневіч, якая прыходзіла ў Пугачы і заставалася начаваць у сваёй стрыечнай сястры. Дзяўчына мне падабалася, і я, калі яна мяч адбівала на мяне, думаў, што і я ёй падабаюся. І пасля, паехаўшы ў Мінск вучыцца, я часта марыў, каб як-небудзь сустрэцца з ёй у нашым аўтобусе. Мара мая збылася недзе праз гадоў пяць, калі ехаў з вёскі ў горад. Яна зайшла ў аўтобус з малой дзяўчынкай на руках, а следам за ёй залез малады мужчына з велізарнымі сумкамі. Пазней я даведаўся, што мая валейбалістка выйшла замуж за футбаліста, які гуляў у дублі мінскага «Дынама»…

***

**2.08.2010.** Пасля адпачынку першы дзень на працы. Усе жывыя і здаровыя. Выйшла некалькі новых кніжак. На практыку на паўтара месяцы да нас прыйшло дзесяць чалавек студэнтаў. Прачытаў ім цэлую лекцыю па беларускай літаратуры і кнігавыдавецкай справе і адпусціў дамоў. Цяпер, як звычайна, моладзь прыйдзе ў канцы месяца. Праўда, бывае, што студэнты з'яўляюцца на практыку праз тыдзень пасля таго, як практыка закончылася. Але і ў гэтым выпадку я нікому праблем не ствараў, бо ўсё разумею: «Маладыя гады… Маладыя жаданні…»

***

**3.08.2010.** Сёння «Комсомольская правда в Белоруссии» на першай старонцы паведаміла, што адзін вядомы шоумен ажаніўся ў трэці раз і ў час вяселля вазіў па Мінску жонку на рарытэтным «Бэнтлі». Ну што тут можна сказаць? Маладзец! І тут жа дабавіць: «У правільным накірунку рухаецеся, гаспадзін-таварышч!» Аднак няўжо гэта найгалоўнейшая падзея ў Беларусі за апошнія дні? Праўда, можа, гэта і сапраўды самая галоўная падзея ў неіснуючай краіне пад назвай «Белоруссия»…

## Журналісцкая інтэрвенцыя

**3.08.2010.** Другі дзень на працы. Перажываю журналісцкую інтэрвенцыю: учора даў два інтэрв'ю і сёння два. Выданні розныя, карэспандэнты розныя, а пытаюцца пра адно і тое ж. Стараўся адказваць па-рознаму і цікава, каб ніхто не падумаў, што карэспандэнты спісалі адзін у аднаго. І ўсё ж ведаю: у рэдакцыях падгаблююць маю лірыку і філасофію і застануцца адны голыя

лічбы і назвы кніжак, і атрымаюцца з шніпаўскіх шапатлівых бяроз звычайныя інфармацыйныя слупы…

## Не п'ём!

**4.08.2010.** Нечакана, пасля доўгага перапынку, патэлефанаваў знаёмы, былы алкаголік, які ўжо трынаццаць гадоў не п'е. Павітаўшыся, адразу запытаўся: «Як там твая цвярозасць?» У голасе гучалі ноткі страху, што я не стрымаўся і пачаў паціху выпіваць, а значыць, мы ўжо сталі зноў чужымі людзьмі. «9 лістапада будзе тры гады, як не бяру ні грама!» — адказаў я, і мой знаёмы адразу павесялеў…

## Кантакт! Ёсць кантакт!

**5.08.2010.** Пісьменнік Яўген Лецка, які рыхтуе для нашага выдавецтва кнігу «Навагрудчына літаратурная», прынёс для набору некаторыя матэрыялы. Забраўшы іх, я з Яўгенам Рыгоравічам пайшоў да ліфта, дзе сустрэлі сімпатычную, гадоў дваццаці, дзяўчыну. Акінуўшы яе вокам, Лецка тут жа прапанаваў: «Давайце я пра вас кніжку напішу! А Віктар яе надрукуе!» Дзяўчына не адмовілася, і Лецка пачаў хваліць яе прыгажосць. Што было далей, я не ведаю, бо выйшаў па справах на пятым паверсе. Вярнуўшыся да сябе ў кабінет, зазірнуў у тэлефонны даведнік і ўбачыў, што Яўгену Рыгоравічу 66 гадоў…

## І яшчэ адзін паэт…

**9.08.2010.** З Гомельскай вобласці прыехала жанчына — прывезла паказаць мужавы вершы. Творы, у параўнанні з тым, што амаль кожны дзень прыносяць у выдавецтва ўсё новыя і новыя рыфмаплёты, больш-менш чытэльныя. Пытаюся: «Ці даўно ваш муж піша?» «У дваццаць гадоў пачаў, а цяпер яму шэсцьдзясят», — адказала жанчына. «А што ён столькі часу рабіў і не хадзіў па рэдакцыях?» — цікаўлюся. «У школе выкладаў гісторыю. Ён і цяпер нікому не паказаў бы вершаў, а я вось сама ўзяла іх і прывезла вам. Можа, што і вартае напісаў», — сказала жанчына. І я, крыху пахваліўшы творы за шчырасць, адправіў яе ў часопіс «Нёман». Можа, там што і выберуць да друку, а можа, і не…

## Наш Максім

**9.08.2010.** Тыдзень назад сына адправілі на мора ў Балгарыю. Не тэлефануе і не піша праз інтэрнэт, а нам з ім не звязацца. «Відаць, ужо ў нейкую закахаўся!» — кажу Людміле і чую: «Наш можа…»

***

**9.08.2010.** Патэлефанаваў з Маладзечына краязнаўца Міхась Казлоўскі. Запрасіў на канферэнцыю, прысвечаную Уладзіміру Караткевічу, якую арганізоўвае ў бібліятэцы, дзе працуе. Даведаўся ад Міхася, што ўчора ўздоўж дарогі ў бок Вілейкі за 20 хвілін бура амаль усе дрэвы, як касой траву, скасіла. Адразу ўспомніўся бацька, які цяпер адзін у вёсцы…

***

**10.08.2010.** Майстэрня Алеся Квяткоўскага знаходзіцца ў паўпадвальнай кватэры, і я люблю ў яе залазіць праз акно. Лезеш і адчуваеш сябе хлапчуком, які, калі спатрэбіцца, па вадасцёкавай трубе залезе на любы паверх, абы яго там чакалі. Вось і сёння наведаўся да Алеся, які рыхтуецца да новай выставы ў адным з раённых цэнтраў. Збіраецца паказаць карціны, прысвечаныя Анатолю Сысу і напісаныя паводле маіх верлібраў. Узгадалі нашу Валожыншчыну, памарылі. І, апусціўшыся з паэтычных мрояў на зямлю, я дамоў пайшоў праз дзверы…

# Шупенька і Дубінка

**11.08.2010.** На працы даведаўся, што сёння пахавалі літаратуразнаўцу Генадзя Шупеньку, які ў свой час працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Апошія гады ён хварэў. Чалавекам Генадзь быў вясёлым, добра іграў на гармоніку і спяваў, тварыў мала, бо браўся пісаць не пра ўсіх. Пражыў 74 гады…

Заўтра адбудзецца пахаванне празаіка Вячаслава Дубінкі. Успамінаецца канец 80-х гадоў. Тады я працаваў у часопісе «Беларусь» у аддзеле культуры, і да нас у рэдакцыю часта заходзіў наш няштатны супрацоўнік Вячаслаў Дубінка, які заўсёды на святы прыносіў свае цудоўныя падарункі-выцінанкі. Цяпер у мяне дома тое-сёе з яго работ захоўваецца. Некалькі разоў быў у яго майстэрні. Недзе тыдзень назад мы сустрэліся на праспекце. Маглі размінуцца, нібыта не пазнаўшы адзін аднаго, але мы павіталіся і крыху пагаварылі пра жыццё-быццё. Шкада, што пісьменнік мала пісаў і друкаваўся. Вячаславу было 69…

***

**15.08.2010.** З Людмілай хадзіў у супермаркет «Карона». Пакуль яна на другім паверсе заглядала ў буцікі, сядзеў на лавачцы і разглядаў самазадаволеных самцоў і самак, якіх сёння было вельмі шмат сярод звычайных людзей…

***

**15.08.2010.** З артыстам Купалаўскага тэатра Алегам Гарбузам пазнаёміўся недзе ў 1998 годзе, калі ён прыходзіў у «ЛіМ» да нашых дзяўчат-камп'ютаршчыц з сяброўкай, якая была аднакласніцай лімаўскай наборшчыцы Вольгі. Мы тады хораша пагаманілі, пілі віно, жартавалі. Пасля з Алегам яшчэ некалькі разоў быў у кампаніі нашых дзяўчат. Сёння ж сустрэўся з ім у супермаркеце «Карона». Алег быў з дзяўчынай. Праходзячы міма, ён на міг глянуў мне ў вочы і пайшоў далей, нібыта мы незнаёмыя. А можа, Алег і забыўся пра мяне, бо прайшло шмат часу, калі мы знаёміліся. Праз хвілін дзесяць я зноў сустрэўся з Алегам і яго сяброўкай.



Ізноў мы прайшлі міма адзін аднаго. А праз хвілін пятнаццаць я ўбачыў, як Алег выбіраў пляшку з дарагім напоем на паліцы, дзе зніжаны кошты. Цяпер ён мяне не бачыў. І падумалася: быў бы я такім шабутным, як Анатоль Сыс, сёння ў Гарбуза была б праблема, як адшыць мяне і застацца аднаму з дзяўчынай…

# Прага мастацкасці

**17.08.2010.** У сваім кабінеце сярод старых выданняў знайшоў кніжку «Прага мастацкасці» (1996) Генадзя Шупенькі, які нядаўна памёр. Кніга падпісана адной з супрацоўніц выдавецтва: «Паважанай, мілай, якая так шмат зрабіла, так дапамагла, каб гэтая кніга пабачыла ўсё-ткі свет… Хай жа Бог дае…» Пажаданні Генадзя Шупенькі шчырыя і светлыя, але ягоная кніга, як непатрэбная, ужо 14 гадоў пыліцца ў выдавецкай шафе. Словам, ты дзякуеш некаторым людзям і дорыш ім сваю «прагу мастацкасці», а ім гэта нічога не патрэбна…

***

**18.08.2010.** Патэлефанаваў Янка Сіпакоў і пахваліў мой лімаўскі артыкул да юбілею Галубовіча: «Нібыта зноў пабыў з вамі, хлопцы, у Каралішчавічах. У вас была добрая кампанія: Сыс, Мінкін, Арлоў, Сахарчук, Шушко, Вераціла, Наварыч, Ягоўдзік… Я ж тады быў у Саюзе пісьменнікаў адказным за работу з маладымі. І кожны год дзяржава не шкадавала грошай на семінары…»

# А я дома…

**21.08.2010.** Людміла з Веранікай паехалі ў Гальшаны на рыцарскі фестываль. Фэст прысвячаецца ажно чатыром датам: 730-годдзю заснавання Гальшанаў, 605-годдзю Соф'і Гальшанскай, 600-годдзю перамогі ў Грунвальдскай бітве і 400-годдзю замка. А я застаўся дома даглядаць маму…

## Мадзільяні і мама

**21.08.2010.** З мамай глядзім фільм «Мадзільяні» і ядзім смажаную мойву. І нам хораша… І, калі канчаецца фільм, мама засынае, а я плачу…

***

**21.08.2010.** Слухаю свае блатныя песні з «Чырвонага ліхтара»… Мала хто ведае мяне такога… І, можа, гэта і добра, што мяне не ведаюць такога…

***

**22.08.2010.** Нарэшце з Балгарыі вярнуўся наш Максім. Расказаў нам, як яму там на моры было добра: у кампаніі паспрабаваў курыць кальян (сказаў, што болей курыць зусім не будзе), пару разоў піў «Марціні» і амаль кожны вечар падоўгу глядзеў з балкона на заходзячае сонца, а потым запісваў свае думкі… Нічога не зробіш — хлопцу ўжо 17 гадоў, і я ў яго ўзросце, жывучы ў інтэрнаце, бывала, піў стаканамі «чарніла» і глядзеў на каляндар, чакаючы чарговай стыпендыі…

## Прадаўшчыца

**24.08.2010.** Напрыканцы працоўнага дня мне патэлефанавала нейкая бабуля: «Шаноўнае выдавецтва, купіце ў мяне кніжкі Бажова, Салтыкова-Шчадрына, “Сказки зарубежных писателей”, “Рускія народныя казкі” і “Рассказы русских писателей” і выдайце іх у сябе». Я не адразу зразумеў, што бабуля хоча ад выдавецтва, і запытаўся: «Нашто нам іх купляць?» «Калі вы іх у мяне не купіце, то я прадам іх іншаму выдавецтву, і яны будуць багатымі, а вы разарыцеся!» — заявіла бабуля. «Лагічна! А па колькі вы прадаяце кніжкі? Можа, у нас такіх грошай няма, якія вы хочаце за іх атрымаць?» — пацікавіўся я. «Я прадаю не дарага. Усяго па дзве тысячы за кніжку. За пяць будзе дзесяць тысяч!» — сказала бабуля. «Добра. Пакіньце мне свой тэлефон. Я тут з начальствам параюся



і потым вам патэлефаную», — прапанаваў я, і бабуля тут жа назвала свой нумар тэлефона…

***

**28.08.2010.** На вуліцы змрочна, цярусіць дождж. Я напёк дранікаў і ўсіх, хто дома, накарміў. З вёскі патэлефанаваў брат Вова. Ён цяпер у бацькі. А я з мамай… І нам усім добра і спакойна…

## Яны побач…

**28.08.2010.** Слухаю песню Сяргея Новіка-Пеюна «Зорачкі» ў выкананні Данчыка. І раптам адчуваю, што паэт побач са мной. Ён таксама спявае. Азіраюся, а ў пакоі і Сыс, і Стральцоў, і Караткевіч, і… Яны побач, і мне не страшна…

***

**30.08.2010.** Учора маму да сябе забрала сястра. Развіталіся са слязамі і моўчкі, бо мама не можа гаварыць пасля інсульту, а я маўчаў, бо не ведаў, што сказаць на развітанне. Цяпер я як сірата…

## Школьны партфель

**30.08.2010.** Свой першы школьны партфель я не памятаю. Помню апошні. У ім пасля школы некалькі гадоў замест кніжак ляжалі аўтаматныя і кулямётныя патроны, якія я з сябрамі знайшоў, капаючыся там, дзе ў час вайны ішлі баі. Партфель мог бы яшчэ і сёння вісець на сцяне пад ватоўкамі, калі б мама не захацела яго скарыстаць у гаспадарцы. Знайшоўшы ў партфелі патроны, яна яго занесла ў Гаік і выкінула ў сажалку, якая і сёння існуе. І ляжыць мой школьны партфель, напоўнены патронамі, у вадзе і, магчыма, ён чакае мяне, але…

## Малочны express

**31.08.2010.** У нядзелю з Людмілай хадзілі на «Ракаўскі кірмаш». Большая палова крам на рамонце. Тое-сёе купілі, хацелі тут жа на кірмашы перакусіць і не змаглі, бо ці заняты ўсе столікі, ці няма чаго заказаць. Я прапанаваў зазірнуць у «Макдональдс». Пайшлі. Людміла купіла паесці і папіць. Сядзелі на вуліцы пад велізарным парасонам. Было ветрана. Цёплая ежа саграваа. Пачаўшы піць малочны express, а ён быў з марозівам, падумаў: «Вельмі халодны. Можна прастыць…» Падумаў, але пашкадаваў кінуць піцво, бо заплочана. І вось ужо другі дзень лячуся…

## Пасля тэракта

**3.09.2010.** Еду ў маскоўскім мятро. Людзей поўны вагон. Некалькі чалавек падобныя на шахідаў. Ды і я сам з вялікім чорным партфелем, які набіты кніжкамі, як тэрарыст…

## Масцістыя паэты

**8.09.2010.** Жанчына пенсійнага ўзросту ў Беларусь прыехала з Палтавы, каб наведаць магілу мужа, які пахаваны ў Маладзечыне. Наведала і, вяртаючыся назад на Украіну, зайшлася ў «Мастацкую літаратуру», каб прапанаваць да друку свае вершы. Чытаючы творы жанчыны, я пацікавіўся: «А вы іх паказвалі каму-небудзь ці не?» «Я была ў Кіеве ў масцістых паэтаў. Яны мяне так раскрытыкавалі, што я больш да іх ніколі не пайду!» — адказала жанчына і тут жа запыталася: «А вы масцісты?» «Не. Не масцісты!» — адказаў я. «А дзе тут у вас у Мінску ёсць масцістыя паэты?» — забіраючы свае творы, пацікавілася жанчына…

***

**11.09.2010.** У Барунах у Храме нам, вандроўнікам, дазволілі вольна хадзіць і фатаграфаваць. Усе малітоўнікі і надпісы па-польску. «Ой, як хараша! Усё, як у маёй любімай Польшчы!» — выказала задавальненне пажылая жанчына і перажагналася.

***

**11.09.2010.** У Гальшанах у касцёле нам не дазволілі вольна хадзіць. Усё па-польску. Але ўсё роўна гэта — Беларусь. Наша Беларусь…

***

**12.09.2010.** У час экскурсійнай вандроўкі ў Барунах, выйшаўшы з касцёла, вырашыў пафатаграфаваць Храм. На цвінтары на чорным асфальце наткнуўся на вялікага шэрага пацука без галавы…

***

**12.09.2010.** Учарашняя вандроўка ў Крэва, Гальшаны, Баруны, Суботнікі і Жамыслаўль надала радкам Рыгора Барадуліна «Трэба дома бываць часцей, / Трэба дома бываць не госцем, / Каб душою не ачарсцвець, / Каб не страціць святое штосьці…» яшчэ больш значны і глыбейшы сэнс…

## Шпет

**14.09.2010.** Перад абедам да мяне зайшла практыкантка і, падаючы на подпіс тытульныя аркушы практычнай работы, папрасіла: «Віктар Анатольевіч, прабачце, тут няправільна ваша прозвішча надрукавалі». Я ўзяў паперы. Чытаю: «Галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура” В. А. Шпет». Адразу ж мне захацелася перакрэсліць увесь аркуш, а пасля ўзяць яго і парваць. Няхай передрукуе правільна. Але, паглядзеўшы на сімпатычную студэнтку, якая яшчэ раз папрасіла прабачэння і абяцала паправіць прозвішча, я распісаўся за Шпета…

## Анатоль Кірвель

**14.09.2010.** У рукі трапіла кніжка Анатоля Кірвеля «…Пунктиръ…», якую ён мне падпісаў 29 сакавіка 2006 года. Анатоля

ўжо некалькі гадоў няма сярод нас. Жыў ён у Санкт-Пецярбургу, а калі стала дрэнна са здароўем, паміраць прыехаў на родную зямлю ў Мінск. Чытаю кнігу. Напісана нядрэнна. Але чаму па-руску? Няўжо каб быць не толькі беларускім пісьменнікам? Далей не чытаю, а дагортваю кнігу да канца і бачу на апошняй старонцы: «Перевод с белорусского осуществлён автором»… Прабач, Анатоль, што кепска падумаў пра цябе…

## Дачка і маці

**18.09.2010.** Дачка і маці. У белых куртках і нагавіцах. Маці гадоў пад шэсцьдзясят, дачцэ за трыццаць, сімпатычная. Абое нападпітку. Няспешна ідуць па вуліцы. Я на пошту, і яны на пошту. Я ў ашчадны банк, і яны за мной. Я ў краму. І яны ў краме. Старая прыстае да ўсіх і сварыцца. Дачка больш культурная. Стоячы ў краме ў чарзе, а маці з дачкой сталі за мной, я ўвесь час пабойваўся, што яны прычэпяцца да мяне. Можа б, і прычапіліся, але я быў як каменны і, купіўшы што мне патрэбна, уцёк дварамі дадому…

***

**21.09.2010.** Рыхтуемся выдаць для школ партрэты класікаў беларускай літаратуры, спісак якіх зацверджаны Міністэрствам адукацыі. Пісьменнікаў малюе мастак-партрэтыст. Большасць класікаў было намалявана і прынята нашымі выдавецкімі мастакамі з першага прагляду. Партрэты Броўкі і Чыгрынава мастак будзе перамалёўваць ужо чацвёрты раз…

## Старая і белы кот

**26.09.2010.** У суседнім пад'ездзе зноў з'явілася старая, падобная на смерць. Учора цэлы дзень я назіраў, як яна падсаджвала вялікага белага ката на дрэва. Кот увесь час вырываўся з яе рук, а вырваўшыся, хаваўся пад куст. Старая хуценька падыходзіла да куста і за хвост выцягвала з-пад яго ката, які кіпцямі дзёр зямлю і маўчаў. Выцягнуўшы ката, старая зноў пхала яго на дрэва. Кот вырываўся і, вырваўшыся, зноў уцякаў пад куст. Так працягвалася недзе з гадзіну. Потым старая ўзяла ката пад паху і пайшла ў пад'езд. Недзе праз гадзіны дзве старая зноў выйшла з белым катом і ізноў пачала яго піхаць на дрэва. Сёння на вуліцы не бачна ні старой, ні белага ката…

## У ліфце

**27.09.2010.** Заходжу ў ліфт. А ў ім дзве жанчыны размаўляюць. Чарнявая кажа: «Мая ўжо ў наступным годзе абараняе дыплом. Уладкавалася добра. Жыве з нейкім старым мужыком. Кажу ёй, каб выходзіла замуж. Не хоча. Кажа, што цяпер у яе амаль кожны дзень цукеркі і кветкі, а як выйдзе замуж, дык гэтага нічога не будзе…» Праз хвіліну выходжу з ліфта і ўздыхаю, нібыта ўздымаўся на дзявяты паверх пешкі…

***

**9.10.2010.** Няспешна чытаю Марыенгофа. Сілён, Сабака!

***

**9.10.2010.** Праходзячы каля пошты, успомніў, што ўчора прыйшло паведамленне, каб атрымаў бандэрольку з Нясвіжа. Чамусьці адразу падумалася, што гэта Леанід Галубовіч выслаў мне з Людмілай сваю кніжку «Сыс і кулуары». Зайшоў на пошту. Паштальёнка доўга шукала і нічога не знайшла. Параіла ўзяць паведамленне, дзе будзе пазначана, што ж мне прыслалі. Пайшоў дамоў, узяў паведамленне. Аказалася, што атрымаць бандэрольку мне можна ў другой паштальёнкі. Знайшоў патрэбную жанчыну. А яна мне і кажа: «Без пашпарта нічога не дам!» Прынёс пашпарт і атрымаў з Нясвіжа кніжку вершаў ад невядомага мясцовага паэта, якому ўжо недзе пад восемдзесят…

***

**14.10.2010.** Гадоў 25 мой бацька пасвіў калгасных кароў. Існуе меркаванне, што ўсе пастухі п'янтосы. Не! Не ўсе! Бацька мой на працы не піў. І цяпер з адзіноты ў свае 79 гадоў не п'е…

***

**22.10.2010.** Прагледзеў Галубовічаву кнігу «Сыс і кулуары», бо раней амаль усё чытаў у «ЛіМе». Напароўся, як на ражон: «Федарэнка — не “хітраван”, як піша Л. Алейнік у лімаўскім аглядзе майскіх часопісаў, ён проста “ўбогі геній” сучаснай нацыянальнай прозы і самотны пакутнік уласнага няўдала скроенага жыцця…»

## І ўсё ж…

**23.10.2010.** Рукапіс кніжкі «Пошук радасці», а дакладней тыя творы, якія пакінуў Міхась Стральцоў, я ў 1985 годзе здаў у выдавецтва. Рэдактарам кніжкі быў Леанід Дранько-Майсюк, які, прачытаўшы рукапіс, параіў зняць цэлы раздзел вершаў (амаль сто) пра каханне, сказаўшы: «Здымі іх, бо потым пашкадуеш!» І ўсё ж я неяк угаварыў Леаніда пакінуць дзесяць вершаў, якія паспяхова згубіліся сярод астатніх твораў. Сёння, перачытваючы тыя вершы пра каханне, шкадую, што тады паслухаўся свайго рэдактара, які пазней стаў аўтарам вершаў для А. А можа, не трэба шкадаваць, бо ўсё прайшло, як з белых яблынь дым… І ўсё ж…

***

**27.10.2010.** Вяртаючыся дамоў з бібліятэкі імя Багушэвіча, дзе выступаў з Людмілай Рублеўскай перад студэнтамі, пайшоў праз падземны пераход станцыі мятро Пушкінская. Іду і раптам бачу натоўп людзей, сярод якіх стаіць паэт. Падыходжу бліжэй, а паэт кардонны…

***

**9.11.2010.** Міхась Кенька ў час абеду прывёў у выдавецтва 12 філфакаўцаў з рускага аддзялення, каб я расказаў пра «Мастацкую літаратуру» і пачытаў свае вершы. Расказаў, пачытаў, адказаў на пытанні, пазаймаўся «матэматыкай». З 12 студэнтаў толькі два хлопцы. Дзве дзяўчыны пішуць вершы. Адна толькі па-руску, другая па-беларуску і па-руску. На сустрэчу дайшлі ўсе. Звычайна



Кенька па дарозе да выдавецтва палову губляў. Праўда, раней студэнты былі старэйшых курсаў…

***

**16.11.2010.** «Турма як вялікае тлеючае белае каменнае вогнішча…» — падумалася, гледзячы на Пішчалаўскі замак…

***

**23.11.2010.** З самага ранку на працу патэлефанавалі з беларускай амбасады ў Японіі. Пыталіся нумар тэлефона Андрэя Федарэнкі. Даў. Можа, цяпер Андрэя запросяць з’ездзіць у Японію, а то яму тут у нас, апошнім часам, сумнавата…

## Жанчыны і секс

23.11.2010. Дзіяна Балыка прынесла творы ў чарговы зборнік серыі «Вера. Надзея. Любоў». Жанчыны ў камп’ютарнай, як толькі Дзіяна пайшла, пачалі зачытваць асобныя мініяцюры і, чырванеючы, задаволена смяяцца з сексуальных прыгод гераіні прапанаваных твораў…

## І ўжо два гады…

**28.11.2010.** Раней кожны год недзе ў канцы лістапада ці ў пачатку снежня ездзіў у вёску да бацькоў, каб паўдзельнічаць у дзяльбе кабанчыка. Са швайкай не хадзіў, а кожны раз хаваўся ў хаце і ўключаў мацней радыё, каб не чуць перадсмяротны віскат свінні. Потым ужо, калі трэба было смаліць і разбіраць, я быў ці не самым галоўным у гэтых справах. Крыві ніколі не баяўся і цяпер нават часам шкадую, што, калі мужчыны пілі кроў, не паспрабаваў гэта зрабіць разам з імі. І ўжо два гады, як у вёсцы, дзе цяпер адзін бацька, ніякай гаспадаркі ў нас няма, але ў гэты час, калі пачынаюцца маразы і выпадае першы снег, у паветры мне чуецца свінячы віскат і пах смалення…

***

**16.12.2010.** Мама падышла да акна і, гледзячы на вуліцу, шэпча: «Зіма… Снег…»

***

**17.12.2010.** У жыцці заўсёды так: сто варыянтаў перадумаеш таго, што можа быць, а будзе сто першы, перадумаеш тысячу, а будзе тысяча першы. Таму ці варта многа думаць? Рабіць трэба думаючы!

***

**19.12.2010.** Над Мінскам снег. А над Еўропай чыстае неба…

***

**19.12.2010.** Дзесяць гадзін раніцы, а ў двары ні чалавека, нібыта ўсе вымерзлі. І толькі вароны па дрэвах скачуць…

# СТУДЗЕНЬ – СНЕЖАНЬ, 2011

**5.01.2011.** Два апошнія месяцы глядзеў хворую маму. Замэнчыўся да таго, што перад Новым годам ад розных стрэсаў амаль перастаў працаваць страўнік. Адчуваў сябе так, нібыта ў жываце поўна бітага шкла. Ужо тыдзень жыву толькі на кашах і вадзе. Суцяшаю сябе тым, што якраз цяпер пост. Да дактароў не звяртаўся і не звяртаюся. І ў паліклініцы няма маёй асабістай справы. Гадзіну назад маму ад мяне забрала мая сястра Валя — прыйшла яе чарга мэнчыцца. Мама да мяне вернецца пасля 8 сакавіка…

***

**20.01.2011.** Цэлы дзень не было адбою ад аўтараў. Адны прыходзілі, другія тэлефанавалі, а ад трэціх прыйшлі лісты і бандэролі



з творамі. На жаль, гэта ўсё можна параўнаць з прарывам каналізацыі…

***

**22.01.2011.** Быў у майстэрні мастака Алеся Квяткоўскага. У гэтым годзе на Валожыншчыну мяркуе прыехаць Шымон Перас. Алесь задумаў да яго візіту ў Валожыне зрабіць выставу, на якой прадставіць і партрэт нашага знакамітага земляка. Вікторыя Ільінская (жонка Алеся), каб мы весялей глядзелі на свет, заспявала пад гітару. «Не спявай мне Адамовіча! Дазваляю толькі пра рыжую векшу! Так мне казаў Толік Сыс!» — перад тым, як спяваць далей, сказала Вікторыя і заспявала пра рыжую векшу. Алесь нервова захадзіў па майстэрні. «Раўнуеш?» — запытаўся я. «Раўнуе да паэтаў!» — пацвердзіла Вікторыя і, даспяваўшы да канца, прапанавала папіць гарбаты. Мы пілі гарбату, гаварылі пра вандроўкі, а за акном майстэрні сыпаўся снег, як рыфмы да новых вершаў…

***

**25.01.2011.** На хвілю зняўшы акуляры, гляджу інтэрнэтныя навіны з Расіі. І раптам чытаю: «В Берлине подорожал сахар». І тут жа, узяўшы акуляры, даведваюся: «В Беларуси подорожал сахар».

***

**27.01.2011.** Пазаўчора на працу да мяне заходзіў фотамайстра Юрый Іваноў. Калі загаварылі пра паэзію, Юрый працытаваў Поля Элюара: «Цель поэзии — полезная правда». Я тады згадзіўся з гэтым выказваннем. Сёння я не згодны. «З кім?» — запытаецеся вы. «З абоімі!» — адкажу я, бо мэта паэзіі — паэзія…

***

**28.01.2011.** Ідучы з працы, сустрэў жонку Леаніда Галубовіча. На маё пытанне «Як там Лёня?» Вера адказала: «З павышаным ціскам…» — «А ці піша?» — «Нешта піша. Не паказвае…» Крыху пагаварыўшы, вярнуўся дамоў, паўтараючы ў думках: «Дрэнна, што з ціскам. Добра, што піша…»

***

**30.01.2011.** Сонечна. З суседняга дома са страхі час ад часу падаюць невялікія скрылі снегу і, не даляцеўшы да зямлі, рассыпаюцца, разбіўшыся аб вясновы вецер…

***

**31.01.2011.** Адны будуюць. Другія руйнуюць. Ад адных і ад другіх пыл і смецце…

***

**1.02.2011.** Быў у Доме літаратара на вечарыне, прысвечанай юбілею Міхася Пазнякова. Сабралася народу амаль поўная зала. Павіншаваўшы Міхася ад «Мастацкай літаратуры», палез у мабільнік і напароўся ў раздзеле «Чарнавікі» на эсэмэску з навагоднім віншаваннем. Хацеў яе выдаліць, каб месца не займала, але так атрымалася, што маё навагодняе віншаванне адправілася невядомаму адрасату. Словам, сёння ў мяне і ў некага Новы год…

***

**10.02.2011.** Сярод кніг, як сярод магіл і помнікаў… Такая думка ўзнікла пасля таго, як на Кніжным кірмашы адбылася прэзентацыя кнігі «Ніколі не забудзем» (расказы дзяцей пра Вялікую Айчынную вайну), дзе выступалі школьнікі з мінскай СШ № 37. Сваім выступленнем дзеці да слёз расчулілі амаль усіх слухачоў…

***

**11.02.2011.** На Кніжным кірмашы сустрэўся з даўнім знаёмым, які тут жа пацікавіўся: «Ну як справы?» «Людзей неяк меней, чым мінулыя гады…» — адказваю. А знаёмы і кажа: «Дзіва што! За мінулы год у Беларусі людзей паменела на 19 тысяч…»

***

**13.02.2011.** Даведаўся ад сваіх аднакласнікаў, што я ў школе быў выдатнікам. А я столькі гадоў думаў, што вучыўся не лепей за ўсіх…



## Дэзерцір

**23.02.2011.** Сёння многія святкуюць Дзень абаронцаў Айчыны. А я ў войску не служыў. І часам у кампаніі тых, хто служыў, у гэты дзень адчуваю сябе дэзерцірам…

## Як учора…

**28.02.2011.** «Люблю вершы аднаго народнага паэта, якога лічу сваім Настаўнікам. Перачытваючы яго творы, кожны раз збіраюся без папярэджання зайсціся, як раней, да паэта ў хату, але жаданне так і застаецца жаданнем. Недзе на жыццёвай дарозе згубіў смеласць без запрашэння заходзіць да людзей у госці. А як усё раней было проста, калі мне было крыху за дваццаць і я быў без працы, без прапіскі, без грошай, галодны і са школьным сшыткам новых вершаў!» — гэты запіс знайшоў у старым блакноце за 1995 год…

***

**2.03.2011.** У рукапісе кнігі, якую рыхтуем да юбілею Максіма Багдановіча, знайшоў: «У Максіма Багдановіча напісана 250 вершаў. У Аляксандра Пушкіна — 700. У Янкі Купалы — 900. Аднак калі прымаць пад увагу творы, якія адносяцца да хрэстаматыйных, то ў кожнага з названых паэтаў іх прыкладна пароўну. У межах 40…»

***

**2.03.2011.** Бывае, сустракаю надрукаваную думку, падобную да той, што ў мяне яшчэ толькі занатавана. Радасна мне, што ёсць і былі людзі, з якімі я аднолькава думаю. Аднак і няёмка друкаваць сваё, што падобнае да чужога, бо нехта можа залічыць у плагіятары…

***

**2.03.2011.** Напаткаў у Янкі Брыля: «Пасмяротны Поўны збор твораў. На тое, каб пакараць маю памяць доказамі, колькі непатрэбнага і шкоднага я напісаў?..» Прачытаў і задумаўся, бо цяпер якраз

выходзяць Зборы твораў і Шамякіна, і Танка, і хутка будзе Збор твораў у 10 тамах Івана Навуменкі…

***

**3.03.2011.** Еду на працу. У аўтобус зайшлі кантралёры. І адразу прычапіліся да хлопца, які ў сваё безбілетнае апраўданне заявіў: «Я вучуся! У мяне няма грошай!» «Плаці штраф! А то зараз міліцыянераў выклічам, і ты праз хвіліну заплаціш!» — сталі пагражаць кантралёры. «Дык што яны мяне біць будуць?» — запытаўся хлопец…

## Два гады…

**5.03.2011.** Прапаўзло-праляцела два гады, як у мамы здарыўся інсульт. І цяпер усё маё жыццё падзелена на «да» мамінага інсульту і «пасля». І ўсё ж самае галоўнае — мама жывая…

## Першая шпакоўня

**7.03.2011.** Людзі пачалі майстраваць шпакоўні. І мне ўзгадаўся мой першы клопат пра шпакоў. Мне тады было гадоў дванаццаць. Я майстраваў шпакоўню за хлевам, каб не бачылі бацькі. Пілаваў дошкі іржавай пілой і збіваў шыфернымі цвікамі. Потым доўга валок на яблыню, якая праз ноч пад цяжарам маёй шпакоўні сагнулася, і, не дачакаўшыся шпакоў, шпакоўня ўпала і разбілася, а вечарам была бацькам спалена ў печцы…

## Дзесяць магіл…

**8.03.2011.** Прысніўся сон. Перада мной у паветры цэментавы пыл, праз які прабіваецца святло, якое асвятляе дзесяць свежых магіл. Дакладней, роўнае зацэментаванае поле. Я стаю перад местам, дзе пахавана старая жанчына. Побач са мной стаіць мужчына, перад якім пахаваны вядомы паэт. У астатніх магілах таксама пісьменнікі…



***

**9.03.2011.** Сёння патэлефанаваў даўно знаёмы стары, які ўжо гадоў дзесяць рыфмуе і ўсё ніяк не можа дэбютаваць у друку як паэт. На маё пытанне «Як там поспехі з вершамі?» стары адказаў: «У шэсцьдзясят гадоў пачаць займацца ямбамі і харэямі, тое што пасля п’янкі пачаць пеўня шчупаць…»

***

**9.03.2011.** Крыкнуць хацелася — голас памёр…

## Сумны дзень…

**10.03.2011.** Сёння мне на працу было шмат розных тэлефанаванняў, але сярод іх былі тры вельмі сумныя. Першы званок — ад жонкі Кіма Цесакова пра спадчыну паэта-песенніка Аляксандра Лягчылава, другі — ад удавы Алега Лойкі Раісы Дзідкоўскай і трэці — ад Марыі Панковай з паведамленнем пра смерць Янкі Сіпакова. Адразу ж узгадаўся мой дзённікавы запіс «Дзесяць магіл»…

## Лі Цзо

**18.03.2011.** Сёння да нас у выдавецтва прыходзіў кітайскі паэт, перакладчык, выкладчык Лі Цзо з жонкай. Прынёс пераклады на рускую мову класікаў кітайскай паэзіі. Цікава. Развітваючыся з гасцямі, я папрасіў Лі Цзо, каб ён, жывучы ў Беларусі, і беларускую мову павучыў. Ветліва ўсміхнуўшыся, кітайскі паэт абяцаў паспрабаваць…

***

**18.03.2011.** Сёння яшчэ дзень на некалькі хвілін падаўжэў. А жыццё ў кожнага з нас яшчэ на дзень пакарацела…

# Далёкае блізкае

**19.03.2011.** Да 11 сакавіка Японія была недзе там далёка-далёка, а цяпер яна амаль што за шклом тэлевізара…

# Адстаю ад гадзінніка…

**30.03.2011.** Пасля пераводу гадзіннікаў на гадзіну наперад адчуваю, што адстаю ад гадзінніка на цэлую гадзіну, бо ўжо які дзень шмат чаго не паспяваю зрабіць за дзень, а за ноч выспацца. І калі па жыцці яшчэ сем гадзін вечара, то па гадзінніку ўжо восем…

# Дамашэвіч

**30.03.2011.** Гаворачы з Уладзімірам Дамашэвічам пра жыццё літарацкае, узгадалі добрым словам Алега Лойку, Янку Сіпакова і Ніну Маеўскую. Уладзімір Максімавіч, хвалячы мае балады, параіў дапісаць пару радкоў пра Алега Антонавіча, у якіх былі б Слонім і Шчара, і пацікавіўся: «А кніжку вашу можна ў вас набыць?» І я падарыў Уладзіміру Максімавічу сваю «Прозу і паэзію агню»…

***

**7.04.2011.** Другі тыдзень хаджу на працу прастылы. Ранкам вып'ю лякарства і пайшоў. Праўда, майго геройства ніхто не ацэньвае і не ацэніць. Мая Людміла таксама прыхварэла, але яна паразумнаму на бюлетэні. І, здаецца, мы паправімся адначасова. Але…

***

**7.04.2011.** Лаўлю сябе на тым, што пасля таго, як два гады таму ў мамы адбыўся інсульт, я кожны божы дзень, час ад часу, думаю пра смерць і жыццё. І гэтыя думкі бываюць спакойныя, хоць і сумныя, але бываюць і такія дэпрэсіўныя, што аж самому дрэнна робіцца…



# Таццяна

**7.04.2011.** Сёння нашай выдавецкай загадчыцы вытворчага аддзела Таццяне Бардзіян споўнілася 55 гадоў. Нарадзіўшыся ў Расіі і выйшаўшы замуж за беларуса, палюбіла Беларусь і беларускую паэзію. І ўсе кнігі паэзіі, якія выдаваліся і выдаюцца, яна прачытвае і шмат што з іх вывучвае на памяць. Найбольш захапляецца творамі Леаніда Дранько-Майсюка, які працаваў у «Мастацкай літаратуры» і ў свой час кожны новы верш для А. чытаў Таццяне…

***

**9.04.2011.** Учора да мяне пасля Ракаўскай бальніцы прывезлі маму. І ноч мая правалаклася, як у цягніку ў плацкартным вагоне…

# Не выспаўся…

**9.04.2011.** Зірнуў у акно, а там дробны, амаль нябачны снег сыплецца і стаіць самота, як на могілках…

***

**19.04.2011.** Сёння ў мамы дзень народзінаў. Ёй 81 год…

***

**22.04.2011.** З Аксанай Спрынчан і Ярашам Малішэўскім выступалі ў бібліятэцы медыцынскага ўніверсітэта перад студэнтамі. Было чалавек сто. Недзе за паўгадзіны да канца сустрэчы бібліятэкары нам напомнілі, што ў дзве гадзіны трэба ўсё закончыць. І як толькі мы пачалі закругляцца, да нас падышла загадчыца і прашаптала: «Я вам даю дадаткова пятнаццаць хвілін…» «Добра што не пятнаццаць сутак…» — у адказ усміхнулася Аксана Спрынчан.

***

**23.04.2011.** Сёння, упершыню накрычаўшы на вуліцы на чужых дзяцей, якія ламалі куст, прыйшоўшы дамоў і супакоіўшыся, падумаў з усмешкай: «Вось і я зусім дарослым стаў…»

# Мой першы Вялікдзень

**24.04.2011.** Маё першае святкаванне Вялікадня, якое памятаецца, адбылося ў Лягезах, дзе я жыў у бабулі Ганны. Мне было гадоў пяць. З сябрамі, Людай і Сашкам, нас родныя адправілі ў жачкі на хутар да Такушоў. Гаспадары ўжо святкавалі, таму і нас, малых гасцей, адразу пасадзілі за стол. Далі нам выпіць віна. І я нічога болей не памятаю…

***

**13.05.2011.** Доўга гляджу на ваду, якая на фотаздымку. І мне робіцца холадна…

***

**6.06.2011.** «Альбом сустрэч» мы з Людмілай завялі ў 1992 годзе, узяўшы прыклад з паэта Сяргея Новіка-Пеюна, які жыў непадалёку. У Сяргея Міхайлавіча быў тоўсты сшытак, дзе ў свой час запісы пакінулі дзясяткі людзей, якія сваім жыццём і творчасцю сцвярджалі, што Беларусь жыла, жыве і будзе жыць. Сярод запісаў, якімі найбольш ганарыўся Сяргей Міхайлавіч, быў запіс ад Ларысы Геніюш. Дзе сёння той «Альбом сустрэч» — я не ведаю…

# Пасля 11 красавіка…

**8.06.2011.** Сёння ўпершыню пасля 11 красавіка зайшоў у метро. У мяне ў руках быў вялікі чорны партфель, у якім круглы год валакаю парасон, сшытак з чарнавымі вершамі, бутэлечку з перакісам, набор лекаў, некалькі аўтаручак, чорны кашалёк з грашыма і (хочацца напісаць «пісталет») мабільны. Калі праходзіў каля міліцыянта, то ён уважліва паглядзеў на мяне і нават зрабіў некалькі крокаў за мной, але я, не звяртаючы на яго ніякай увагі, укінуў жэтон куды трэба і пайшоў далей. Стоячы на пероне, адчуваў на сабе позіркі відэакамер. І толькі ў вагоне на хвілін пятнаццаць стаў часткай натоўпу, які рухаецца ў адным кірунку…



# Павел Місько

**9.06.2011.** Учора ў выдавецтва тэлефанавала дачка Паўла Місько Марына. Казала пра не атрыманы бацькам ганарар за кніжку, што выйшла ў мінулым годзе, і прасіла паспяшацца, бо бацьку вельмі кепска. А сёння Паўла Місько не стала…

# Памералі?

**15.06.2011.** Даўно ўжо нашы дзеці выйшлі з «піянерскага» ўзросту, але і сёння па звычцы мы выпісваем «Раніцу». Газету часам чытаю і я. Сёння ў інфармацыі пра ўдзельнікаў абласнога злёту «Юныя таленты Міншчыны» вычытаў: «Сваёй непасрэднасцю і артыстызмам пакарыў самы маленькі паэт Мікіта Тразанаў з Дзяржынска, які атрымаў прыз сімпатый гледачоў»…

***

**20.06.2011.** «Ананімка і ананізм — не толькі вельмі блізкія па гучанні, але і па выкананні…» — сказаў адзін пісьменнік. Другі запытаўся: «А ты адкуль ведаеш?»

***

**2.07.2011.** Вяртаючыся па мосце з «Птушынага вострава», заўважыў на яго агароджы некалькі прычэпленых замкоў. І сюды дабраліся маладажоны…

# Няма таго…

**17.07.2011.** Гадоў шэсць назад у Ракаве на пляцы Волі згарэў велізарны будынак, у якім былі крамы і сталоўка. Цяпер на іх месцы стаіць сучаснае шкляное гандлёвае збудаванне. Гляджу на яго і бачу старую сталоўку, дзе, вяртаючыся з Валожына з пасяджэння літаб'яднання «Рунь», мы сядзім з Лёнем Шчарбінскім, п'ём віно і закусваем ракаўскімі катлетамі…

***

**28.08.2011.** Мінуў тыдзень, як мы з Людай вярнуліся з адпачынку на Нарачы, а я ўсё ніяк не магу ўвайсці ў каляіну гарадскога жыцця. І ўвесь мінулы тыдзень як сумны сон, што сніцца мне пад шум нарачанскіх сосен…

***

**8.09.2011.** Адзін мужык тэлефануе другому: «Уладзімір Іванавіч дома?» — «Дома. Але вянкі ўжо выносяць…»

***

**20.10.2011.** На працы было «СТБ». Адказваў на пытанні маладой і прыгожай карэспандэнткі. Часам, калі яна задавала доўгае пытанне, а я ў гэты момант глядзеў на яе і потым трэба было адказваць, забываўся пачатак пытання і гаварыў не па тэме…

## Георгій Шыловіч

**20.10.2011.** Памёр Георгій Шыловіч. 7 студзеня наступнага года яму б было 88 гадоў. Працаваў у газетах «Мінская праўда» і «Зорька», часопісе «Беларусь». З Георгіем Уладзіміравічам я пазнаёміўся, калі насіў свае вершы ў «Беларусь» да Хрысціны Лялько. Чалавекам Шыловіч быў кампанейскім і вясёлым. Па сённяшні дзень памятаю ягоную ветлую ўсмешку, якой ён сустракаў наведвальнікаў рэдакцыі…

## Канец свету…

**21.10.2011.** Дзевяностагадовы амерыканскі прапаведнік Гаральд Кемпінг прадказаў, што сёння ў 18 гадзін (на ўсёй планеце па мясцовым часе) для ўсяго жывога надыдзе канец свету. Да Муамара Кадафі канец свету прыйшоў учора…

## У Доме дружбы…

**22.10.2011.** Учора выступаў у Доме дружбы на вечарыне Ганада Чарказяна, якую вёў Навум Гальпяровіч. Сабралася нямала



людзей, сярод якіх былі сябры і землякі юбіляра з Арменіі. Можна было паслухаць творы Ганада ў перакладах Рыгора Барадуліна, Казіміра Камейшы, Міколы Мятліцкага і Валерыя Ліпневіча. Светла прагучалі песні ў выкананні Алеся Камоцкага. І наогул усё было, як і мае быць. Не хапала Рыгора Барадуліна, з якім Ганад сябруе. А я сядзеў і думаў пра Алеся Пісьмянкова, якому праз чатыры месяцы было б 55. Алесева жонка плануе зладзіць вечарыну, як і пяць гадоў назад, у Доме дружбы…

***

**27.10.2011.** Зноў актывізаваліся невядомыя немаладыя пішучыя людзі. У большасці з іх рукапісы цяжкія, як труны, напоўненыя будаўнічым друзам…

***

**29.10.2011.** З вёскі забралі знямоглага бацьку. Крыху агледзеўшыся ў кватэры, бацька сказаў: «Сюды мяне прывезлі, а дамоў трэба будзе пяшком ісці. Далёка…»

***

**17.11.2011.** Выступаў у Мінскім дзяржаўным вышэйшым авіяцыйным каледжы. Калі зайшоў у актавую залу, дык на хвілю аслупянеў: мяне чакала каля паўтысячы курсантаў у вайсковай форме. Пасля выступлення некалькі чалавек падышлі да мяне і запыталіся, дзе можна набыць мае кніжкі…

***

**6.12.2011.** Быў дома ў Леаніда Маракова, які заканчвае працу над дакументальна-энцыклапедычнай кнігай «Галоўная вуліца Мінска. 1890–1940 гг.». Рукапіс рыхтуецца для «Мастацкай літаратуры». Прыемна было пачуць ад Леаніда, што да гэтага выдання яго натхніла кніга Рублеўскай «Я — мінчанін», якую ў свой час Людміла яму падарыла…

***

**7.12.2011.** Апошнім часам вельмі стамляюся. Сплю каля шасці гадзін. Учора на працу да мяне прыязджала тэлебачанне. Пыталіся пра Анатоля Сыса. Сёння, аддыхаўшыся ад клопатаў, задаў сабе пытанне: «Для якой перадачы здымаўся?»

***

**11.12.2011.** Дзядзька Геня і цётка Манька выгадавалі трое дзяцей. Старэйшая — Ларыса, пасля мой сябра Віцька і малодшая Жанна. Калі мне было пад дваццаць пяць гадоў, мая мама і цётка Манька хацелі мяне ажаніць з Жаннай. І, магчыма, ажанілі б, калі б я не з'ехаў у Маскву вучыцца…

***

**30.12.2011.** Раней ён падаваў два пальцы левай рукі, каб прывітацца. Цяпер пры сустрэчы зусім не падыходзіць, нібыта аслеп…

***

**30.12.2011.** Сёння пайшоў трэці месяц, як бацька жыве ў горадзе. Ён, здаецца, прывык да кватэры, а я да хадзьбы да яго і ад яго…

## СТУДЗЕНЬ – СНЕЖАНЬ, 2012

**2.01.2012.** Прачытаў кніжку Івана Лагвіновіча (16.01.1940–29.03.2011) «Элегія палескага матыля». У свой час, калі я працаваў у «ЛіМе», некалькі разоў меў прыемнасць рыхтаваць творы Івана да друку. Паэт сапраўды варты, каб вось гэтыя ягоныя радкі сталі явай:

*Я ведаю, пасмяротна*
*Радзіма мяне ўзнагародзіць*
*Ордэнам Залатога*
*Палескага Матыля.*



***

**6.01.2012.** Капаў яму. Глыбокую. Выкапаў. Цяпер вылезці не можа…

***

**7.01.2012.** На вуліцы светла, як у Храме…

***

**12.01.2012.** Бацька ўзгадаў дзядзьку Вячаслава Рагойшы Кастуся: «Ён у нас у вёсцы ў школе працаваў. Расказваў пра гісторыю Ракава, Валожына, Маладэчына. Ведаў, калі былі збудаваны ў Ракаве касцёл і царква. Вельмі граматны быў. Хадзіў у паліто і ў капелюшы…»

***

**15.01.2012.** Пад снегам, як пад тынкоўкай…

***

**16.01.2012.** «Я крыху павесялеў!» — гэтым воклічам мяне сустрэў бацька на кватэры. На маё пытанне «ад чаго?» бацька не адказаў…

***

**22.01.2012.** Учора Людміла была ў гасцях у Марыі Вайцяшонак. Вярнулася дамоў з падпісанымі кнігамі «Серпень» (2009) і «Асадніца» (2010). Прачытаў. Ад вершаў светла і цёпла, як у мамы ў роднай вёсцы…

## Герадоцінкі Дайнекі

**22.01.2012.** Прачытаў «Герадоцінкі-12, або Маўклівыя навальніцы» Леаніда Дайнекі. Ёсць у гэтым творы і пра мяне: «З сынам Зміцерам любім мы, калі надараецца вольная часіна, слухаць беларускамоўныя кружэлкі. Любім песні жонкі і мужа Камоцкіх, Вайцюшкевіча, Таццяны Беланогай, барда Герашчанкі з Плісы, гурта

“Стары Ольса”… Вось і нядаўна кінулі на лецішчы сухіх дроваў у камін, уключылі музыку. Затанцавала яркае полымя. Загучала песня. “Спадары афіцэры”, — заспяваў прыгожы мужны барытон. — Што за песня? — пытаюся ў сына. — Песня на словы паэта Віктара Шніпа, — адказвае Зміцер. Што ж, добрая песня. Наша. Беларуская. І адразу са шкадаваннем падумалася — сёння Віктар Шніп, галоўны рэдактар дзяржаўнага выдавецтва, пэўна ж, не піша такія тэксты…»

***

**23.01.2012.** Пасля завеі ў скверы ўсе дрэвы сталі бярозамі…

***

**29.01.2012.** Быў у майстэрні Алеся Квяткоўскага. Малюе беларускія балоты. Паказаў партрэт Кастуся Тарасава, дзе пісьменнік, як і Вітаўт Чаропка, на кані едзе на Грунвальд…

***

**30.01.2012.** Сёння пайшоў чацвёрты месяц, як бацька жыве ў горадзе, і сёння да яго на кватэру з першай праверкай прыязджала гаспадыня. Мы з бацькам добра падрыхтаваліся да яе прыезду (я сабе начапіў на шыю гальштук, а бацьку на ногі ўздзеў новыя пантофлі), і як вынік — атрымалі па шакаладцы…

***

**8.02.2012.** Калі хадзіў па кніжнай выставе, якая, як ніколі, вельмі прадстаўнічая і багатая на шыкоўныя выданні, у мяне ў душы загучалі перайначаныя радкі Твардоўскага: «Выстава… Выстава… Каму памяць, каму слава, каму цёмная вада, ні прыкметы, ні сляда…»

***

**10.02.2012.** Тэлефанаваў Міхась Казлоўскі. Пасля сустрэчы са школьнікамі Аляхновіцкай школы ён чакаў электрычку на Маладзечына. Паўспаміналі, як мы ўдваіх ездзілі па нашай Віленшчыне і выступалі ў школах і бібліятэках. Цяпер я прывязаны да бацькі і паехаць куды-небудзь не маю магчымасці…



## 100

**11.02.2012.** Сёння 100 дзён, як бацька кватаруе ў Мінску, а я кожны дзень два разы наведваю яго, каб пакарміць і прыбраць у пакоях. Бацька, здаецца, прывык да чужой хаты, а я ўцягнуўся ў хадзьбу туды і дамоў. І да «дзембеля», дзякуй Богу, яшчэ 100 гадоў…

***

**15.02.2012.** Сёння раніцай у 7 гадзін 15 хвілін памерла мая мама. 19 красавіка ёй было б 82…

***

**16.02.2012.** Маму пахавалі ў Ракаве. Цяпер і ў мяне мамы няма…

***

**17.02.2012.** «Як там мама?» — запытаўся бацька. «Ляжыць. Адпачывае…» — адказаў я і адвярнуўся, каб бацька не бачыў слёз…

***

**19.02.2012.** З Людмілай былі ў царкве на споведзі. На душы стала крыху спакайней. Але мамы болей няма…

***

**20.02.2012.**

*Няспешна вяртаюся з Храма,*
*І неба над мною, як мама…*

***

**20.02.2012.** Чытаю малітвы, нібыта праз вечнасць іду ў пошуках мамы…

***

**22.02.2012.** Для мяне жыццё падзялілася на жыццё з мамай і без мамы…

***

**22.02.2012.** У Храме ўсе як радня…

***

**2.03.2012.** Думаю толькі пра маму. Стараюся не заглыбляцца ва ўспаміны і гэтым ратуюся ад слёз…

***

**3.03.2012.** Праснілася, што я прыехаў у вёску. Дома мама. У хаце холадна, і мама кажа: «Трэба зрабіць рамонт. Батарэі паравога ацяплення не грэюць». Я абяцаю ўсё адрамантаваць, і мама ідзе на кухню гатаваць вячэру. У хату заходзяць Анатоль Сыс, Алесь Асташонак і Васіль Сахарчук. Ад іх даведваюся, што ў вёсцы прайшоў з'езд пісьменнікаў і яны прыйшлі да нас пераначаваць…

***

**5.03.2012.** На дарозе, як на рэчцы часу, асфальт патрэскаўся, як чорны лёд…

***

**9.03.2012.** Тры гады таму ў гэты дзень я ішоў у Ракаўскую бальніцу да мамы. Гэтак жа, як і сёння, свяціла сонца і неба было чыстым, але тады была мама, а цяпер яе няма. І я ў думках іду да мамы ў Ракаўскую бальніцу…

***

**10.03.2012.** Бацька з кожным пражытым днём усё часцей і часцей успамінае толькі пра памерлых…

***

**18.03.2012.** Тэлефанаваў у Лягезы цёткам Стасі і Лёдзі. Напомніў, што 24 сакавіка будзе 40 дзён па маме. Пагаварыў з цёткамі, нібы пабыў у Лягезах, дзе да школы пражыў амаль сем гадоў…



***

**20.03.2012.** Вечарам быў у бацькі. Карміў, мыў, прыбіраў. Затаміўся! Сунучыся дахаты па засмечаным змрочным скверы, выдыхнуў з сябе грэшны радок: «Хадзіў да бацькі, нібыта на той свет хадзіў…»

***

**21.03.2012.** Бацька пачаў рыхтавацца да Вялікадня. Сёння вечарам успамінаў валачобныя песні і спяваў…

***

**25.03.2012.** У Ракаве на возеры перазімавалі лебедзі, а мама іх ужо не ўбачыць…

***

**27.03.2012.** Хаджу да бацькі на кватэру, як у родныя Пугачы…

***

**8.04.2012.** У мястэчку каналізацыйныя люкі як шляпкі велізарных цвікоў, якімі асфальтаваная істужка тратуара прыбіта да зямлі…

***

**10.04.2012.** «Не забывайцеся, што я пісьменніца!» — сказала адна пісьменніца свайму начальніку. І ён не забываецца, паўтараючы пачутае…

## Заўтра 11 красавіка…

**10.04.2012.** Задрамаў і прачнуўся ад чатырох радкоў, што нарадзіліся ўва мне:

*І што тут за каханне,*
*І што тут за любоў,*
*Калі замест світання*
*Твая праліта кроў?*

***

**10.04.2012.** Да нас у выдавецтва прыходзілі першакласнікі аднной з мінскіх школ. Яшчэ ўсе паслухмяныя і прыгожыя…

***

**22.04.2012.** Некаторыя забываюцца, што і яны памруць, як і тыя, што паўміралі, і твораць такое, што сапраўды ім давядзецца памерці…

***

**19.05.2012.** У Таліне на помніку Ігара Северяніна выбіты радкі: «Как хороши, как свежи будут розы, моей страной мне брошенные в гроб». Хто з нашых пісьменнікаў можа напісаць падобнае?..

***

**24.05.2012.** Прастыў. Маме ўжо не паскардзішся…

***

**28.05.2012.** Сёння вечарам бацька сустрэў пытаннем: «А што гэта ты да мяне ўсё адзін ходзіш і ходзіш? Астатнія мае дзеці паўміралі?..»

***

**29.05.2012.** «Мурашкі ў траве, як вошы ў галаве» — чамусьці зарыфмавалася, калі праходзіў ад бацькі дамоў праз сквер каля лавак, на якіх сядзела чалавек дваццаць моладзі і піла піва…

***

**2.06.2012.** Прачнуўся ў тры гадзіны ночы і стаў чытаць першы том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча. Большая частка вершаў амаль нідзе не друкавалася. I ці мог быць надрукаваны верш «Святая велікамучаніца воронія» (1956) пры Савецкім Саюзе:

*Хатка, сад над рэчкай напаўсоннай,*
*З латаў крыж стырчыць каля акон.*



*А на ім распятая варона*
*«Іскупляе» грэх усіх варон.*

***

**2.06.2012.** З Музея гісторыі беларускай літаратуры далі праверыць подпісы да здымкаў. Знайшоў некалькі памылак, і сярод іх: «Анатоль Шняп і Аксана Спрынчан». Гэта подпіс да здымка, на якім я з Аксанай Спрынчан…

***

**3.06.2012.** Ранак. Гляджу ў акно на вуліцу, як у вочы новага дня…

***

**3.06.2012.** Хто баіцца крытыкі, той баіцца расці духоўна…

***

**4.06.2012.** Патэлефанаваў Павал Дзмітрук. Першы раз у гэтым годзе. Я думаў, што ён нешта добрае скажа, а ён пасмяяўся з мяне, бо ў календары, дзе я пазначаны рэдактарам, знайшоў памылку…

## Сад Раісы Баравіковай

**4.06.2012.** Раісе Баравіковай 11 мая было 65 гадоў. З гэтай нагоды ў часопісе «Маладосць» № 5 змешчаны матэрыялы, прысвечаныя юбілярцы. Сярод іх надрукаваны і мой верш. Сёння ўдзячная Раіса Андрэеўна патэлефанавала і нагаварыла кучу прыемных слоў вось за гэты «Сад Раісы Баравіковай»:

*гэты Сад у цэнтры сусвету*
*і ў кожнай ягонай кветцы*
*пчолы як залатыя пацалункі*
*першага і апошняга кахання*
*якое было і будзе*
*як Сад у цэнтры сусвету*
*дзе ў шэлесце лістоты*

*чуюцца малітвы і дождж*
*які не даляцеў да травы*
*дзе пад дрэвам для райскай птушкі*
*спіць змяя якая сцеражэ*
*самоту дзе чорны павучок*
*як кропка на павуціне сказа*
*сказанага першым подыхам восені*
*дзе золата яблыкаў*
*спакушае забыцца пра асцярогу*
*ізноўку закахацца і слухаць сэрца*
*на рамонкавым беразе кароткага лета*
*і адгукацца голасам жалейкі*
*на музыку радзівілаўскага матылька*
*што ў Садзе нібыта ў раі*
*лётае як тутэйшы анёлак*
*каля адзінокай паэткі*
*якая ў небе як у люстэрку для самотнай*
*бачыць бэз з вачамі Дон-Жуана*
*якому ёсць месца ў Садзе*
*дзе нараджаюцца белыя вершы*
*як белыя ружы як усмешка паэткі*
*у якой ёсць свой Сад*
*і гэты Сад у цэнтры сусвету*

***

**5.06.2012.** На Цэнтральнай плошчы, сазваніўшыся, сустрэўся з Уладзімірам Марозам. Ён мне прывёз з Маладзечына ад Міхася Казлоўскага падарункі — «Куфэрак Віленшчыны» № 14 і кнігу Рыгора Семашкевіча «Янка Купала і беларускае адраджэнне». Выпуск гісторыка-краязнаўчага і літаратурна-мастацкага альманаха прысвечаны заходнебеларускаму паэту і педагогу Юльяну Сергіевічу (1910–1976). Акрамя гэтага, у «Куфэрку» друкуюцца матэрыялы пра Пятра Бітэля і Максіма Танка. Дзякуючы Міхасю, як складальніку і галоўнаму рэдактару, свет пабачылі пяць раздзелаў новай аповесці Людмілы Рублеўскай «Авантуры Пранціша



Вырвіча, шкаляра і шпега». Вяртаўся дахаты з «Куфэркам Віленшчыны», як з жывой вадой…

Кніга Рыгора Семашкевіча «Янка Купала і беларускае адраджэнне» выйшла дзякуючы фінансавай падтрымцы Маладзечанскага райвыканкама, а таксама пры дапамозе супрацоўнікаў Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча. А ўсю галоўную працу зрабіў Міхась Казлоўскі: падрыхтоўка тэкстаў, укладанне, напісанне прадмовы і каментароў. 11 чэрвеня будзе 30 гадоў, як абарвалася жыццё Рыгора Семашкевіча, а нарадзіўся ён 12 верасня 1945 года. Міхась ужо ладзіў прэзентацыю кнігі, запрашаў сястру, жонку і дачку Рыгора Семашкевіча, але ўсе адмовіліся прыехаць…

***

**11.06.2012.** Мой дзень прайшоў, як сонца праглынуўшы…

***

**12.06.2012.** На азёрных хвалях лілея як зад юнага лебедзя, які ловіць рыбу…

***

**14.06.2012.** У кнігарні «Светач» сустрэўся з Анатолем Вярцінскім. Я прыйшоў, каб купіць агульны сшытак, а Анатоль Ільіч — каб паглядзець на новыя выданні. Ён хадзіў у выдавецтва «Беларусь», дзе ў серыі «ШБ» выходзяць ягоныя вершы. Скончылася наша сустрэча тым, што Вярцінскі купіў сваю кнігу «Выбраныя творы», якая ў 2009 годзе ўбачыла свет у «Кнігазборы», і падпісаў мне. А я пра сшытак, які збіраўся купіць, успомніў, вярнуўшыся на працу…

***

**15.06.2012.** З летніка адной са ждановіцкіх школ да нас у выдавецтва з настаўнікамі наведаліся вучні, якія перайшлі ў шосты клас. Аксана Спрынчан і я правялі для іх невялікі ўрок сучаснай беларускай літаратуры. На маё пытанне «Можа, хто сярод вас

піша вершы?» руку падняла чарнявая дзяўчынка. Насця. Я папрасіў яе пачытаць што-небудзь, і Насця гучна і выразна прачытала свой верш на беларускай мове, прысвечаны Максіму Танку…

## Тры жыцці Змітро Віталіна

**17.06.2012.** Віктар Жыбуль перадаў Людміле ад Уладзіміра Лякіна кнігу «Тры жыцці Змітро Віталіна», якая выйшла накладам у 100 асобнікаў у Мазыры ў выдавецтве «Белы Вецер». Кніга вельмі цікавая і карысная. З яе можна падрабязна даведацца пра лёс паэта Змітро Віталіна, які нарадзіўся ў вёсцы Сухое Бродніцкай воласці Пінскага павета Мінскай губерні (цяпер Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці) 8 жніўня 1912 года. У прадмове да кнігі Уладзімір Лякін піша: «Яго жыццё складалася як бы з трох зусім розных лёсаў: юны спявак нараджаючага новага свету; бяспраўны, з нумарам замест імя, зняволены сталінскага ГУЛАГа; салдат-франтавік, затым афіцэр, вядомы ваенны журналіст і пісьменнік… У сваёй трэцяй, найбольш працяглай і змястоўнай частцы жыцця З. Р. Сергіевіч асоба не распаўсюджваўся пра першую і старанна хаваў другую. Ён моцна рызыкаваў, кідаючы выклік усёабдымнай сістэме сачэння і кантролю, "падпраўляючы" ў анкетах некаторыя факты са сваёй біяграфіі — каб мець права пісаць, дзеяць, без чаго не ўяўляў свайго існавання». У сакавіку 1990 года ў «ЛіМе» быў надрукаваны артыкул Сяргея Грахоўскага «Так гінулі паэты…», дзе было напісана: «У сакавіку 1933 года пачаўся новы паход супраць літаратуры. Зніклі Лукаш Калюга, Юлій Таўбін, Змітрок Астапенка, Максім Лужанін, Уладзімір Сядура, Змітрок Віталін, Алесь Пруднікаў». Да артыкула прыкладаўся спіс з 46 імёнаў расстраляных і загінуўшых у лагерах беларускіх літаратараў. Пад № 8 у ім значыўся Змітро Віталін. Але гэта была памылка. Потым была яшчэ адна версія, што паэт прапаў без вестак на фронце. Але Змітро Віталін не прапаў, а жыў у Адэсе, выдаў шэраг кніг на рускай мове пад сапраўдным прозвішчам Дзмітры Сергіевіч. Памёр паэт 4 лістапада 2004 года. Напрыканцы жыцця пасля шматгадовага перапынку Зміцер Рыгоравіч напісаў на беларускай мове вялікую, у дзевяці частках, паэму «Казка Венскага лесу» — пра вайну, пра сваіх баявых таварышаў, а таксама амаль дзве сотні вершаў, падпісаных даваенным псеўданімам — Змітро Віталін. Амаль усе гэтыя творы яшчэ не друкаваліся…



***

**22.06.2012.** «Завязі ты мяне ў Ракава, пакуль там яшчэ мае знаёмыя дзеўкі жывыя!» — сёння запатрабаваў бацька…

## Купалаўскія вакацыі

**23.06.2012.** Збіраўся прасядзець увесь дзень дома, каб адпачыць ад мінулага тлумнага тыдня. А тут Людміла прапанавала паехаць з ёй у Вязынку на фінал конкурсу аўтарскай песні «Купалаўскія вакацыі», дзе яна ў журы, і я не адмовіўся. З прыемнасцю паслухаў, і запомніліся песні ў выкананні Аляксея Нежаўца, Пятра Русава, Рамана Яраша, Таццяны Беланогай, Сяргея Антонава, Міхася Мінцэля, Вольгі Ганаковай, Міхася Максімовіча, гурта «Арба» з Алесем Емяльянавым. Праўда, было халаднавата. Аднак слухачоў хапала, і яны цярпліва ўсіх выслухалі. У час калі журы вызначала пераможцаў, Вольга Акуліч і сонца, якое нарэшце з'явілася над Вязынкай, дадалі прысутным добрага настрою. Узнагароды атрымалі лепшыя, а я б яшчэ адзначыў сваю зямлячку з Івянца Анастасію Шыманку. Дамоў вярталіся халодныя і галодныя, але са святочным настроем. І калі б я не паехаў у Вязынку, то цяпер бы слухаў расповед Людмілы пра выступленні канкурсантаў і шкадаваў бы, што змарнаваў час у кватэры каля тэлевізара…

***

**27.06.2012.** Прыходзіў алімпійскі чэмпіён Аляксандр Мядзведзь — у нас выйшла кніга пра яго. Я ад выдавецтва падарыў яму адзін экземпляр і тут жа пачуў: «А чаму так мала?» Давялося тлумачыць Аляксандру Васільевічу: «У нас, як і ва ўсіх вытворцаў, уся прадукцыя на ўліку, і яе можа кожны супрацоўнік выдавецтва або наведвальнік купіць або ўкрасці. Красці нельга!

Купіць можна!» Аляксандр Васільевіч хітра ўсміхнуўся і паўтарыў: «Адна — мала…»

***

**29.06.2012.** Па справе тэлефанаваў былому выдавецкаму супрацоўніку пісьменніку Уладзіміру Паўлаву. Падняла слухаўку жонка, ад якой даведаўся, што Уладзімір Андрэевіч (нарадзіўся ў 1935 годзе) да тэлефона не падыдзе, бо ўжо не можа хадзіць…

***

**30.06.2012.** Патэлефанавалі з родных Пугачоў з Дома культуры і запрасілі прыехаць 15 ліпеня на святкаванне Дня вёскі і выступіць. Я адразу даў згоду, бо родныя ж людзі запрашаюць, і да ўсяго кажуць: «Вы наша дастаянне!» Цяпер трэба будзе думаць, як дабрацца ў Пугачы і вярнуцца своечасова ў горад, каб бацьку не кінуць на суткі аднаго…

***

**16.07.2012.** Каардынаты маіх Пугачоў: 54°04'60" паўночнай шыраты і 27°00'00" усходняй даўгаты. Вёска знаходзіцца на 282 метрах над узроўнем мора…

***

**22.07.2012.** Учора з Людмілай Рублеўскай і сябрамі «Літаратурнага прадмесця», якім яна кіруе, ездзіў да Аксаны Спрынчан на Лысую гару, дзе распачалі святкаванне 10-годдзя стварэння суполкі. Суполка ўзнікла ў кастрычніку 2002 года пры штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», дзе я працаваў галоўным рэдактарам. На той час дырэктарам холдынга «ЛіМ» была Таіса Бондар. Мая ідэя была падтрымана ёю, і пасля абвесткі ў газеце на першае пасяджэнне прыйшла Аксана Спрынчан. На другі раз ужо было некалькі чалавек, а праз пару месяцаў у самым большым пакоі «ЛіМа» ўсе не змясціліся (было чалавек трыццаць), хто прыйшоў на пасяджэнне «Літаратурнага квартала». Так суполка называлася да таго часу, пакуль Людміла Рублеўская працавала ў «ЛіМе»… Словам, ёсць што ўспомніць…



# 25

**24.07.2012.** Сёння 25 гадоў, як Людміла Рублеўская стала па пашпарце Шніп. Я не шкадую, што гэта тады адбылося. Думаю, і Людміла не шкадуе…

***

**27.07.2012.** Сёння быў па справах у аднаго літаратуразнаўцы. Зайшоў у кабінет, а там на сцяне вялікі партрэт Леніна, і я адчуў сябе так, нібыта праваліўся ў Савецкі Саюз…

***

**27.07.2012.** Прыходжу да бацькі і чую: «Надаела мне тут, здароваму, сядзець! Цэлы год ужо сяджу!» «Ну тады заўтра зранку прыйду і цябе пастрыгу, пабрыю, памыю, пераапранёмся ў чыстае і пойдзем у сваты! Пойдзеш?» — кажу бацьку. «Пайду!» — чую радасны адказ.

Збіраючыся дадому, кажу бацьку: «Заўтра ж глядзі, каб быў гатовы ісці ў сваты да сляпой Агаты!» «Да сляпой ні за што не пайду!» — выкрыкнуў бацька і кулаком стукнуў па стале…

***

**30.07.2012.** Учора ўдзельнічаў у свяце паэзіі «Ракуцёўскае лета – 2012», прысвечаным Максіму Багдановічу. Нягледзячы на спёку, народу ў Ракуцёўшчыне сабралася чалавек за дзвесце. Было шмат моладзі і дзяцей. Вярнуўся дамоў загарэлы, як камбайнёр…

***

**30.07.2012.** «З яе вецер скульптуру рабіў!» — сказаў мастак Эдуард Агуновіч пра Алесю Сівохіну, якая ў лёгкай, але не празрыстай сукенцы на свяце «Ракуцёўскае лета – 2012» больш за тры гадзіны правяла на сцэне, даючы слова выступоўцам…

***

**30.07.2012.** На зжатым полі скруткі саломы як велізарныя коркі з велізарных пляшак віна…

## Справа № 497

**2.08.2012.** У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва прайшла імпрэза, прысвечаная 100-годдзю Пятра Бітэля. На ёй прысутнічалі дачка Ала Пятроўна, сын Андрэй Пятровіч і ўнучка Тамара Іванаўна. Язэп Янушкевіч і я расказалі пра сяброўства з Пятром Іванавічам. Вяла імпрэзу Ганна Запартыка, ад якой усе даведаліся, што цяпер у архіве-музеі ёсць асабістая справа Пятра Бітэля пад нумарам № 497…

***

**5.08.2012.** Сем гадзін раніцы. Іду да бацькі на кватэру. Людзей няма, і толькі каля крамы тупае мужык бамжаватага выгляду, а каля яго стаіць сіняе вядро з вішнямі, як з крывёй…

## Прыснілася мама…

**10.08.2012.** Ці то восень, ці то вясна. Змрочна. Іду ў вёску. Хочацца пад’ехаць, бо спяшаюся дамоў. Раптам бачу, як па прылясной дарозе едзе аўтобус. Сыходжу са сцежкі, іду да аўтобуса, які спыняецца, бо грузне ў невялікай калюзе. З яго выходзяць незнаёмыя людзі, апранутыя ў белае. Праз хвілю я ў родным двары і тут жа збіраюся ў горад. Аўтобус стаіць на вуліцы каля нашага плота. Хачу развітацца з мамай. Шукаю яе. Знаходжу маму ў халаце, які ёй купляла Люда, ляжачай на пасцілцы каля ганка. Адчуваю, што пад халатам у мамы незагойныя раны. Станаўлюся на калені і, цалуючы маму, паўтараю: «Мамачка мая… Мамачка мая…» — і чую ў адказ: «Я ж цябе глядзела… Я ж цябе глядзела…»



***

**11.08.2012.** Быў на Ракаўскіх могілках у мамы. Моўчкі пагаварылі…

***

**11.08.2012.** На могілках людзі як вялікія птушкі, і птушкі як малыя людзі…

***

**11.08.2012.** Каля мамінай магілы рву траву, як нябыту зялёную павуціну…

***

**11.08.2012.** Пабыў каля мамінай магілы, як пабыў на краі свету…

***

**12.08.2012.** Ідучы праз сквер да бацькі, пачуў ад пажылой жанчыны, якая сядзела на лаўцы: «Малады чалавек, дапамажыце ўстаць!» Пасля таго як дапамог жанчыне ўстаць, яна сказала: «Падвядзіце мяне да гастранома!» І я, узяўшы пад руку жанчыну, павёў яе да гастранома, каля дзвярэй якога пачуў: «Давайце пляшачку чарніла на дваіх вып’ем!»

***

**14.08.2012.** Усе раз’ехаліся адпачываць, і я ўжо другі дзень дома сумую з папугаем Северусам. Ён гаварыць не ўмее, а я лётаць…

***

**14.08.2012.** Бацька ўсё аддаляецца і аддаляецца ад рэальнага жыцця, як дым ад свечкі…

***

**15.08.2012.** Вось і паўгода, як няма мамы…

***

**16.08.2012.** На месцы філфакаўскага інтэрната ўжо амаль год, як вядуцца падрыхтоўчыя работы да будаўніцтва новага будынка. Ссечаны дрэвы, што раслі побач, і выкарчаваны пні, а ў ямінах з вадой, якая не перасыхала і ў спякотныя дні, расце асака…

## 35

**17.08.2012.** Сёння 35 гадоў, як я пачаў друкавацца. У газеце «Чырвоная змена» быў змешчаны мой верш:

*Сямнаццаць мне,*
*Нібы сямнаццаць*
*Зрабіў я крокаў па жыцці.*
*Жыццё я толькі пачынаю,*
*Сябе ў сабе я адкрываю,*
*І добра разумею я —*
*Жыццё нялёгкая дарога,*
*Што пачалася ад парога*
*Бацькоўскай хаты*
*Любай, добрай…*

*Жыццё — заўсёды вышыня!*

***

**17.08.2012.** Калі вяртаўся з працы дахаты, каля банка на вуліцы Каржа са мной павітаўся незнаёмы і сказаў: «Я — Дзяніс Раманюк! Я даўно хачу падзякаваць вам за баладу, прысвечаную майму бацьку!»

***

**18.08.2012.** На дзень народзінаў Людміла атрымала шмат падарункаў. Сярод іх быў пакуначак з мылам. На карабку напісана: «Шляхетнае мыла ручнога вырабу. Панна Нясвіжа. Вырабнік: ІП Яшчанка Г. М., в. Карнюткі». Ад маіх Пугачоў да Карнютак недзе кіламетры чатыры. З «Нашай Нівы» даведаўся, што «Галіна



Яшчанка доўгі час жыла ў Польшчы, ЗША, Даніі. Галіне, прывабнай бландзінцы з моцным характарам, не бракавала мужчынскай увагі за мяжой. Але яна ведала, што яе муж абавязкова будзе беларускамоўным беларусам. Так тое і сталася. Некалькі год назад яны з мужам (таксама беларусам, з якім яна пазнаёмілася ў Польшчы) вырашылі вярнуцца ў Беларусь. Набылі вясковую хату ў Валожынскім раёне, нарадзілі сына і далі яму рэдкае імя Настась…»

***

**18.08.2012.** Адзін дома. Сумна, як на папялішчы…

***

**18.08.2012.** «Самая найлепшая рэакцыя на крытыку — усміхнуцца і забыцца пра крытыку…» — не мной сказанае, але мной скарыстоўваемае…

***

**24.08.2012.** Бацька з 22 жніўня ў Ракаве, куды ён нярэдка прасіўся, жывучы ў мінскай кватэры і называючы яе турмой. Словам, адсядзеў бацька ў двухпакаёвай адзіночцы пад маім наглядам трыста дзён. Выйшаў, калі можна сказаць жартам, па маёй жа амністыі…

***

**25.08.2012.** На лаўцы каля пад'езда сядзяць мае суседзі. Сівыя, лысыя і п'яныя…

***

**26.08.2012.** Быў у вёсцы Маркава Маладзечанскага раёна на святкаванні 50-годдзя паэткі Таццяны Сапач…

Над Маркаўскімі могілкамі, дзе толькі што святар каля магілы Таццяны чытаў малітву, высока ў небе з'явіліся буслы. Я палічыў іх. Дванаццаць. Як дванаццаць апосталаў…

Магіла Таццяны пад бярозай, якая хутка зазалацее, як купал Храма…

Пясок на магіле як ружавата-жоўты попел…

У школе, дзе вучылася Таццяна, светла, як у вершах Таццяны…

На могілках і ў школе сабралася шмат людзей. Родныя, сябры, аднавяскоўцы, знаёмыя. У класе, дзе прайшла вечарына, са здымка Таццяна на ўсіх глядзела з усмешкай…

У роднай хаце Таццяны жыве адзін бацька. Гляджу на яго і бачу свайго бацьку, такога ж цяпер маўклівага і самотнага…

Ад маіх Пугачоў да Маркава недзе кіламетраў 25. Значыць, мы з Таццянай Сапач землякі. Толькі сёння даведаўся пра гэта…

У вершах Таццяны Вільня і Еўропа, дзе Беларусь жыве…

Дамоў ад Таццяны Сапач вярталіся, як з будучыні…

***

**28.08.2012.** Іду да бацькі ў Ракаўскую бальніцу. У адным з вакон на другім паверсе здалёку бачу маму…

***

**28.08.2012.** Пытаюся ў бацькі: «Як тут табе, у Ракаўскай бальніцы?» «Добра!» — адказвае бацька і, памаўчаўшы, дадае: «Шпігунару ў іх няма! А так усё добра!»

***

**29.08.2012.** У кватэры, дзе жыў бацька, пасялілася восень — на падлозе ляжыць руды ліст з яблыні, які заляцеў праз расчыненую фортку…

***

**29.08.2012.** «Мне некуда больше спешить…» — загучала ўва мне, калі я выйшаў з пустой кватэры, дзе жыў бацька…

***

**31.08.2012.** Ключ ад кватэры, дзе трыста сутак адсядзеў бацька, аддаў гаспадыні. Аддаў, як спаліў мост, па якім можна было вярнуцца ў мінулае…



***

**1.09.2012.** — Ён пра цябе ніколі не напіша…

— Не апусціцца да гэтага?

— Не. Не ўздымецца!

***

**1.09.2012.** Па запрашэнні Музея Якуба Коласа выступаў у парку імя Горкага перад школьнікамі. Дзяцей было шмат. Чалавек дзвесце. Першай выступіла Віка Трэнас, потым я, сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч і Юрась Нераток. Седзячы на сцэне, узгадваў свае першыя верасні і верасні дзяцей. Усё было, як учора. І радасна, і сумна…

## На пляцы ў Глыбокім

**2.09.2012.** На Дні беларускага пісьменства ў Глыбокім на пляцы, дзе раней стаяў помнік Леніну, каля бюста Ігната Буйніцкага сустрэў скульптара Івана Міско. Не паспелі добра пагаварыць, як да нас далучыўся Міхась Казлоўскі, які прыйшоў палюбавацца бюстам Вацлава Ластоўскага. Ад Івана Якімавіча мы даведаліся, што кожны бюст, а іх на пляцы восем, рабіў асобны скульптар. Чатыры з Мінска і чатыры віцебскія. Міхась, пахваліўшы бюсты Буйніцкага і Ластоўскага, павёў мяне пазнаёміцца з дачкой паэта Алеся Дубровіча, чый бюст таксама быў адкрыты на пляцы. Алесь Дубровіч (Рэдзька Аляксей) нарадзіўся ў 1910 годзе ў вёсцы Каралевічы Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям’і. Скончыў вясковую школу, займаўся самаадукацыяй. Удзельнік рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У 1933 годзе прымаў удзел у Першым нелегальным з’ездзе пісьменнікаў, які ўтварыў Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. У 1934 годзе быў зняволены ў Лукішскай турме, дзе адбыў два гады. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР (1939) працаваў у валасным рабоча-сялянскім камітэце, выбіраўся старшынёй сельсавета. Быў дэлегатам Народнага сходу ў Беластоку (1939).

Перад Вялікай Айчыннай вайной працаваў у Вілейскай раённай газеце. З пачатку вайны — падпольшчык. Расстраляны фашысцкімі акупантамі 7 лістапада 1942 года. На пытанне «Ці захаваліся творы, якія нідзе не друкаваліся?» дачка Алеся Дубровіча адказала: «Час тады быў жудасны, і мы са страху ўсё, што было напісана бацькам, выкінулі ў балота…»

***

**5.09.2012.** Няма выхаду толькі з магілы…

***

**5.09.2012.** Людзі прыходзяць працаваць у арганізацыю для сябе, а не для арганізацыі…

***

**6.09.2012.** Часопіс, праношаны ў партфелі больш за два тыдні, можна лічыць прачытаным…

***

**6.09.2012.** Ружы дораць тым, хто выходзіць з натоўпу наперад, але і камяні кідаюць у тых, хто наперадзе…

***

**7.09.2012.** Там, дзе лісцё ападае, там вада залатая…

## У ратушы…

**8.09.2012.** На свяце Дня горада каля Мінскай ратушы адкрылася выстава «Кніга-2012», прысвечаная Году кнігі. На ёй паказаны старадрукі, выданні канца XVIII – пачатку XX стагоддзя, а таксама кнігі пра Мінск, на старонках якіх асвятляецца гісторыя горада з найстаражытнейшых часоў да сённяшняга дня. На адкрыцці выступіў і я, і, калі верыць тым, хто потым падыходзіў да мяне, някепска. Праўда, увесь час думаў пра Міхала Валадковіча, які



ў XVIII стагоддзі хацеў стаць чальцом Менскага магістрата і чый прывід, кажуць, і цяпер жыве ў ратушы…

***

**9.09.2012.** Усе нашы няшчасці ад нашых жаданняў…

## Яблык ад Міхася Савіцкага

**9.09.2012.** Пасля абеду з Людай паехалі ў цэнтр горада, каб паглядзець на паслясвяточныя вуліцы. Зайшлі ў Музей гісторыі Мінска, куды ўчора мяне запрасіў Сяргей Тарасаў. Сяргея не было, і мы ў суправаджэнні музейнай работніцы абышлі ўсе дзейныя выставы. Паглядзелі на шкляныя мастацкія вырабы, на фотакарціны Сяргея Плыткевіча, на чамаданы, у якіх жыве паэзія, на старыя фотаапараты, на карціны мастакоў вядомых і невядомых. Потым пайшлі ў Мастацкую галерэю Міхася Савіцкага, якая толькі пазаўчора адкрылася. Раней на месцы галерэі быў абласны ваенкамат, дзе я праходзіў медкамісію і потым паўдня валяўся з хлопцамі на чорных скураных нарах, чакаючы свайго далейшага лёсу. На першым паверсе галерэі паглядзелі вялікую выставу, прысвечаную Мінску. Шмат знаёмых карцін, якія былі ў школьных падручніках. Другі паверх цалкам аддадзены пад экспанаты, прысвечаныя жыццю і творчасці Міхася Савіцкага. На ўваходзе ў экспазіцыю плакат з выявай мастака, які прапануе яблыкі. Такія ж яблыкі ў вазе на століку. Я не ўстрымаўся і ўзяў яблык з сабой. У галерэі творчасць Савіцкага прадстаўлена амаль цалкам. Тут жа ёсць майстэрня з недапісанымі карцінамі, кабінет з партрэтамі бацькі і маці. Выходзілі з галерэі, як з дваццатага стагоддзя. Далей з Людай пайшлі па вуліцы Леніна ў Нацыянальны мастацкі музей, куды нас запрасіла Надзея Усава. Ідучы, падумалася: «А чаму б гэтую вуліцу Леніна не перайменаваць у вуліцу Міхася Савіцкага?» У мастацкім музеі наведалі выставу «Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры 1600–1800». Скарбаў не вельмі шмат, але яны сапраўдныя. Заўважыўшы нас, дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў запрасіў на пагашэнне паштовай маркі, прысвечанай Леаніду

Шчамялёву. Гасіў марку сам мастак. Дарэчы, Леаніду Дзмітрыевічу ў наступным годзе 5 лютага будзе 90 гадоў. Потым з Людай пабылі на выставе твораў Міколы Селешчука, якую адкрыў міністр культуры Павел Латушка. За дзве гадзіны ў мастацкім музеі пабачылі шмат знаёмых мастакоў. Ідучы па вуліцы Карла Маркса, частка якой на выхадныя робіцца пешаходнай, паглядзелі на забавы моладзі. Зазірнуўшы ў гандлёвы цэнтр «Сталіца», каб павячэраць, напаткалі Хрысціну Лялько з сяброўкай, якія прыйшлі з Чырвонага касцёла, дзе засядаюць у журы конкурсу фільмаў «Магніфіката». Ад Хрысціны атрымалі ў падарунак кнігу Яна Твардоўскага «Разам з табою». Дамоў з Людай вярнуліся стомленыя, але задаволеныя сваёй вандроўкай па паслясвяточным горадзе. Цяпер у нас на століку, дзе ляжаць каменьчыкі і кусочкі цэглы, прывезеныя з розных цікавых мясцін, некалькі дзён будзе красавацца яблык ад Міхася Савіцкага…

***

**11.09.2012.** Стаміўся і ад працы, і ад дарогі ў выдавецтва і дамоў. У гэтым годзе яшчэ не быў у адпачынку. Не магу дачакацца, калі ў мяне будзе гэтае свята. Узгадалася мама. А мама, прапрацаваўшы даяркай амаль сорак гадоў, ні разу не была ў адпачынку…

***

**12.09.2012.** Хто думае як пераможца, той рана ці позна будзе пераможцам…

***

**12.09.2012.** «Што галоўнае ў чалавека?» — запытаўся ў мяне доктар педагагічных навук. «Душа!» — адказаў я. «Не! Розум!» — сказаў доктар навук.

***

**12.09.2012.** Усе бычкі — дальтонікі, а каровы бачаць колеры. І калі мы чырвонай анучай дражнім бычка, ён злуецца не ад таго, што мы з чырвонай анучай, а ад таго, што мы да яго адносімся як да каровы…



***

**13.09.2012.** Напісанае «У Лівіі забіты амерыканскі пасол» я прачытаў як «У Лівіі забіты амерыканскі апостал…»

## Госць з пасёлка Раманаўскі

**14.09.2012.** У час абедзеннага перапынку да мяне ў кабінет нясмела зайшоў пажылы, невысокага росту мужчына з ладнай палатнянай торбай, з якой віднеліся невядома чым напоўненыя зялёныя цэлафанавыя мяшэчкі. «Хачу прапанаваць вашаму выдавецтву перавыдаць мае апавяданні!» — працягваючы танюсенькія кніжачкі, заявіў незнаёмы. «Адкуль вы?» — беручы творы, пацікавіўся я. «Я прыехаў з рабочага пасёлка Раманаўскі Саратаўскай вобласці! Гэта недалёка!» — сказаў мужчына і, паглядзеўшы мне ў вочы, дадаў: «Я пішу ўжо амаль шэсць гадоў. Праўда, ніхто мяне друкаваць не хоча, але я сабраў грошы і вось выдаў дзве кніжкі тыражом па 50 штук. Пачаў пісаць, калі выйшаў на пенсію. У маладыя гады быў штангістам. Даслужыўся да майстра спорту. Ніхто з баб за мяне ў Саратаве не пайшоў замуж, дык я вярнуўся да бацькоў. Глядзеў іх добра, і яны дажылі да 2005 года. Памерлі ва ўзросце 94 гадоў. Гэта рэкорд для ўсёй нашай вобласці. Бацька мой у час вайны быў сапёрам. У камандзе ягонай было 750 чалавек. Дажылі да перамогі 6 салдат і адзін афіцэр, які размініраваннем не займаўся. Масквічы нас за быдла лічаць. Самі жыруюць, а нам «создают уют», каб мы хутчэй вызвалілі зямлю для продажу. А ў вас тут добра! Усе ветлівыя. І памідорны сок у вас не разбаўлены, а калі сок не разбаўлены, дык значыць і ўсё астатняе па-чэснаму. У вас міліцыя, а ў нас цяпер паліцыя, і адчуванне такое, нібыта зноў немцы прыйшлі і нашы людзі пайшлі ў паліцыянты. І лякарствы ў нас фальшывыя! П'еш іх, п'еш, а толку ніякага. Вашых лякарстваў я не спрабаваў, але, думаю, у вас фальшывыя не прапускаюцца, бо вы, беларусы, людзі чэсныя». «Па якой жа справе вы прыехалі да нас? Ну не апавяданні ж друкаваць?» — запытаўся я. «Не! Апавяданні ў мяне для забавы! А справа мая вялікая! Я вам пра яе не скажу! Вы лепей мае творы пачытайце, і вы з іх пра шмат што даведаецеся!» — сказаў

мужчына і, азірнуўшыся па баках, прашаптаў: «Мяне банда праследуе. Пяць гадоў назад ночай бандзіты мне ў спіну нечым стрэлілі. Знаку ніякага, а я жыць баюся. Памажыце схавацца…»

***

**14.09.2012.** «Ваша шчасце, што ў нас дарогі дрэнныя! А то б мы да вас панаехалі!» — сказаў расіянін з Саратаўскай губерні.

***

**14.09.2012.** Адказваючы на маё пытанне «Як вам наша краіна?», расіянін з Саратаўскай губерні сказаў: «У вас Еўропа! А ў нас і Азіяй не пахне!» — «А чым пахне?» — «Перагарам і смерцю!»

***

**15.09.2012.** Удзельнічаў у Рэспубліканскім свяце паэзіі і песні «Я сэрцам пісаў сваю кожную песню…», якое праходзіла ў Мядзелі і было прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Свята распачалося а 10-й гадзіне ўскладаннем кветак да магілы Максіма Танка ў вёсцы Новікі. Потым святочныя мерапрыемствы прайшлі ў Мядзелі. Сярод іх — цырымонія адкрыцця камня ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка. Усе гаварылі, што пара ўжо паставіць помнік паэту і на яго радзіме, і ў сталіцы. На беразе возера, дзе размешчана вялікая сцэна, з 14 гадзін амаль да 17 выступалі паэты, літаратуразнаўцы і артысты. Нягледзячы на холад і дробны нудотны дождж, слухачоў было шмат. І як толькі закончылася святочная імпрэза, суцішыўся дождж і навокал пасвятлела, нібыта Максім Танк даў усім знаць, што ён задаволены святкаваннем свайго стагоддзя…

***

**19.09.2012.** З Рэчыцы да мяне ў выдавецтва прыязджаў малады празаік. Яму за трыццаць. Мае свой бізнес. Часта бывае ў Фінляндыі і Нарвегіі. Хваліць тамтэйшае жыццё. «Вы па-беларуску гаворыце з прынцыпу?» — адразу ж пасля вітання запытаўся празаік.



«Не! Я проста беларус!» — адказаў я і тут жа пачуў: «А я першы раз у жыцці кантактуюся з чалавекам, які гаворыць па-беларуску!»

***

**24.09.2012.** Вяртаюся з працы, нікога не чапаю і раптам:

*У вокнах тваёй адзіноты*
*Жаўцюткія кветкі цвітуць.*
*Яны як агні самалётаў,*
*Якія ўжо больш не лятуць…*

***

**26.09.2012.** Еду ў тралейбусе. На адным з прыпынкаў заходзяць дзве студэнткі-арабкі. Прыгожыя, модныя, але пахнуць сэканд-хэндам…

***

**28.09.2012.** Не пасылайце ў лес авечак злавіць і забіць ваўка…

***

**29.09.2012.** Субота. Цэлы дзень з Людай і супрацоўнікамі выдавецтва быў у вандроўцы…

Сонечным ранкам, едучы ў Навагрудак, спыніліся ў Міры. Некалькі чалавек і я з Людай заглянулі ў Храм Святой Жыватачальнай Троіцы, што быў збудаваны ў XVI стагоддзі. Пажылы мужчына, які быў адзін у царкве, тут жа падышоў да нас і пачаў расказваць пра Храм і цуды, звязаныя з Храмам…

Прайшоўшы праз браму з агароджай і званіцай 1805 года, трапілі ў Мікалаеўскі касцёл XVI стагоддзя. На ўваходзе ў Храм напісана па-руску, па-беларуску і па-польску «Шчыра запрашаем!». Юрась Пацюпа тут жа заўважыў: «Першы раз бачу перакладкальку з беларускай мовы “Шчыра запрашаем!” на расейскую “Искренне приглашаем!”». У Храме было пуста, але праз некалькі хвілін да нас падышла жанчына, ад якой мы даведаліся, што касцёл дзейнічае ўсяго тры гады і яго наведваюць 30 вернікаў. Жанчына

звадзіла нас у скляпенне пад Храмам, дзе мы ўбачылі каля дзясятка трун, у якіх ляжаць памерлыя з роду Радзівілаў. Большасць памерлых — дзеці, і некалькі іх трун прыгожа размаляваныя…

У Валеўцы Свята-Петрапаўлаўская царква XVIII стагоддзя. Драўляная і пафарбаваная ў сіні колер. Святар хоць і казаў, што прыйдзе і пусціць у Храм, на жаль, не прыйшоў. Паслухаўшы расповед Яраша Малішэўскага пра царкву, пахадзілі па цвінтары, на якім пахаваны айцец Міхаіл Ліннік (6.05.1012–6.04.2003) і матушка Таіса (1.05.1927 — памерла зусім нядаўна, і на помніку не пазначана дата). Тут жа пахаваны Антоній Антонавіч Каліноўскі (1880–1942). На помніку напісана: «Убит за Христа». Крыху далей стаіць жалезны помнік: «Здесь покоится прах настоятеля Райчанской Церкви Священника Георгия Рудаковского. Священствовал 35 лет. Жил 61 г. Умер 1873 года … апреля». Паблізу стаіць жалезны крыж з шыльдай: «Протоиерей Андрей. Жил и умер в конце XIX века».

На могілках у Валеўцы знайшоў магілу Каратай Вольгі Даніпатаўны (1891–26.07.1973). Прозвішча жанчыны, як у Максіма Лужаніна. Можа, якая далёкая сваячніца…

Навокал пазалацелыя лясы і шэрыя палеткі. Там-сям пасуцца адзінокія каровы. Чамусьці падумалася, што я еду на аўтобусе праз XVIII стагоддзе…

Возера Свіцязь, як люстэрка, апетае Міцкевічам, куды глядзяцца з неба анёлы, што ахоўваюць Беларусь…

Вада ў Свіцязі чыстая і паэтычная…

На беразе возера шмат высокіх прыгожых дубоў, але і хапае пачарнелых пнёў, што засталіся ад дубоў, якія ведалі Адама Міцкевіча…

Пад нагамі храбусцяць жалуды. Вялікія, як патроны…

Шмат груздоў і апенек. Некалькі чалавек іх збіраюць, а ўсе астатнія любуюцца Свіцяззю і фатаграфуюцца. А я ўяўляю Адама Міцкевіча, які сядзіць на беразе возера і піша па-беларуску пра прыгажосць, што навокал…

На вялікім валуне, пафарбаваным у зялёны колер, белай фарбай напісаны радкі Адама Міцкевіча: «Калі навагрудскія ўбачыш



прасторы, / Ракітнік разлапісты, нізкі, / Каня супыні ля плужанскага бору, / Каб глянуць на возера зблізку». Непадалёк на такім жа камені чатыры радкі са «Свіцязянкі», але па-польску. «У перакладзе зроблена памылка!» — убачыўшы нас каля каменя з польскім надпісам, кажа стары дзядзька, які кожны дзень, пакуль няма маразоў, прыходзіць да Свіцязі і плавае. Мы старога не папраўляем, што Міцкевіч пісаў па-польску і на камені не пераклад, а арыгінал, і ён працягвае расказваць пра паэта, нібыта асабіста яго ведаў…

Праз асфальт прабіваецца брукаванка, як наша гісторыя праз нас…

Вуліца Леніна вядзе да Навагрудскага замка…

Навагрудскі замак як балада…

На курган, насыпаны ў 1924–1931 гг. у гонар Адама Міцкевіча, я палез, а не пайшоў, як усе, па вінтавой сцяжыне, бо пасля Навагрудскага замка адчуў у сабе нейкую невыказную сілу, якую тут жа і скарыстаў…

Пабылі ў касцёле, які быў збудаваны ў 1395 годзе і дзе 12 лютага 1799 года хрысцілі Адама Міцкевіча. Святар, які распавядаў пра Храм, развітваючыся, сказаў: «Прабачце, я месцамі недакладна казаў па-беларуску. Мая родная мова — польская…»

На цэнтральным пляцы Навагрудка ў старажытным будынку, які ахоўваецца дзяржавай, знаходзіцца бар з прыгожай назвай «Рым»…

На ўзараным полі на ўездзе ў Любчу наш аўтобус сустрэлі дзясяткі чорных варон і белых гусей і качак…

За дзень вандроўкі многія стаміліся і да Любчанскага замка ехалі з неахвотай. Прыехаўшы і паглядзеўшы з Любчанскага замка на вялікі Нёман, усе ажылі, і нават некаторыя былі гатовыя застацца, каб дапамагаць аднаўляць замак…

Дамоў вярнуліся позна вечарам. Доўга не мог заснуць — у душы і сэрцы заселі балючыя руіны Навагрудскага замка…

***

**30.09.2012.** Быў у майстэрні Алеся Квяткоўскага. Ён дамаляваў маладых Канстанцыю Буйло і Уладку Станкевічанку. Дзяўчаты

сядзяць голыя сярод вішань у Вішневе. «Я цяпер вольны, і ў мяне ёсць жаданне і настрой намаляваць цябе з Людай!» — у час размовы сказаў Алесь. «Голымі?» — смехам запытаўся я. «А што? Можна і голымі!» — заявіў сябра…

***

**1.10.2012.** Яблык з музея Міхася Савіцкага я аддаў бацьку, і ён яго з'еў, выплюнуўшы чорныя зярняты, як шрот…

## Залацісты

**2.10.2012.** У час абеду, культурна пастукаўшы ў дзверы, да мяне зайшлі два хлопцы гадоў па дваццаць пяць. Адзін з голай галавой, а другі ў чырвонай кепцы. У голагаловага валасы пафарбаваны ў залацісты колер, рубашка расшпілена і на грудзях залаты крыжык на залатым ланцужку. Залацісты, прывітаўшыся, тут жа без запрашэння сеў у крэсла насупраць мяне і заявіў: «Я хачу напісаць кніжку!» «Добра! Пішыце!» — сказаў я. «А як пісаць?» — «Як хочаце, так і пішыце!» — «Я хачу на камп'ютары!» — «Пішыце на камп'ютары!» — «А як лепей — на камп'ютары ці на паперы?» — «Я пішу на паперы!» — «Ну тады я буду на камп'ютары!» — «А як вы думаеце, ці змагу я напісаць кніжку?» — «Калі ў вас ёсць талент, то, магчыма, і напішаце, але не разлічвайце, што разбагацееце!» — «А мне грошы не патрэбны!» — «А што тады патрэбна вам?» — «Хачу, каб мяне ўсе ведалі і дзеўкі любілі!» — адказаў залацісты і, развітваючыся, дадаў: «Чакайце, я праз два гады прынясу вам сваю кніжку!..»

***

**4.10.2012.** Разам з газетамі з паштовай скрынкі ў хату прынёс жоўты бярозавы лісток, як пісьмо ад мамы…

***

**7.10.2012.** Чырвоны ліст прыліп да шыбы, як пацалунак восені…



***

**7.10.2012.** На ганку каля суседняга пад'езда сядзяць два цёмнарудыя каты, як шакаладныя…

***

**7.10.2012.** Сайт «Нашай Нівы» перадрукаваў з майго «ЖЧ» мой верш «Грыбы». І пачаліся танцы на грыбах!

***

**8.10.2012.** Вечарам прыходжу дамоў з працы і чую ад нашага папугая Северуса, які сядзіць у клетцы: «Сатрапы!»

***

**9.10.2012.** Вечар. Восеньскі дождж. Мама стаіць на прыпынку і чакае, калі я прыеду. Прыходзіць аўтобус. Мяне ізноў няма…

А цяпер, колькі б я ні прыязджаў у родную вёску, на аўтобусным прыпынку ніколі не будзе мамы…

***

**10.10.2012.** Калі табе холадна — ты яшчэ жывы…

***

**14.10.2012.** Раніца. Праз сквер па засыпанай лістотай сцяжыне іду ў краму, па якой яшчэ два месяцы назад хадзіў да бацькі на кватэру. І ўспамінаюцца бацькавы пытанні пра маму і пра родную хату. І я ў думках гавару з бацькам, які цяпер жыве ў Ракаве, куды яму хацелася з'ехаць з кватэры, каб быць увесь час сярод людзей. І цяпер бацька сярод людзей, а я сярод дрэў, з якіх асыпаецца лістота і хавае сцяжыну, па якой хадзіў да бацькі на кватэру…

***

**14.10.2012.** Гадзіны дзве з Людай хадзілі па Кальварыйскіх могілках. Было светла ад апалай лістоты і асабліва ад той, што без дапамогі ветру пакідала дрэвы і цэлую вечнасць ляцела на магілы і сцяжыны сярод іх…

***

**15.10.2012.** На працы холадна, і чайкі за акном над Свіслаччу як першы снег…

***

**15.10.2012.** Усё зробленае як апалае лісце…

***

**15.10.2012.** Жыццё кароткае, як дарога ад роднай хаты да могілак…

***

**16.10.2012.** Сёння шмат чытаў рукапісаў. Прыдумалася ці вычытаў: «П'яную жанчыну працсей давесці да аргазму, чым дамоў…»

***

**18.10.2012.** Учора мне было вельмі кепска, і я адчуваў сябе лістом, які ўпаў з дрэва на дарогу, і цяпер па ім усе топчуцца…

***

**19.10.2012.** Нарэшце і ў мяне адпачынак. Праўда, два тыдні і ўжо амаль палова занятая пэўнымі справамі, якія можна было б і ў працоўныя дні зрабіць…

***

**19.10.2012.** Ездзіў у Ракаў да бацькі. Аднаго бацькавага суседа за п'янку забралі ў Валожын, а другі памёр…

***

**19.10.2012.** На могілках туман, як дым ад вогнішча, каля якога грэюцца памерлыя…



***

**19.10.2012.** Сёння ў бібліятэку імя Адама Міцкевіча, што ў Чырвоным касцёле, на сустрэчу з чытачамі была запрошана Людміла. Вярнуўшыся з Ракава ад бацькі, вырашыў схадзіць у касцёл. Ідучы да тралейбуснага прыпынку, знайшоў пяць тысяч рублёў. Калі прыехаў у касцёл, у кіёску мне прапанавалі набыць кніжку А. С. Сакалоўскай «Кальварыя» 1997 года выдання. «Колькі каштуе?» — пацікавіўся я. «Пяць тысяч», — адказалі мне, і я набыў кнігу на грошы, якія знайшоў…

***

**20.10.2012.** З Людмілай выступілі ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры на адкрыцці літаратурна-мастацкай выставы «Ходзіць Сон ля вакон…». На выставе прадстаўлены літаграфіі Алены Лось і ілюстрацыі да кнігі «А па сенцах ходзіць Бай…» Марысі Лось, а таксама аўтографы калыханак паэтаў і лялькі з архіва Белтэлерадыёкампаніі. Можна было паслухаць калыханкі ў аўтарскім выкананні Уладзіміра Карызны і Леаніда Дранько-Майсюка. Напрыканцы імпрэзы герой тэлеперадачы «Калыханка» Сан Маляваныч пагуляў з дзецьмі, якія цярпліва слухалі ўсіх нас амаль паўтары гадзіны. Атрымоўваючы цукеркі ў падарунак, малыя раптам падняліся з падушачак, на якіх сядзелі на падлозе, і пачалі шумець. Сан Маляваныч тут жа вырашыў іх пастрашыць: «Зараз я на вас падзьму чароўным ветрыкам, і вы тут жа ўсе сядзеце!» «Мы зараз цябе самога садзьмём!» — сурова выкрыкнула ў адказ дзяўчынка гадоў шасці, і мы з Людмілай ад душы пасмяяліся…

## Мамін тэлефон

**21.10.2012.** Патэлефанавалі з Валожына і мяне напалохалі, бо адразу падумалася, што нешта здарылася з бацькам. Высветлілася, што трэба ці адмовіцца ад тэлефона ў вёсцы, ці тэрмінова аплаціць яго карыстанне. Вырашыў аплаціць. Пайшоў у банк і, назваўшы нумар тэлефона, пачуў: «Гэтым нумарам карыстаецца Шніп Ніна Міхайлаўна?»

***

**24.10.2012.** Раніца. У Ракаве туман. Едзем каля могілак, дзе пахавана мама, і ў маёй душы гучыць песня: «Туманы, туманы, вярніце мне маму. Вярніце мне маму, вярніце мой дом…»

***

**26.10.2012.** Сярод дрэў на азярыне качкі, як апалае лісце…

***

**26.10.2012.** Удзельнічаў у Рэспубліканскім святце паэзіі «О, Беларусь, ты сэрца і душа…», прысвечаным 130-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. Свята пачалося ў Стоўбцах, потым працягнулася ў Акінчыцах, Альбуці, Смольні, Мікалаеўшчыне і закончылася ў Старасвержанскім цэнтры культуры. Я выступіў у Акінчыцах. Нягледзячы на сцюдзёны вецер і снег, які час ад часу сыпаўся з хмарнага неба, было каму паслухаць нас, і настрой ува ўсіх быў святочны. Праўда, амаль усе госці з Мінска казалі, што святкаванне дня нараджэння Якуба Коласа трэба рабіць у верасні, калі яшчэ цёпла…

***

**27.10.2012.** Ад скульптара Івана Міско даведаўся, што, паміраючы, Заір Азгур папрасіў, каб яму прынеслі гліну. І яму прынеслі вядро з глінай, у якую скульптар запусціў руку і праз нейкі час памёр…

***

**28.10.2012.** На чорным асфальце белы снег перамяшаны з жоўтым кляновым лісцем, як халодная яешня на патэльні ў восеньскай раніцы…

***

**29.10.2012.** Дым ад спаленага лісця вярнуўся на зямлю першым снегам…



# Лемяшонкі

**30.10.2012.** Дзякуючы сяброўцы з «ЖЧ» Наталлі даведаўся пра лёс стрыечнага брата маёй мамы Хведара (Тодара) Лемяшонка. Пра дзядзьку Хведара я чуў у дзяцінстве, калі гадаваўся ў Лягезах у бабулі Ганны Лемяшонак. Чуў толькі тое, што ён не вярнуўся з вайны. І вось чытаю біяграфію дзядзькі: «Тодар Лемяшонак (13.05.1915–30.10.2000). Нарадзіўся ў в. Лягезы на Маладзечаншчыне. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны служыў у польскім войску. У 1939 г. трапіў у палон і быў вывезены ў Нямеччыну. Па сканчэнні вайны апынуўся ў беларускім DP-лагеры, адкуль у 1947 г. выехаў на працу ў Вялікабрытанію. Першапачаткова працаваў на сельскай гаспадарцы. Потым пасяліўся ў Брадфардзе. Ад 19.10.1947 быў сябрам ЗБВБ, актывіст аддзела ў Брадфардзе, у 1976–1991 гг. старшыня аддзела. Сябра ЗБК ад 1949 г., а таксама радны БНР у Вялікабрытаніі. Выконваў абавязкі скарбніка Беларускага грамадзкага клюбу “Сакавік”, а таксама шмат гадоў быў адміністратарам Беларускага дому ў Брадфардзе. Памёр і пахаваны ў Брадфардзе на Scholemoor cemetery». Цяпер у Лягезах жывуць чатыры чалавекі: дзядзька Віця Лемяшонак (1933) з цёткай Стасяй, цётка Лёдзя Лемяшонак (жонка дзядзькі Вані (1926–1996)) і іх суседка Мацiеўская. Хата, у якой нарадзіўся Тодар Лемяшонак, калі не памыляюся, стаіць не ў саміх Лягезах, а на хутары, з якога я, калі мне было гадоў 5–6, скраў шпакоўню і прынёс у вёску да дзядзькі Вані. Трэба будзе абавязкова паехаць у Лягезы і распытацца пра Тодара Лемяшонка. Да ўсяго, дзякуй Богу, яшчэ жыве мая цётка Шурка Лемяшонак (1923) у Татарах, якая амаль пяцьдзясят гадоў пражыла ў Лягезах…

***

**31.10.2012.** У Аляхновічах з Міхасём Казлоўскім выступаў у бібліятэцы перад вучнямі дзявятага і сёмага класаў. Было чалавек сорак. Запомніўся сямікласнік Вася. Рыжы і вясёлы. Ён і яшчэ чатыры чалавекі паднялі рукі, калі Міхась запытаўся: «Хто з вас чытае кніжкі?»

***

**31.10.2012.** Еду ў электрычцы. За акном голыя кусты, заснежаныя палі і лугавіны. У вагоне змрочна, і амаль усе пасажыры, а іх чалавек пятнаццаць мужчын, у чорным, і ўсе з бруднымі паўнюткімі торбамі і заплечнікамі. І ўсе сядзяць, як партызаны…

***

**2.11.2012.** Ездзіў у Ракаў да бацькі. Асабліва нічога новага ў яго не чуваць, калі не лічыць, што з ложка зваліўся. Развітваючыся, бацька запытаўся: «Ці хутка Вялікдзень?»

***

**2.11.2012.** Восеньскі нудотны дождж. На беразе азярыны лапікі белага снегу, а на вадзе белыя лебедзі…

***

**2.11.2012.** Хадзіў у майстэрню да Алеся Квяткоўскага. Ён мяне паклікаў, каб я ацаніў партрэт Людмілы, які цяпер малюе. Я ацаніў і пацікавіўся, ці ўдзельнічае Алесь у выставе, прысвечанай юбілеям Купалы і Коласа. «Насіў карціны, але мне іх вярнулі без тлумачэння, чаму не ўзялі», — адказаў Алесь і паказаў на партрэты Уладкі Станкевічанкі і Канстанцыі Буйло, якіх ён намаляваў па маёй просьбе голымі…

***

**4.11.2012.** З Людай былі ў «Сталіцы». На ніжнім паверсе заўважылі выставу фотаздымкаў. Паглядзелі. На здымках закінутыя заводы Латвіі, Польшчы і Швецыі, а таксама галадаючыя беспрацоўныя, якія стаяць у чэргах, каб паесці хоць раз на тыдзень…

***

**5.11.2012.** «Гэты дождж як пачатак патопу, што затопіць і змые Еўропу…» — ідучы праз дождж па калюжынах, узгадаў уласныя радкі…



***

**5.11.2012.** Першы дзень на працы пасля двухтыднёвага адпачынку. Па-мойму, нічога не змянілася. Нават пылу на маім стале няма — амаль усе дні, калі я не быў у выдавецтве, за маім сталом сядзеў Анатоль Верабей і дарабляў другі том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча…

***

**8.11.2012.** На працу прыходзіў Вячаслаў Рагойша. Пагаварылі пра нашу Валожыншчыну, дзе шмат мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю нашых славутых пісьменнікаў. У мінулым годзе, дзякуючы Вячаславу Пятровічу, у Ракаве з'явілася шыльда, зробленая на грамадскіх пачатках скульптарам Іванам Міско, з якой можна даведацца, што ў доме Рагойшаў, а гэта значыць у Ракаве, часта бываў Уладзімір Караткевіч. Цяпер Вячаслаў Пятровіч робіць усё, каб у Палачанцы, што непадалёк ад Ракава і ад маіх Пугачоў, быў памятны знак пра лецішча Якуба Коласа. Узгадалі з Вячаславам Пятровічам пра «Ракаўскія чытанні», да якіх, на жаль, з боку нашых землякоў прапаў інтарэс. У 2000 годзе пачало існаванне культурна-асветнае выданне Ракаўскага краю — газета «Ракаўскі шлях» (рэдактар-выдавец В. Рагойша). На жаль, газета ўжо два гады як не выходзіць. Няма каму дапамагаць Вячаславу Пятровічу, а аднаму ўсё рабіць ужо не хапае сіл…

***

**10.11.2012.** Паэт з раёна прыслаў кнігу. Калі б не было на вокладцы ў аўтабіяграфіі вось гэтых слоў: «Сустрэў рэзкае непрыманне сваёй творчасці з боку друкаваных СМІ раённага, рэгіянальнага і рэспубліканскага ўзроўню. Адказаў ім узаемнасцю», наўрад бы ці ўзяўся чытаць, бо ў выдавецтва часта прыходзяць аўтары з просьбамі перавыдаць іх кнігі вялікім тыражом…

***

**10.11.2012.** У пятніцу ў час абеду патэлефанавала незнаёмая жанчына: «Я хачу, каб вы надрукавалі маю кніжку ў трох экзэмплярах. Адзін мне, другі дачцэ, а трэці для ўнучкі!» Давялося доўга тлумачыць, што, на жаль, гэтага мы не можам зрабіць. У канцы размовы жанчына сказала: «Дзякую за карысную кансультацыю, сонейка!»

***

**12.11.2012.** Тэмпературу трэція суткі. Даўно так не хварэў. Сёння нават прысніў сон, у якім мяне бацька павёў да дактароў, каб паглядзелі, што са мной здарылася…

***

**13.11.2012.** Хварэю. Тэмпература не збіваецца. Сніцца вёска. У хаце светла, чыста і пуста. На двары стаіць воз, а на ім з дошчак збіты будан. Саджуся за лейцы і бачу, што я — хлапчук і я аддзелены празрыстай плёнкай ад сваіх маладых бацькоў і сястры з братам. Думаю: «Навошта гэта плёнка?» — і чую адказ: «Каб родныя не захварэлі…» Пасля гэтага бяру лейцы, і воз скранаецца з месца, і мне робіцца лёгка і светла…

***

**14.11.2012.** Прысніліся могілкі. Пахаванне некага роднага. Раптам бачу сярод сваякоў маму. Падыходжу. Пытаюся: «Мама, ты жывая? А каго гэта мы год назад пахавалі, хаваючы цябе?» Мама ўсміхаецца…

***

**14.11.2012.** Тэмпература не збіваецца, і мне, гледзячы ў акно, здаецца, што на вуліцы градусаў 30 марозу…

***

**16.11.2012.** Усё яшчэ хварэю. Учора працягнуў чытаць Біблію, чытанне якой было прыпынена недзе месяц назад. Чытаю не таму, што хачу, каб Бог дапамог хутчэй паправіцца, а таму, што з'явіўся час на няспешнае чытанне…



***

**16.11.2012.** Грыпаваць — гэта яшчэ не паміраць…

***

**17.11.2012.** Рассыпаныя таблеткі — мой першы снег…

***

**18.11.2012.** Сёння майму земляку Эдварду Зайкоўскаму 60 гадоў. Ён нарадзіўся ў вёсцы Дубашы, што ў кіламетрах пяці ад Лягез, дзе я да школы гадаваўся ў бабулі Ганны і сваіх дзядзькоў і цётак. З гадоў пяці я хадзіў у Бакачы і Русакі, што паміж Лягезамі і Дубашамі, лавіць рыбу. Думаю, што былі і такія дні, калі я сядзеў на беразе азярыны разам з Эдвардам…

***

**19.11.2012.** Пачаў пацыху папраўляцца. Схадзіў на працу. Рукапісаў не стала меней…

***

**19.11.2012.** На даху старога дома сядзяць птушкі, як апенькі на пні…

***

**20.11.2012.** Трава на беразе Свіслачы месцамі пажаўцела, як аблезла, і чайкі па-над ёю як моль…

***

**23.11.2012.** У кнігарню ходзім, як і ў аптэку, — толькі тады, калі трэба…

***

**1.12.2012.** Чытаю кніжку Юрыя Борава «Из жизни звезд и метеоритов», якая выйшла ў Маскве ў 1996 годзе. Многія занатоўкі

праз гады не страцілі сваёй актуальнасці. Напрыклад: «Союз писателей на три четверти состоит из неписателей. Но не вздумайте производить чистку, ибо эти три четверти легко вычистят всех остальных».

***

**4.12.2012.** На вуліцы зарыфмавалася:

*Ты зноўку чарнюткай малюеш траву.*
*Тут ворагі, кажаш, спалілі царкву,*
*І покуль не будзе ізноўку царквы,*
*Ніколі не будзе зялёнай травы…*

***

**4.12.2012.** На працы ў кабінетах замянілі старыя вокны на новыя, нібы замянілі неба…

***

**5.12.2012.** Раніцай дарогу перабег чорны кот. У абед выпаў снег. Вечарам ішоў дахаты, праслізнуўся на снезе і ледзь устаў…

***

**6.12.2012.** Жыву, як падаю ў бяздонную студню, і вершы застаюцца на паперы, як пісягі на сценках студні, за якія хапаюся, каб спыніць падзенне…

***

**7.12.2012.** У бібліятэцы імя Цёткі ў тэатры «Арт.С», якім кіруе Аксана Спрынчан, адзначылі 10-годдзе «Літаратурнага прадмесця». Якраз да святочнай імпрэзы паспеў выйсці зборнік сяброў суполкі. На жаль, у выданне ўсе не трапілі, бо не далі своечасова творы, але і так у «Літаратурным квартале» прадстаўлена 29 творцаў. На імпрэзе выступілі: Альжбета Спрынчан-Малішэўская, Юры Несцярэнка, Віка Трэнас, Таццяна Барысюк, Таццяна Пратасевіч, Іна Фралова, Наста Грышчук, Юля Новік, Ганна Федарук,



Алесь Емяльянаў, Алёна Беланожка, Наталка Кучмель, Ігар Клепікаў, Мікола Кандратаў, Таццяна Будовіч, Маргарыта Аляшкевіч, Ганна Запартыка, Яна Явіч, Юрась Нераток, Аксана Спрынчан, Яраш Малішэўскі, Рэгіна Багамолава. Гаспадарыла на свяце старшыня суполкі Людміла Рублеўская. Я хоць і сядзеў на сцэне разам з Людмілай і Аксанай, але на ўсё глядзеў як госць, і мне было добра. Нашы сябры выраслі!

***

**8.12.2012.** Чым раней сядзем, тым раней ляжам…

***

**10.12.2012.** Цэлы дзень сыплецца снег, як белы пясок са старога года…

***

**10.12.2012.** Хаўрусы ствараюцца, каб супольна працаваць і абараняцца ад тых, хто не ў тваім хаўрусе. І як можна быць у такім хаўрусе, у якім цябе ніхто не збіраецца абараняць, калі гэта спатрэбіцца, а тым больш што тыя, што лічацца тваімі хаўруснікамі, шукаюць у тваіх дзеяннях толькі крамолу і стараюцца зняважыць цябе, як чужынца?

***

**10.12.2012.** Неба са спірту, таму яно не замярзае…

***

**10.12.2012.** Не трэба скакаць з балкона, каб упэўніцца, што не ўмееш лётаць…

***

**10.12.2012.** Зноў маміна магіла засыпана снегам, як кветкамі ад Бога…

***

**11.12.2012.** Сцяжына, па якой хадзіў праз сквер да бацькі на кватэру, замецена…

Перад вокнамі кватэры, дзе жыў бацька, стаю ў снезе як укапаны…

З кватэры праз фіранкі цячэ святло. І мне здаецца, што там бацька, але там цяпер чужыя людзі…

Іду дамоў, і следам ідзе бацька…

***

**12.12.2012.** Ад мастака Уладзіміра Лукашыка даведаўся, што ён закончыў афармленне кнігі вершаў Алеся Гаўрона «Папяровая кветка». Працу мастак пачаў яшчэ ў 90-я гады мінулага стагоддзя. Цяпер трэба знайсці рукапіс кнігі, бо Алесь даўно памёр…

***

**13.12.2012.** Тым, хто ўчора не паспеў жаніцца, сёння ўжо было позна…

***

**15.12.2012.** На сёння быў запрошаны ў Валожын на святкаванне 15-годдзя, як літаб'яднанню «Рунь» (існуе амаль 30 гадоў) было нададзена званне «Народнае літаб'яднанне». Не паехаў, бо яшчэ цалкам не ачуняў ад хваробы, а паехаць да землякоў было варта, тым больш што «Рунь» я арганізаваў пры раёнцы і кіраваў ёю амаль чатыры гады…

***

**16.12.2012.** Завіруха як пачатак канца свету…

***

**16.12.2012.** Праз завіруху схадзіў у краму і набраў ежы, каб хапіла да 21 снежня…



***

**16.12.2012.** Родныя Пугачы. Завіруха да хат замятае сцяжыны, а да нашай яшчэ ў мінулым годзе замецена…

***

**17.12.2012.** Раніцай, ідучы на працу, выкінуў пакет са смеццем у кантэйнер. Не паспеў зрабіць крок, як з кантэйнера загучала музыка. «Мабільнік!» — пачуўся голас бамжа, якога ў завейнай цемры адразу не заўважыў. «Мабільнік!» — паўтарыў я і пачаў назіраць, як бомж капаецца ў смецці. Праз хвілін пяць высветлілася, што музыка гучыць з паламанай цацкі…

***

**18.12.2012.** Успомню бацьку, і тут жа ўспамінаецца мама… Успомню маму — успамінаецца бацька…

***

**18.12.2012.** У Музеі Янкі Купалы ўдзельнічаў у прэзентацыі кнігі з серыі «ЖЗЛБ» «Янка Купала. Мне сняцца сны аб Беларусі…», якую ўклала Галіна Шаблінская. Нягледзячы на мароз, людзей сабралася паўнюткая зала. Асабліва было прыемна паслухаць Віктара Манаева, які агучыў некаторыя маналогі Мікіты Зносака з «Тутэйшых»…

***

**19.12.2012.** На філфаку БДУ ўдзельнічаў у прэзентацыі першых двух тамоў Збору твораў Уладзіміра Караткевіча, якія падрыхтаваў Анатоль Верабей. У другі том увайшлі вершы са зборнікаў «Мая Іліяда» (1969) і «Быў. Ёсць. Буду» (1986). Асобны раздзел складаюць творы 1961–1984 гг., якія не ўваходзілі ў зборнікі паэта. А самае галоўнае — у томе ўсім вершам вернуты прысвячэнні, якія ў савецкія часы былі зняты рэдактарамі і цэнзурай. Сяргей Панізнік на прэзентацыі даведаўся, што «Балада плахі» ў 1968 годзе была прысвечана яму…

***

**20.12.2012.** Быў у Нацыянальнай бібліятэцы на святкаванні 90-годдзя з дня выхаду першага нумара часопіса «Полымя». Прыехаўшы дамоў, раптам успомніў, што заўтра канец свету…

***

**22.12.2012.** Няма ветру, і ўсё навокал як змерзлае…

***

**23.12.2012.** Быў у Ракаве ў бацькі. Вярнуўся дамоў без настрою — бацька зусім занямог…

***

**23.12.2012.** На вуліцы цёмна. У маршрутцы замерзлыя вокны. Здаецца, што ляціш у самалёце, якім ніхто не кіруе…

***

**23.12.2012.** У нас дома адзначылі выхад кнігі «Літаратурнае прадмесце» да 10-годдзя суполкі. Успаміналі, чыталі вершы, жартавалі і ні разу за шэсць гадзін застолля пятнаццаць літаратараў не сказалі слова «прэмія»…

***

**24.12.2012.** Мароз. Завіруха. Гадзіна дня. У скверыку каля помніка Адаму Міцкевічу збіраюцца людзі. Тут жа топчуцца амонаўцы. Чакаем, пакуль з Чырвонага касцёла пасля імшы прыйдуць вернікі, каб адзначыць дзень народзінаў Адама Міцкевіча. Чую, як амонаўцы прапануюць дзяўчатам пайсці разам з імі ў зялёны аўтобус пагрэцца. Дзяўчаты смяюцца і адмаўляюцца. Мы з Людай стаім у пустым намёце, дзе на стале гара пластыкавых кубачкаў, якія паціху напаўняюцца снегам, як цукрам. Праз паўгадзіны з Чырвонага касцёла пасля імшы прыйшлі вернікі на чале з ксяндзом Уладыславам. Мы канчаткова змерзлі, таму, выступіўшы, пабеглі ў гандлёвы «Дом на Нямізе» грэцца. Дамоў вярнуліся, як з партызан…



***

**25.12.2012.** Дрэва за акном як з дроту…

***

**25.12.2012.** Вось і ўсё… Сёння вечарам на 82-м годзе жыцця памёр мой бацька — Шніп Анатоль Іосіфавіч…

***

**27.12.2012.** Верш з цыкла «Балады радаводу», напісаны амаль сем гадоў таму, 25 снежня набыў завершанасць…

## Балада Анатоля Шніпа

(8.09.1931–25.12.2012)

*Работа… Самота… Работа… Самота…*
*І кожны твой дзень пачынаецца зноў,*
*Нібыта з малітвы да Бога, з работы*
*Спрадвечнай, як нашае вечнасці кроў,*
*Што ў жылах агнёва пульсуе тваіх*
*І помніць раздолле стагоддзяў былых,*
*Дзе нашыя продкі жылі, паміралі*
*За гэту зямлю і за гэтую выш,*
*Куды вечарамі задумна глядзіш*
*І бачыш сваю невыказную далеч…*

*Я побач з табою маўкліва сяджу*
*І ў неба таксама на зоры гляджу,*
*Нібыта між зорак наш замак шукаю,*
*Куды нам вярнуцца і плакаць па тым,*
*Што ўсё, што мінула, — яно нібы дым*
*Самотнага, роднага, любага краю,*
*Дзе мы ўсе жывём і дзе мы ўсе жылі,*
*Нібыта ўначы над агнём матылі…*

# Развітанне з бацькам…

**28.12.2012.** Вечарам 25 снежня ў 8.06 зазвінеў мабільны. Нумар тэлефона незнаёмы. Я адразу падумаў: «З Ракаўскай бальніцы…» — і пачуў: «Гэта звоняць з Ракава. З бальніцы. Ваш бацька памёр. Заўтра прыязджайце і забірайце…»

Выйшаў на вуліцу. Падалося, што паветра пахне могілкамі…

Ноч была доўгай, як бацькава жыццё…

У Ракаў паехалі ўчатырох — мае брат Вова, сястра Валя з мужам Віцем і я. Адразу заехаліся на могілкі да мамы. Думаю, што мама ведала пра смерць бацькі раней, чым хто…

У бальніцы на калідорах шмат людзей. У кожнага свая бяда, але ўсе глядзяць спачувальна…

Да доктара, які павінен выпісаць даведку пра смерць бацькі, чарга. Пачакаўшы, заходжу. Следам за мной заходзіць швагра Віця, але яго просяць пакінуць кабінет. Малады доктар камандуе: «Распраніцеся! Адзенне павесьце на вешалку! Пастаўце крэсла, як стаяла! Сядзьце так, як усе садзяцца!» Я падпарадкоўваюся. Доктар доўга і няспешна запаўняе бланкі, дае падпісаць і выдае мне спраўку, што бацька памёр 25 снежня 2012 года ад атэрасклератычнага кардыясклероза. Чытаю подпіс: «Маскалевіч»…

Бацька ў моргу ляжыць на насілках на лаве, захутаны прасцінай, на якой і памёр на бальнічным ложку…

Вочы ў бацькі не закрытыя. У вачах слёзы…

Адна з санітарак, якая глядзела бацьку, пытаецца: «Будзеце самі мыць і апранаць? Калі хочаце, мы можам за 500 тысяч зрабіць усё, што трэба». І мы даём магчымасць падзарабіць санітаркам…

Цётка Марыя вядзе нас у КБА, дзе заказваем труну, крыж, вянкі, машыну і пахавальную каманду з лапатамі. У гэтым жа будынку прадуктовая крама, цырульня і банкамат…

Каля КБА сустракаем знаёмых і сваякоў, якіх не бачылі па гадоў дзесяць…

Атрымаўшы ў канторы Залескага сельсавета «Пасведчанне аб смерці», едзем у родныя Пугачы. З намі ў машыне Элка (жонка



траюраднага брата Антона, які некалькі гадоў таму згарэў у бацькоўскай хаце), якую сустрэлі ў Ракаўскай бальніцы…

У гэтым годзе ў Залескім сельсавеце нарадзілася сем чалавек і памёр дваццаць адзін…

На аўтобусным прыпынку ў Пугачах двое старых, як нашы бацькі, чакаюць аўтобус…

Элка запрашае да сябе дамоў паабедаць. Не адмаўляемся. У хаце цёпла і ўтульна. Вельмі шмат кніжак. На самым бачным месцы мае і Людзіны кнігі…

У роднай хаце я не быў з восені мінулага года. Сцяжына да дзвярэй расчышчана ад снегу — пастараўся бацькаў стрыечны брат Шура. Заходзім у хату, як у лядоўню…

На сцяне гадзіннік. Спынены. 13 гадзін без 15 хвілін…

Уключаем святло і бачым на падлозе каля сцен тры вялікія кучы зямлі. Кратавінне…

Прыходзіць дзядзька Шура. Скардзіцца, што ўжо ў вёсцы ў яго анікога роднага не засталося…

У паштовай скрынцы, як кучка снегу, газета «Звязда», якую бацька не дастаў год таму, з'язджаючы да мяне ў горад…

Вазонаў у хаце няма. Зялёны тэлефон як вялікі памерзлы ліст ад фікуса. Падымаю слухаўку. Сувязь ёсць, але няма каму тэлефанаваць…

Выйшлі з роднай хаты, як сышлі з пустога Ноевага каўчэга…

Заглянулі да бацькі ў морг. Бацька памыты і апрануты, як ніколі ў жыцці…

27 снежня, забраўшы бацьку з морга, паехалі ў Пугачы. Да нашай хаты развітацца з бацькам прыйшлі суседзі. Усе — хто яшчэ жывы…

У Ракаўскай царкве пачуў ад жанчыны, якая прадае свечкі: «А я вашы вершы люблю! Стараюся прачытаць усё новае, напісанае вамі і вашай жонкай…»

Бацьку адпяваў айцец Максім. Ён у Ракаўскай царкве служыць нядаўна. У святары Максім пайшоў пасля аўтакатастрофы, у якой загінула жонка, а ён выжыў з дачкой…

Сёння з Людай, сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі да бацькоў на Ракаўскія могілкі. Яны ўжо Дома, а мы яшчэ тут…

***

**29.12.2012.** Ніколі не чуў ад бацькі: «Я жыць не хачу!»

***

**30.12.2012.** З Людай былі ў царкве. Памаліліся за бацькаву душу. Калі ішоў дахаты, з’явіўся ўва мне радок: «Беларусь — наш адвечны каўчэг, на якім мы плывём да Бога праз траву і праз снег, і за намі ў крыжах дарога…»

## Мой 2012 год

**30.12.2012.** Год пачаўся з таго, што 15 лютага памерла мая мама. Закончыўся смерцю бацькі — 25 снежня. І цяпер два надмагільныя груды як два берагі, паміж якімі цячэ маё жыццё…

# Вечар



# Край Уладзіміра Караткевіча

«Быў. Ёсць. Буду!» — сказаў перад Богам Паэт.
«Быў. Ёсць. Буду!» — за ім наш народ паўтарае,
Як малітву, якая як ніць залатая,
На якую да сонца прывязаны свет,

У якім Беларусь, да якой ты ішоў,
Як да песні, якую пяе Белавежа,
На святлынь навагрудскіх зажураных вежаў,
На шум рэк, што змывалі варожую кроў.

Тут твой край! І яму ты не здрадзіш, бо ты
Без яго прападзеш, як вада прападае
У пясках, дзе прапала Арда Залатая
Без Айчыны, нібы без жывое вады.

Тут твой край! І павінна тут мова твая
Вечна жыць, бо на ёй з намі Бог размаўляе
І ніколі ніякая мова другая
Не заменіць яе, як цябе сёння я

Не магу замяніць, і ніколі ніхто
Не заменіць тваю беларускую песню,
У якой у аблоках над сцежкаю весняй
Наша сонца плыве, як плыло сто вякоў,

Каб сягоння наш край асвятліць да краёў,
Да крыві, на якой пачалася Айчына,
І Айчыну да скону любіць мы павінны,
Бо Айчына дала нам жыццё і Любоў.

І ўзлятае над вежамі замкаў старых
Белы бусел, нібыта анёл адзінокі,
І знікаюць, як снег, над Айчынай аблокі.
Беларускае сонца над намі гарыць!

24.09.2010



***

Нябачны хтось іграе на раялі,
Ці сам раяль іграе, як жывы,
Каб вы, вясновая, не сумавалі,
Як у нябёсах мёртвых журавы,
Надоўга пакідаючы Айчыну,
Трывожна плачуць, плачуць і лятуць,
Як лісце пачарнелае рабіны
Ляціць, нібы ў нябёсы, у ваду,
Дзе хтось нябачны грае на раялі,
Што створаны з аблокаў і дажджу,
І музыка плыве, нібыта хвалі,
І б’ецца, як аб бераг, аб душу…

17.04.2010

***

Сонца кветкай на ўсходзе праз снег прарастае,
І канчаецца ноч, пачынаецца дзень,
І вясны беларускай пчала залатая
Выглядае з вулля, нібы з хмары прамень
Адзінокага сонца, што ўжо зацвітае
І святлом напаўняе нам душы і свет,
Так, як белыя вершы свае ажыўляе
У пакойчыку змрочным самотны паэт…

8.03.2010



***

Ізноўку дождж… Ізноўку восень,
Як год назад, як сто назад.
Як карабель, пустая восець
Плыве спакойна ў лістапад,

Нібы ў агонь, што забушуе
І сцішыцца праз пару дзён.
Ізноўку дождж мяне ратуе
Ад нематы, бо любіць ён

Мае самотныя маленні
Да сонца, што ад нас сышло
За воблакі, каб дождж асенні
Напомніў нам, што так было

І год назад, і сто назад,
І будзе так ізноў праз восень,
Як карабель, старая восець
Спакойна плыць праз лістапад.

29.09.2009

***

Над Айчынаю дым, хоць пажару няма
І каторы ўжо год не праходзіць зіма,
І не шкло ў нашых вокнах, а неба і лёд,
У які ўмерзла муха, нібы самалёт.
І глядзім мы на захад, глядзім і на ўсход,
Але сонца не бачна ні там і ні там.
Дом прад намі стаіць, як стары параход,
На якім па Нямізе ад нас белы Храм
Нехта ноччу хацеў перавезці й прадаць
Невядома каму, і каго запытаць,
Невядома, бо ўсе, як нямыя, маўчаць.
Ды ад нашых дыханняў рассыплецца лёд,
Прагудзіць, нібы муха, чужы самалёт,
На якім нам з табою адсюль не ўцякаць,
Бо тут нашае ўсё і тут нам паміраць.
І мінецца паўвека ці некалькі год,
Паплыве па Нямізе, як лёд, параход…

31.01.2011



## Чорнае золата

Наша чорнае золата — нашыя ночы,
У якіх наша кроў і паўстанцкі дазор,
І, як свечкі, у полі ваўчыныя вочы,
І на золаце нашым, як пыл, россып зор,
І сузор'і расы, што ад сонца растануць,
Калі чорнае золата знікне ў траве,
І, як дым, камары затанцуюць свой танец,
І заплачуць крыжы на драўлянай царкве.
І ты возьмеш у прыгаршчы золата наша,
Што схавана ў крыніцы пад ніцай вярбой,
І пральеш у душу, і, самотная, скажаш:
«Наша золата чорнае стала вадой…»

3.02.2011

***

Гэты дзень мы зляпілі са снегу,
Таму й сонца ў нябёсах няма,
І дамы, што са снегу, без стрэхаў,
І без кратаў жалезных турма.

І ты ў белым ідзеш па праспекце,
Па бялюткім асфальце ідзеш.
І бялюткае ўсё ў белым свеце,
Нават белы, хоць з рыфмамі, верш.

Ды закончыцца дзень і счарнее,
Што павінна чарнюткім тут быць,
І сцяжына бялеючым змеем
Ад цябе, ад мяне адвіжыць

І растане, як шэрань на дрэве,
Пад якім мы стаялі з табой
У старым неразбураным Крэве,
Дзе зіма была нашай зімой…

1.02.2011



***

Вось і ўсё… І я зрабіўся сіратою,
І цяпер мой кожны новы дзень — мой глыж,
Што ўзыходзіць чорным сонцам нада мною
І ўрастае ў неба, як у глебу крыж
На магіле бацькі, на магіле маці…

Вось і ўсё… І хата як пусты каўчэг,
І, як хлапчуку, мне не сядзіцца ў хаце,
Хоць ніхто не кліча на бялюткі снег,
І ўжо не пакліча, бо няма нікога,
Каб паклікаць. Сам іду я па двары
На дарогу, па якой пайшлі да Бога
І бацькі старыя, і мае сябры…

10.01.2013

***

За мамаю тата няспешнай хадой
Па Млечнаму Шляху ідзе нада мной,
І сыплецца снег з-пад натомленых ног
У мамы і таты. Чакае іх Бог
Далёка-далёка ад роднай зямлі,
Дзе нават і ў думках яны не былі.
Мне бачна, што тата ад мамы адстаў,
І мама чакае яго, каб дагнаў
І першым пайшоў, як ідзе гаспадар…

Снег сыплецца светла, і сыплецца з хмар,
Бо сёння да Бога няспешнай хадой
Па Млечнаму Шляху ідуць нада мной
І мама, і тата — чакае іх Бог,
Паклікаўшы ў неба з вясковых дарог…

3.01.2013



***

У нябёсах зоркі мые мама,
Поўню працірае, як ліхтар.
Бацька не лянуецца таксама,
Бацька і ў нябёсах — гаспадар.
На бацькоў гляджу я і сумую,
Бо яны не вернуцца дамоў
Ні ў вясну, ні ў восень залатую,
Толькі мне прыходзіць да крыжоў,
Ад якіх бацькі свае дарогі
Пачалі ў нябёсы, каб і там
Радасці свае ўсе і трывогі
Зноў дзяліць, як трэба, папалам.
І ў той час, як зоркі мые мама,
Бацька з Богам носяць ёй ваду,
Каб было ўсім светла й мне таксама.
І я з думкай пра бацькоў іду,
І адзін без іх жыву, сумую,
Бо бацькі не вернуцца дамоў
Ні ў вясну, ні ў восень залатую,
Помнячы, што на зямлі Любоў
Засталася і пасля сыходу
У нябёсы па дарозе з лёду…

4.01.2013

***

Мама і тата, як сонца і месяц,
Сёння ў нябёсах жывуць нада мною.
Снег, нібы гліну бялюткую, месяць
Ногі мае — не знаходжу спакою,
Страціўшы маму, а следам і тату.
Свет свой магу я са снегу стварыць
І збудаваць сабе белую хату,
Дзе буду з татам і мамаю жыць.
Толькі са снегу, што створыцца, згіне,
Стане вясною халоднай вадой.
Рукі я вымажу ў прыску і гліне,
Прыскам і глінаю буду, са мной
Будуць і мама, і тата, якія
Сёння ў нябёсах, як сонца і месяц,
Светла жывуць, хоць яны нежывыя,
Снег на дарозе завоблачнай месяць
Так, як і я на зямлі, адзінокі,
Дзе сёння гурбы, нібыта аблокі…

11.01.2013



## Ракаўскія могілкі

Мне прыходзіць да бацькі на святы,
Мне прыходзіць да маці, калі
Буду я адзінотай распяты,
Як распятыя ў ноч жураўлі
Над зямлёю, дзе восень пануе
Залатая, як маміна сэрца.
І ўжо маці з зімы не сумуе,
Бо з ёй бацька, ды ім не сагрэцца,
Хоць у роднай, ды мёртвай зямлі,
Што кустамі й травой парастае.
Тут усё адным словам «жылі»
Аб'яднана, інакш не бывае.
Я стаю ля бацькоўскіх крыжоў,
Як ля двух здзервянелых мячоў…

12.01.2013

***

Як у сталых людзей, і ў мяне дзве магілы,
І бацькоўская хата старая, пустая,
І на хаце страха, нібы шэрыя крылы
Шчэ жывога анёла, што больш не лятае…

14.01.2013



***

*Памяці бацькі*

Сорак дзён — сорак крокаў у неба
Ад зямлі, ад вады — гэтак трэба,
Каб да Бога прыйсці і прызнацца
У грахах, што, як пчолы, раяцца
Ля душы, як ля маткі пчалінай…
Цела стане травою і глінай,
У якую і нас закапаюць
Людзі тыя, што сёння не знаюць
Ні мяне, ні мой крыж, толькі Бога
І клады, дзе няхутка дарога
Утравее і згубіцца ў небе,
Нібы солі святло ў чорным хлебе…

1.02.2013

***

Мама і тата сваё пражылі…
Мама і тата ляжаць у зямлі…
Снегам прысыпаны кветкі й крыжы.
Хочаш, лажыся і побач ляжы,
Бо ўжо нічога не зменіцца тут.
Гэта і ёсць цяпер родны мой кут,
Родны навекі і самы святы.
Сыплецца снег, бы ў нябёсах сады
Раптам самотна за ноч адцвілі,
Толькі пабачыўшы, што на зямлі
Мамы і таты ў мяне ўжо няма…
Мама і тата… Зіма і зіма…

31.12.2012



***

Не хочаш ты, каб зноў прыйшла зіма
І сцежку зноў засыпала дадому,
Дзе ўжо нікога дзве зімы няма
І хата не патрэбна ўжо нікому,
І вопратка бацькоўская, і ўсё,
Што засталося ад жыцця былога,
І не таму, што ўсё нібы смяццё,
А проста так, бо ўжо няма нікога
У цэлай вёсцы, дзе цяпер лісты
І яблыкі, як зоры, залатыя.
Усё у горад не зацягнеш ты,
Бо час не той і мы з табой не тыя.
І я таксама не хачу зімы,
Якая і ў мяне бацькоў забрала,
Каб снег я сніў, і белыя дамы,
І маму з бацькам, і душа крычала,
Што не хачу, каб зноў прыйшла зіма
І сцежку зноў засыпала дадому,
Дзе ўжо нікога дзве зімы няма
І хата не патрэбна ўжо нікому…

8.09.2013

***

Кашу бычьнёг, дзе шчэ нядаўна жыта,
Як бацька жыў, шумела і расло.
Быльнёг, як войска, што прыйшло з нябыту
Не проста так, а па мяне прыйшло,
Па хату і па ўсё, што засталося
Тут на зямлі ад бацькі і дзядоў.
Я на быльнёг іду, і следам восень
Ідзе за мной і шэпча мне ізноў
Пра тое, што не трэба мне баяцца
Сваёй самоты, бо ў самоце ёсць
Любоў, з якой будуюцца палацы
Для нашых продкаў, у якіх не госць,
А гаспадар мой бацька, а з ім маці
Таксама гаспадыня, як была,
Калі жылі ў сваёй вясковай хаце,
Дзе ўжо страха за лета працякла
І дзверы пакрывіліся, падлога
Гарбатай стала, болей не рыпіць,
І на старой іконе вочы ў Бога
Слязяцца, бо душа ў Яго баліць…

Кашу быльнёг, дзе шчэ нядаўна жыта,
Як бацька жыў, шумела і расло.
Быльнёг, як войска, што прыйшло з нябыту
Не проста так, а па наш край прыйшло…

8.09.2013



***

Бацька вершаў зусім не чытаў,
Хоць і ведаў, што я іх складаю,
Як і ён копы сена складаў
І глядзеў на буслоў, што лятаюць,
Апускаюцца на сенажаць.
І жыцця ён не ведаў другога,
Як расціць, як касіць, як складаць,
І людзей не баяцца, а Бога.
І цяпер, калі бацька спачыў,
Спадзяюся, ён кніг не чытае,
А ад бед беражэ Пугачы,
Дзе стаіць наша хата пустая,
Як Каўчэг, на якім мы плылі
Праз дажджы, пра снягі, праз спякоту
І шукалі хоць лапік зямлі,
Каб там нашу пакінуць самоту,
Праз якую я вершы складаў
І глядзеў на буслоў, што лятаюць
Сёння з крыжам, што з Храма упаў,
І куды крыж паставіць не знаюць,
Жыў бы бацька — ён ім бы сказаў…

11.09.2013

***

Бацькоў сваіх не помню маладымі,
Нібыта маладымі не былі яны.
Няма і фотаздымкаў з маладымі імі —
Віселі на сцяне і зніклі са сцяны,
Што доўга нашаю была сцяною плачу
І гонару за наш негультаёўскі род.
На хвілю зажмуруся і адразу бачу
Бацькоў старых у іх апошні сумны год.
І часта мне здаецца, што амаль нічога
Мы не зрабілі, каб яны перажылі
Сваю нямогласць і пайшлі сваёй дарогай
Не па нябёсах над зямлёй, а па зямлі,
Дзе працавалі на калгас, які таксама
У вечнасць адышоў, пакінуўшы людзям
Кароўнік, клуб вялікі, з белай цэглы краму
І мару патаемную пра белы Храм…

17.09.2013



***

З камянёў нараджаюцца цмокі,
Нараджаецца цемра з кастроў.
Як вар'яты, блукаюць пракокі
І прарочаць нам смерць і любоў.

І крычаць па-над светам вароны.
Нібы золата, свеціцца пыл —
Гэта коціцца д'ябла карона
Да карчмы, што на плітах магіл.

І глядзім мы на свет, як сляпыя,
І аслепла ідзём, хто куды,
І пакуль мы яшчэ ўсё жывыя,
Нам ахвота гаручай вады.

І да цемры мы ўсе прывыкаем,
Прывыкаем да крыку варон,
І ў карчме ўжо зусім мы не знаем,
Ці то ява ўсё гэта, ці сон…

***

Ні плакаць, ні напіцца, ні любіць…
Чаго тады на гэтым свеце жыць?
Гляджу, як з дрэваў зжоўклае лісцё
Ляціць, як плача, бо прайшло жыццё.

І хочацца заплакаць і ляцець
Услед за лісцем, каб не разумець,
Чаму так сумна дагараюць дні,
Нібыта лісце зжоўклае ў агні…

Напіцца, засмяяцца, палюбіць…
А лісце, нібы вогнішча, ляціць
Праз гэты свет, дзе мы жывём яшчэ,
Нібы сляза, што па шчацэ цячэ.



***

На вуліцы цемра, як соннае ў пляшцы віно,
І поўня, як костачка вішні, што ўпасці на дно
Ніколі не зможа, бо дна ў гэтай цемры няма,
І мне адзінока, нібыта ў пустэльні вадзе,
Нібыта манаху, які ў сваю Мекку ідзе
І знае, што сёння ён, грэшны, сышоў недарма
Ад шэрых дамоў, ад глыбокай, як яма, начы,
Дзе свет не пачуе цябе, хоць ты крыкма крычы,
Бо цемра навокал, як соннае ў пляшцы віно,
Як попел, якім замятаецца наша жыццё,
Як чорнае-чорнае з дрэваў счарнелых лісцё,
І я, нібы костачка вішні, што ўпала на дно…
І смерць мая вып’е са мною віно.

***

Гэты свет мы прыдумалі самі…
Ён як сон, што прысніў пад кустамі
Валацуга, што выгнаны з раю.
Гэты свет, як свой лёс, я не знаю,
Як не знаю навокал нікога.
Гэты свет як дарога да Бога,
Што травой зарасла і крыжамі.
Я іду, і ў мяне за плячамі
Свет, дзе я ўжо не буду ніколі,
Як не будзе ў памерлага долі…
Гэты свет мы прыдумалі самі.
Ён стаіць, як туман, прад вачамі,
І не бачым за ім мы нічога…



***

Гэта лета таксама міне,
Быццам знічка ў сусвеце, мільгне
У жыцці, што табою пражыта,
Як вада нежывая адпіта
З чашы той, што належыць табе.
І глядзіш ты на лета ў журбе,
Як на хуткі цягнік, што знікае,
На які тут білетаў не мае
Аніхто, бо цягнік не спыніць,
Ён у ноч, як у прорву, ляціць.
А з яго яшчэ чуецца смех,
Яшчэ ў ім сатвараецца грэх,
І табе яшчэ хочацца следам
Бегчы, як за спакусай, за летам,
Ды не ўспець, не дагнаць, не спыніць.
Лета можна, як кветкі, любіць,
Толькі тыя, што не на магіле…
Дзень прайшоў незаўважна, як хвіля.
Гэтак лета таксама міне,
І, як восень, ты зноў да мяне
Зойдзеш ціха, каб толькі сказаць:
«Як не хочацца мне паміраць…»

## Камар

Б’ецца аб пыльную шыбу камар.
Ты на яго, як на брата, глядзіш,
Бо ты жывеш тут без волі, без мар.
Сонца за шыбай, нібыта Парыж,
Дзе ты не быў і не будзеш цяпер,
Бо, як камар, ты ўсё б’ешся аб шкло
Быту, пакрытага пылам папер,
Па-за якім мройнай волі святло…

17.07.2010



## Моль

Нікому непатрэбны, быццам пыл,
Ляжыш на ложку і глядзіш на столь,
Якая для цябе — твой небасхіл,
Дзе чайкай белаю лятае моль.
У кубку на стале стаіць вада,
Як і ў тваім пакоі час стаіць.
Цыгарка, быццам белая нуда,
У чорным сподку, бы ў начы, дыміць,
Як і дыміць у цемнаце касцёр,
Куды табе сягоння не спяшаць…
І ты ўжо спіш, а, можа, ты памёр,
І гэта моль — твая душа…

16.07.2010

***

Пройдзе ноч, і ў небе знікне змрок.
А пакуль душа імкнецца ў поле,
Як праз шкло да невядомай волі
Рвецца адзінокі матылёк.



***

У агні патанула хаціна,
У якой ты даўно не жывеш,
А ў труне пад зямлёю плывеш,
Крыж узняўшы пад чорнай асінай,
Быццам бы перыскоп над вадой,
Што зрабілася шэрай травой,
Бо ўжо восень, дажджлівая восень,
Як патоп, дзе калгасная восець,
Нібы Ноеў каўчэг пад дажджом,
За якім, хто як можа, плывём,
Каб застацца пад небам, якое,
Як і мы, ўсё яшчэ тут жывое,
Бо не ўсё патанула ў віне,
Не загінула ўсё на вайне,
Дзе ўсе мы па-геройску пілі,
Бо героямі ўсе мы былі,
Ну а ты быў найбольшы герой,
І цяпер ты плывеш пад зямлёй,
На якой забываюць пра ўсіх:
І чужых, нечужых і сваіх.
І ўпадзе, і збялее асіна,
І згарыць, як згарэла хаціна…

***

Слёзнае сонца плыве нада мною,
Быццам бы ў рай адлятае душа
Светлай жанчыны, якая зямлёю
Стала і будзе пад крыллем крыжа,
Нам да якога ісці праз цямрэчу,
Нібы за сонцам, за светлай душой.
Вецер — у твар, а камень — у плечы,
Неба, як воран, па-над галавой.
Гэтак ужо аніколі, ніколі
Болей не будзе, калі ты памрэш.
Дрэва да неба зноў цягнецца голлем,
З сэрца зноў цягнецца рыфмамі верш,
Бо па-над намі ўжо сонца знікае,
Быццам бы ў пекла — чыясьці душа,
Сумная-сумная і залатая,
Быццам бы цвік, што зваліўся з крыжа,
Нам да якога ісці праз нястачу,
Нібы за ценем, адзін за адным.
Ты паміраеш, а я і не бачу,
Бо прада мною жыццё, нібы дым…



***

Вы мая адзінота зямная,
Вас адну я люблю, як турму,
У якой я з-за Вас паміраю,
Ды без Вас і на волі памру.

І не зменіцца ў Вас анічога,
І не спыніцца сонца і час.
Не любіце мяне нежывога,
Я й жывы быў, як мёртвы, для Вас…

13.06.2010

***

Мастак намалюе нам неба,
І неба, як неба, жыве,
І снегу халоднае срэбра
Цячэ праз крыжы на царкве,
Нібыта праз рукі святога,
Якія падняў ён да Бога
З царквы, што стаіць, як малітва,
На ўзгорку, дзе снег і вятры
Вастручыя, быццам бы брытва,
Дзе кроплі крыві — снегіры…

Мастак намалюе, як скажа,
Каго ён тут любіць, чаму,
І ўсё, што вакол, — гэта наша,
І ўсё тут належыць яму,
Бо ён намалюе нам сонца,
І сонца сагрэе ўсіх нас,
І снег, як нямая бясконцасць,
Растане і спыніцца час,
Дзе будзе мастак і не будзе,
Як тое, што ёсць і было,
І святам затопіцца будзень,
Нібы чорны келіх святлом
Віна, што на тайнай вячэры
Пілося, як сонца і кроў…

Мастак намалюе нам дзверы,
З якіх ён ідзе і прыйшоў,
Каб дзверы мы не зачынілі
У свет, у якім жыве Бог,
Якога не мы сатварылі,
А нас ён стварыў так, як змог,
Са снегу, са смеху і гліны,
Бялюткай і цёплай, як сон,



З якога мы выйсці павінны
І ўбачыць з сябе, як з вакон,
Усё, што мастак нам малюе,
А ён жа малюе нам так,
Нібыта анёлак цалуе.
Цалуе, калі ён мастак…

7.08.2013

***

Ты ў шэрым горадзе жывеш,
Нібыта пішаш белы верш
Пра гэты свет, які, як сон,
Як недапіты самагон
У пляшцы, дзе на дне мута,
І мы, над ім, як машката,
Трапечамся, бо хочам жыць,
Як хочам пасля п'янкі піць
Ваду, нібыта белы верш,
Які напішаш і прап'еш,
Не разумеючы, што ты
Таксама створаны з вады,
Па-над якою машката,
Якой нікому не шкада.

Ты ў шэрым горадзе чужы,
Як побач боханаў глыжы,
Якімі хлопцы вокны б'юць
Там, дзе гарэлкі не даюць,
Бы не даюць, як хочаш, жыць.
Але ніхто з нас не бяжыць
Да хат, што топяцца ў траве,
Да хат, дзе белы верш жыве
Пра гэты свет, які, як сон,
Як недапіты самагон…



***

Вада ў рацэ чарней за ноч і сажу —
Раку пакінулі русалкі ўчора.
Над ёй павук сваіх цянёт не вяжа,
Лавіць павук не будзе болей зоры.

А Вадзяны на беразе сядзіць збялелы,
Сябе з дратоў калючых вызваляе.
А смерць ужо над ім лятае смела,
Галодны воран судны Час чакае.

Іду дамоў няспешнаю хадою,
І на душы, як і на свеце, шэра.
А човен па рацэ плыве труною,
І цень яго чапляецца за бераг…

***

Там не дождж за акном, а нябёсы,
Што, разбітыя ветрам начным,
Ападаюць на край наш лясны,
На азёры, што быццам бы слёзы,
У якіх патанула былое,
Век самотнае і залатое,
Як за вёскай ля шляху бярозы
Гэтым восеньскім ветраным днём,
У які мы баімся пайсці
Па апалым, як зоркі, лісці,
Бо не дождж за акном, а нябёсы
Ападаюць на нашыя лёсы…

І глядзім мы праз вокны на свет,
Што халодны, нібы пісталет,
І празрысты, як божыя слёзы…



***

Сонца ў небе — твая адзінота
Залатая, што ў шэрым жыцці
Асвятляе штодзённа самоту,
Як расу на апалым лісці

Дрэў высокіх, што неба трымаюць
Над тваёй сіратлівай душой,
Праз якую вятры пралятаюць,
Разбіваючы ў слёзы спакой,

У якіх адлюструюцца зоры,
На якія ты ўночы глядзеў,
І па мокрай траве, як па моры,
Ты ішоў, як Хрыстос па вадзе,

Каб у неба твая адзінота
Сонцам выплыла ў гэтым жыцці,
Дзе і радасць твая, і самота,
Як раса на апалым лісці…

18.04.2007

***

Знікае ноч, і гэтак дым знікае
Над вогнішчам, якое аджыло.
І вецер золата ў вуглях шукае,
З вуголля абдзімаючы святло.

Знікае ноч, нібы вада знікае,
Пралітая з нябёсаў, у пяску.
І новы дзень, нібы змяя, якая
Плыве з чырвоным сонцам праз раку,
Паўзе з ружовым сонцам на баку.

І я пайду ад вогнішча начнога
І знікну, як знікае дым,
Як ноч знікае над маёй дарогай,
Як дзень знікае над жыццём маім…



***

Неба сумнае, як адзінота,
У якім, як у весняй вадзе,
Маладзік, як адколіна лёду,
Сонца выгляне — лёд прападзе,

І ў вадзе адлюструюцца дрэвы,
У якіх ужо спее лісцё,
Каб зялёнаю майскай залевай
Асвяціць, нібы вечнасць, жыццё,

Дзе паводка, як весняе неба,
У якім, як у плыткай вадзе,
Аблачын незастылае срэбра
Вецер ранішні смела крадзе

І, хаваючы за небакраем,
Раздзімае агонь малады,
І самота з нябёс выкіпае
Белай квеценню ў нашы сады…

1.04.2007

***

Дажджы. Халадэча. Хваробы.
І людзі, бы ў кроплі амёбы,
Яшчэ ў свеце божым жывуць.

Хваробы. Дажджы. Халадэча.
І кожны з нас марыць аб вечным,
Ды мары спакой не даюць.

Я сумны, як біты сабака.
Я сёння над келіхам плакаў
І піў, як атруту, віно.

Дажджы. Халадэча. Хваробы.
І ў свеце няма ўжо Еўропы,
Ёсць толькі ў Еўропу акно.



***

Будзе дождж над табой, будзе снег, будзе вецер,
А цябе ўжо не будзе на свеце,
Як у прыску няма і не будзе святла,
Як у зброі халоднай не будзе цяпла,

Бо цяпер над табой дождж і снег, і трава,
І ў нябёсах аблокі, нібыта царва,
У якую душой адляцеў назаўжды
Ты, самотны, як кропля няспешнай вады

На крыжы, пад якім ты забыты ляжыш,
І ўрастае ў цябе твой, чарнеючы, крыж…

***

Вось яшчэ адно лета прайшло,
І лісцём, як агнём, замяло
Нашы сцежкі праз нашы сады,
Дзе хаваліся мы ад жуды,
І туды ўжо нам страшна хадзіць —
Вараннё там на дрэвах сядзіць,
І там цёмна, нібыта ўначы,
І там нехта галосіць-крычыць,
Што ўжо лета, як вечнасць, прайшло.

І здаецца, зусім не было
Ні цяпла, ні святла, а быў змрок
І дажджы з гэтых сонных аблок…

Вось яшчэ адна восень ідзе,
Што патоне ва ўласнай вадзе,
І з табою мы пойдзем у сад,
Каб вярнуцца, як рэха, назад.



***

Зялёны кот гуляе па балконе,
Чакаючы зялёную вясну,
І стогне кот, і у ягоным стогне
Мне чуецца аповед пра вайну
Каціную, якой ужо стагоддзі,
Якая можа скончыцца вясной,
І пройдзе ўсё ў ката, але не пройдзе
Усё, што называлася вайной
Кацінаю, дзе кот хадзіў зялёны,
Чакаючы зялёнае вясны,
І на чужыя паглядаў балконы,
Як на акопы вечнае вайны…

4.11.2012

***

Квадратнае сонца ўзышло і растала,
Ніхто не заўважыў, што сонца было
Квадратным, бо ўсё навакол сумавала
Яшчэ да таго, як квадратным святло
Зрабілася наша, і мы ад самоты
Нічога не бачылі ў свеце, дзе мы,
І геніі ўсе, і усе ідыёты,
Малюем квадраты, будуем дамы,
Дзе ў метрах квадратных жывём, паміраем
І што прамінула не вернем назад,
Але мы шчаслівыя, бо мы не знаем,
Што наша зямля растаптаны квадрат…

3.11.2012



***

А за акном сасновы лес шуміць,
Нібы трава зжаўцелая гарыць
Зялёным полымем высокіх сосен.
Над вогнішчам —
аслеплым сонцам восень
Плыве між хмар, і ў хмарах патанае,
І з'явіцца аднойчы — залатая.
І будзе гэты свет святлей святла,
І праляціць святло, нібы страла,
І знікне ў невядомасці начной,
Зноў з'явіцца, як д'ябал, нада мной.
І я вярнуся ў той цагляны свет,
Дзе вінаў, дзе жанчын і цыгарэт,
Як сёння сосен за маім акном…
Шкада, і гэта ўсё сплыве з дажджом…

***

Настрой такі, што ўсё няміла,
І шэры горад, як магіла,
Дзе мы, як прывіды, жывём.

І жоўты снег, і белы вецер,
І сонны, як хвароба, вечар
Душу апальваюць агнём.

Агонь жа не стушыць вадою,
Ён быццам крыж па-над царквою,
Якая ў памяці стаіць.

І я іду дамоў з работы,
І ўслед смяюцца ідыёты,
І сіл няма, каб іх любіць.



***

Ізноў снягоў халоднае святло,
Самотнае, як тое, што прайшло
І ўжо больш не паўторыцца для нас
Ні ў гэтым дні, і ні ў наступны час,
Калі не будзе нас, як не было.

Сярод снягоў я распалю цяпло,
І ціхі дым у неба паплыве,
Мяне ўслед за сабою пазаве,
Ды застануся тут я на зямлі,
Нібы валун маўклівы на раллі,
Які ляжыць і будзе век ляжаць,
Каб некалі падмуркам хаты стаць…

Люблю снягоў халоднае святло,
Самотнае, як тое, што прайшло…

***

Што ні двор, што ні дом — як арэх, пусты, —
Пераехалі вяскоўцы на клады.
А сады цвітуць, як і раней цвілі,
Толькі на дарозе дрэвы прараслі,
І сядзяць вароны на гнілых платах,
Чорныя, як ведзьмы на сямі вятрах…

Па спусцелай вёсцы, як праз смерць, іду
І не знаю, дзе жывую адшукаць ваду…



***

У забыццё спаўзуць і нашы дні,
З якіх мы сёння на жыццё глядзім,
Нібыта з недасяжнай вышыні,
Дзе лётаюць анёлы, а не дым
Ад нашых геніяльных цыгарэт,
Якімі асвятляемся ўначы,
Гаворачы пра Божы вышні свет,
Як пра кватэру, ад якой ключы
Схаваны, і ніхто не знае дзе,
Ды кожны думае, што знае ён…

Сягоння пан, а заўтра зноў ідзеш,
Нібы сабака, за якім праклён
Паўзе, як цень, за тое, што рабіў,
Не думаў, што мінуцца хутка дні,
Калі ты толькі сам сябе любіў.
І сёння ўжо другія з вышыні
На ўсё плююць, не помнячы сяброў,
З якімі шчэ нядаўна пра любоў
Крычалі і тушылі ўслед агні,
Што асвятлялі, як іконы, дні…

***

Нясказаныя словы застануцца,
Як зерне непраpослае ў зямлі,
Дзе людзі плачуць, плачуць і смяюцца,
І тонуць у гадах, як караблі
У моры, ля якога не сагрэцца,
Нібы ля вогнішча, што не гарыць,
З якога толькі дым у неба ўецца
І ля якога больш не гаварыць
З табою мне, бо ты даўно далёка
За тым туманам, праз які ісці,
Не чуючы сваіх у цішы крокаў,
Не бачучы анёлаў у лісці
Высокіх дрэў, што неба падпіраюць.
А ў небе тым два нашы галасы,
Нібы галуб з галубкаю, лятаюць
П'яныя ад сцюдзёнае расы,
Што на траве, як мора маладое,
Якое прарастае з глыбіні,
Дзе мы з табой усё-ткі будзем двое,
Як нашы душы ў боскай вышыні…
Нясказаныя словы засталіся,
Як зерне непрараслае ў зямлі.
Малюся за цябе, і ты маліся,
Як восеньскае лісце на галлі…



***

…Толькі п'яны, відаць, не баіцца
Аб сцяну, нібы снежка, разбіцца,
Не патрапіўшы д'яблу ў акно.
І ў царкву ты прыходзіш маліцца,
Каб у яму ўначы не ўваліцца,
Хоць у яме жывеш ты даўно.

На героя не трэба вучыцца.
Намалёваным вокнам не біцца.
І яшчэ — сёння думаць дарма
Пра паяца, які не баіцца
Пасмяяцца і павесяліцца
Ля муроў, дзе нікога няма…

***

Зноў ты пад дажджом, адзінокі, ідзеш,
І дождж прад табою нібыта бязмеж,
Дзе можна згубіцца, нібыта звуглець
Апошнім вуголлем начнога кастра,
Згубіцца і страты ўсё ж не зразумець,
Хоць страты даўно разумець тут пара,
На гэтай планеце, на гэтай зямлі,
Дзе раптам нікому нічога не трэба,
Нібыта сябрамі мы тут не былі,
Нібыта прад намі парвалася неба,
І дождж затапіў нашы душы па вочы,
І мы цяпер бачыць нічога не хочам,
Бо дождж прада мною нібыта бязмеж,
Дзе ты, нібы вецер, яшчэ ўсё жывеш
На гэтай планеце, на гэтай зямлі,
Дзе нехта ўжо шэпча сваё: «Вы былі…»



***

…І ты на зямлю апусціўся
З нябёс, у якіх ты не быў.
Ты плакаў, смяяўся, маліўся,
Ты быў у палоне журбы,

Якая цябе цалавала
У сэрца і, труцячы кроў,
Да зор, нібы пыл, уздымала
І ў бездань кідала ізноў,

У бездань, дзе вершы нямыя,
Нібыта каменне, якім
Вада адзіноты размые
Карэнне, і зробіць чужым

Каменне зямлі той, якая
Чакала цябе і чакае,
Пакуль ты ляціш да нябёс,
Як восенню лісце з бяроз,

Каб потым, як вершы, упасці
З нябёс, у якіх ты не быў,
Але было гэта ўсё шчасцем,
Якое ты раптам разбіў.

1.05.2008

***

Гэта нашай краіны самота
У аблоках над намі плыве,
Быццам бы над адвечным балотам,
Дзе вада, нібы кроў, у траве.

Толькі мы не балота, а людзі,
І мы верым у лепшыя дні,
Нат тады, калі нас і не будзе,
Як агню ў нашым вечным агні,

Што сягоння гарыць, не згарае,
І, сабой асвятляючы час,
Што ён вечны агонь, ён не знае,
Як і знаць ён не хоча пра нас,

Бо над нашай краінай самота
У аблоках над намі плыве,
Быццам бы над адвечным балотам,
Дзе вада і агонь у траве…

5.05.2008



***

Наш Колас, Купала —
Айчыны святое святло.
Нішто ў злыбядзе не прапала,
Святлом веснавым прарасло
У нашы збалелыя душы,
У нашы, як турмы, гады,
Дзе вершы, як чорныя ружы
І як у пустэльні сады,
Дзе спее, як воцат, світанне,
Дзе толькі тутэйшы паэт,
Памершы, прарокам і стане
І пройдзе праз нас, як праз свет,
Праз цішу, праз Храмы, праз вецер,
Каб роднай і любай зямлі
У кожным, нібыта ў паэце,
Малітвай, як вечнасць, жылі
За нашу Айчыну,
За Беларусь…

14.09.2007

***

Ты кінуў піць, нібыта жыць
Не захацеў далей у свеце,
Дзе вечна сумныя дажджы
Гартае, нібы струны, вецер,

Каб вінаграднае віно
Крывёю восеньскага сонца,
Нібы праз неба, праз акно
Больш не цякло ў душу бясконца,

Якая плача ў час дажджу
Па днях, якія адшумелі,
І праз тваю, як ноч, душу,
Як знічкі ў небе, праляцелі

І ўпалі кроплямі віна,
І прапалілі сэрца маці,
Якая, як і ты, адна,
І ты — адзінае няшчасце,

Якому музыку дажджу
Глухі зусім іграе вецер,
Аж музыка ірве душу
І жыць не хочацца на свеце,

Дзе ёсць каханне і любоў,
Дзе ёсць прыгожыя жанчыны…
Ты кінуў піць, каб піць ізноў,
Бо ёсць, каб зноўку піць, прычыны:

І гэты сумны дождж, і снег,
І раніца, і позні вечар,
Дзе, як матыль, да зорак смех
Ляціць і разбіваецца аб вецер…

15.09.2008



# Каля магілы Алеся Пісьмянкова

Цяпер нябёсы, нібы шкло, між намі,
Дзе зоры — залатыя матылі,
Якія толькі лётаюць начамі,
Як да агню, імкнуцца да зямлі.

І ўжо нікому не сказаць нічога,
І ўжо нічога болей не пачуць,
І Млечны Шлях, нібыта шлях да Бога,
Дзе нашы душы плачуць і пяюць.

І ноч міне, і новы дзень пачнецца,
І будзе ўсё, нібыта як было.
Мая ж душа, як птушка, зноўку б’ецца
Аб неба і самоту, як аб шкло…

# Уначы

Не думаць ні аб чым, нібы памерці,
І ў ноч, нібы ў сваю душу, глядзець,
Дзе на галінах дрэў лісты, як чэрці,
Апранутыя ў восеньскую медзь,
Трапечуцца, шукаючы ратунку —
Ад маладога ветру пацалунку…

Не думаць ні аб чым, нібы памерці,
Мне хочацца ад гэткага жыцця.
Ды Богам што напісана — не сцерці,
І знікне ўсё, як дачытаю я
Сябе самога на старонках часу…

І знікне ноч, і з'явіцца адразу.



# Холад

Нічога няма і нічога не будзе…
Свінцовае неба, што па-нада мной,
Нібыта акенца турэмнае ў брудзе,
Самотаю шэрыцца мне незямной.

І можна памерці — раз жыць несалодка,
Ды толькі нічога не зменіцца ўсё ж.
І снежаньскі холад зноў студзіць мне глотку,
Нібыта бандыцкі ў зазубрынах нож.

15.12.1998

***

Незразумелыя гады,
Незразумелае жыццё,
Нібыта студня без вады,
Нібы апалае лісцё,
Што пад нагамі, як агонь,
Які не грэе, хоць гарыць,
Бо вецер, як ваўчыны гон,
І цішыня, як дом стары,
Куды ўсім хочацца зайсці,
Нібы вярнуцца ў час былы,
Дзе ў жоўтым ліпавым лісці
Жыве мядовы гуд пчалы
Пра наймілейшыя гады,
Пра найшчаслівае жыццё,
Дзе, як па мёдзе залатым,
Мы па лісці з табой ідзём…



***

…Нібыта ўзарвалі плаціну,
І возера хлынула з хмар.
Ліхтар нібы гронка рабіны,
Рабіна нібыта ліхтар,
У цемры, намытай вадою,
Пад нашым высокім акном,
Пад небам, нібы пад душою,
Нібы пад анёльскім крылом,
Не зніклі, нам шлях асвяцілі
Дадому, да нас, да цяпла,
Каб мы гэты дождж палюбілі,
Каб з намі заўсёды была
Вялікая наша Айчына,
Як сонца, што выгляне з хмар,
Дзе просінь, нібыта ільдзіна,
Дзе ў ноч самалёт, як ліхтар,
Ляціць па-над ціхай зямлёю,
Знікае ў бязмежы начной,
У цемры, намытай вадою,
У небе, размытым вадой…

# Каля магілы Анатоля Сыса

Год прайшоў, як Тут цябе няма…
Век міне, нібы міне зіма…
А зіма бясконцая цяпер.
Вецер вые, як галодны звер,
Ля тваёй магілы, ля крыжа,
На якім варона, як душа,
Што ад нас не хоча адлятаць,
Нас адных з зімою пакідаць
Не хацеў і ты, але пайшоў
З крыжам ты сваім у лес крыжоў,
Пад якімі ў вечнасці зямной
Землякі сустрэліся з табой
Не святым, самотным і чужым
Свету, у якім жыццё, як дым
Над пажарышчам, дзе сёння мы,
Як праталіны сярод зімы…

Год прайшоў, нібыта ты прайшоў
Між людзей, нібы сярод крыжоў.

2.05.2006



***

У калюгах чорных чорнае святло,
У калюгах тоне тое, што прайшло.
І няма там сонца, толькі — чорны сон,
І няма там птушак акрамя варон.

Па калюгах чорных праплываюць дні,
У калюгах тонуць верасня агні.

І глядзім з журбой на павуціны дым,
І па-над калюгамі ў нябыт ляцім.
А ў калюгах чорных чорнае святло,
А ў калюгах плача тое, што прайшло…

***

Ты сябе адпускаеш на волю,
Нібы вены ўскрываеш нажом,
Каб больш сценаў не бачыць ніколі,
За якімі, як мышы, жывём.

І гляджу я ў тваю адзіноту,
Як у бездань начную гляджу.
І цямрэча прад мной, як балота,
У якой ці ўратуеш душу
Ад спакусы схавацца ад свету.

Ты на волі, як дым з цыгарэты,
Як агонь веснавога дажджу…

Ты на волі, а я пасяджу,
Павартую сваю адзіноту,
Як агонь, у якім мне згарэць,
Каб цямрэчу, нібыта балота,
Перайсці і цямрэчай не стаць…



***

Спакойнае неба Айчыны,
Як купал адвечнага Храма,
Які берагчы мы павінны,
Дзе сёння іконаю мама
Мне стала і будзе іконай
Маёю, пакуль я жыву,
Дый потым травою зялёнай
Не стане, бо сам я ў траву
Сыду, каб іконаю мама
Была нада мною заўжды,
Дзе помнікі сценамі Храма
Стаяць ля крынічнай вады
У Ракаве родным і мілым,
Дзе светла, дзе гойна, дзе я
Стаю каля кожнай магілы
І кожная з іх, як мая…

31.05.2012

***

Сонца як келіх з крывёю…
Іншага сонца няма
Сёння над белай зямлёю,
Дзе, як пустэльня, зіма…

Гэта ізноўку мне сніцца
Сон, у якім я жыву
Сумнай, як попел, сініцай,
Што заляцела ў царкву,
Дзе ўжо не будзе нікога,
Бо ўжо нікога няма,
І не ўтравее дарога,
І не адыдзе зіма.

Сонца як келіх з крывёю…
Выпі яго, не засні,
Каб не зрабіцца зямлёю,
Светла ў мой сон зазірні
І разбудзі, як вярніся.
Іншага выйсця няма…

Келіх, як сонца, разбіўся,
І наступіла зіма.



***

…І праліўся агонь, як вада залатая,
У якой наша ноч, як валун, патанае.
І ўзляцелі вароны, нібыта крыжы
З невядомых магіл, утравелых, чужых.

І счарнелі нябёсы ад крыку варон,
І прачнуўся, як вецер у травах, Харон,
І павёз нас на бераг туманны па Леце,
Нібы лісце апалае, восеньскі вецер
Падхапіў і панёс над змярцвелай вадой,
Што нядаўна была, як агонь, залатой,
Бо ўзыходзіла сонца, бы ноч дагарала,
У якую, бы ў травы, з нябёсаў упала
Наша зорка, як наша любоў і каханне…

Пройдзе век, і зноў вечар настане…

***

Я кожны міг з твайго жыцця знікаю,
Як лёд вясной, знікаючы з ракі,
Што робіцца і ён ракой, не знае,
І я не знаю, хто я ўжо такі
Сягоння для цябе на гэтым свеце,
Дзе час знікае, як на рэчцы лёд,
Дзе я іду туды, дзе сонца свеціць,
Дзе воблакі, як весні крыгаход…

24.02.2009



***

На курганах Еўропы крыжы не стаяць.
На курганах Еўропы агонь палыну,
У якім нашы дні залатыя гараць
І не трэба нікому ісці на вайну…

24.02.2009

***

Першым снегам засыпана тое,
Што шчэ ўчора было залатое
І лятала ў паветры лістотай,
А цяпер незямной адзінотай
Мне душу напаўняе бясконца,
Нібы неба світальнае сонца
Напаўняе святлом і самотай,
Што ляжала апалай лістотай
На траве, што схавана снягамі,
Што рыпяць, як крычаць, пад нагамі,
Бо іду, і не хутка вярнуся,
І не плачу я, і не смяюся,
Бо снягамі засыпана тое,
Што шчэ ўчора было залатое…

1.12.2007



***

Мы, як свечкі ў разбураным Храме,
Адзінока душою гарым,
І аблокі, што ў небе над намі,
Нібы нашай згарэласці дым.
Ды не кожны з нас думае гэтак,
А сабе, быццам вечны, жыве
І не бачыць ні смецця, ні кветак,
І не чуе няволі ў траве,
Што расце каля нашых святыняў,
Ля якіх мы не часта з табой
Прыпыняемся, думкамі стынем,
Напаўняемся вечнай журбой
Па тым Храме, які не збудуем,
У якім наша б вечнасць была,
У якім мы душою начуем,
Не шкадуючы Храму святла…

5.04.2008

***

Сцяжынаю стане дарога,
Дарогаю стане сцяжына.
Не ўсе мы прыходзім да Бога,
Не ў кожнага ў сэрцы Айчына.

І пылам сляды замятуцца,
І ў травах струхнеюць крыжы,
І змыюць былое дажджы,
Адны камяні застануцца.

І ты ўжо не скажаш нічога,
І скажа, што трэба, Айчына.
Сцяжынаю стане дарога,
Дарогаю стане сцяжына.

6.04.2009



## Мы

Гэта мы… Гэта мы. Гэта мы!
Мы ідзём праз завейнасць зімы,
У якой замярзае душа
І сляза, як агонь ледзяша,
У цямрэчы нявечнай гарыць.

Не маўчы! Гавары! Гавары!
Так лягчэй, так цяплей, так смялей.
Вецер студзеньскі — наш салавей —
Не дае нам дачасна заснуць,
Каб і мы не праспалі вясну,
Дзе растануць, як прывід, снягі,
Дзе на дрэвах лісцё, як сцягі,
Затрапеча, вітаючы нас.

Мы ідзём, мы ідзём і наш час
Журавінамі спее ў снягах
І чарнее крыжамі ў палях…

І мы дойдзем да нашай вясны,
Бо ідзём мы з табой не адны!

***

Можа, гэта ўсё не тое,
Можа, гэта ўсё не так…
Сонца ў небе залатое,
Бы ў вадзе рачной пятак,
Што мы кінулі з табою,
Каб вярнуцца нам сюды
Да абнятае травою,
Да крынічнае вады.

Ды не вернемся ніколі,
Як не вернецца той дым,
Што цяпер ляціць над полем
І губляецца над ім…

Можа, гэта ўсё не тое,
Можа, гэта ўсё не так,
І наўкол усё чужое,
Ды і я табе чужак.

І крыніца перасохне,
І сцяжына зарасце,
І ніхто тут нас не ўспомніць,
Як лістоту на кусце,
Што пад ногі нам злятае
І, згубіўшыся ў траве,
Як дарога залатая,
Па рацэ, бы ў рай, плыве,
Рай, з якога нас прагналі,
Дзе мы вечнымі былі…



***

Нібы азёры, поўныя вады,
Каханай вочы поўныя жуды
Былі, калі ты адышоў у свет,
Дзе толькі сум расою на траве
Жыве, пакуль расце, як сум, трава
За плотам, дзе, нібы агонь, царква
Стаіць чырвоная ў зацішшы дрэў,
Нібыта ў дыме, што не адляцеў
Ад свечак, што гарэлі ля магіл
І асвятлялі Леты берагі,
Каб бачыў нас, нібы свой лёс, Харон,
Разбуджаны тут карканнем варон,
Якія, нібы грэшнікі, якім
Яшчэ тут мучыцца жыццём зямным,
Дзе, як азёры, поўныя вады,
Людскія вочы, поўныя жуды,
Услед табе па-над травой плылі,
Шукаючы твой бераг на зямлі…

***

Гэта сонца тваё патухае,
Гэта ў вечнасць сыходзіш і ты,
Бо цябе ўжо ніхто не кахае
І ў твае не заходзіць сады,
У якіх ападае лістота,
У якіх чорны воран жыве
І тваю там гадуе самоту,
Што расой на зжаўцелай траве
Узыходзіць сцюдзёна, нясмела
І ў траве, як у грэшнай душы,
Застаецца і робіцца белай,
Нібы шэрань, што зноў на крыжы
Залатым, што, як сонца, стухае,
Праступае, як ноч наступае,
І праз вечнасць глядзіць на зямлю,
Дзе цябе ўжо ніхто не кахае,
Ды і ты ўжо не шэпчаш «люблю»…



# Гаспадар

*Уладзіміру Гілепу*

…Каб ведаць родны Край і быць слугою
Яго палацаў, замкаў і святынь,
Патрэбна быць з вялікаю душою,
Як неба, у якім зямная стынь
Ля сонца, як ля сэрца, прападае
І да людзей вяртаецца цяплом,
І нас яднае назаўсёды з Краем,
Адвечным, беларускім, як крыжом,
Які мы атрымалі пры хрышчэнні,
Каб з ім ішлі мы праз вятры гадоў,
І толькі перад крыжам на калені
Мы падалі, каб выказаць любоў
Да родных ніў, да матчынага слова,
Да замкаў старасвецкіх і хацін,
Дзе шчэ жыве не падчаркаю мова,
Якую знае Бог, і Ён адзін
Спытае ў нас за ўсё і ўзнагародзіць
За нашыя пакуты…
Родны Край,
Ты нібы ліст бярозавы на лёдзе
У гэтым свеце, дзе жыццё — не рай,
Але дзе людзі ёсць з такой душою,
Як неба, у якім святло, як Храм.
І той Тут гаспадар, хто стаў слугою
Зямлі, якую Бог адмераў нам…

20.01.2008

***

Яшчэ не пачаўся той вечар,
Дзе чыстае неба, як вечнасць,
Дзе нам не патрэбна жыццё,
Як восенню дрэвам лісцё,
Якое злятае пад ногі
І робіцца пылам дарогі,
Якой мы вяртаемся ў вечар,
Дзе чыстае неба, як вечнасць,
Дзе ты мне гаворыш пра зоры,
А зоры пра вечар гавораць,
З якога нам век не вярнуцца,
Нібыта ўжо не азірнуцца
Сляпому, што збіўся з дарогі,
Дзе лісце зляцела пад ногі…



***

…Уцякае моладзь за мяжу,
Гэтак як старыя ад дажджу
Уцякаюць, каб яшчэ пажыць,
Бо атрутныя ідуць дажджы.

Уцякае будучынь зямлі,
За якую кроў сваю лілі
Гэтыя дзяды, якім даўно
Свет увесь змяшчаецца ў акно,
Ля якога, сумныя, сядзяць
І на свет, нібы на смерць, глядзяць…

Уцякае моладзь за мяжу…

Ёй услед маўкліва я гляджу,
Хоць і знаю, што мне ёй сказаць…

***

…І ў вечным небе вечнасці няма,
Там воблакі — вандроўная зіма —
Плывуць над светам, дзе гаруем мы,
Чакаючы то лета, то зімы.

І кожны дзень, самотны, нібы пыл,
Бы кветкі звялыя каля магіл,
Дзе нас чакае іншае жыццё,
Куды ляцім, нібыта з дрэў лісцё.

І ў гэтым свеце нас няма даўно,
Мы небам выпіты, нібы віно,
Якое не ратуе ад пакут,
Якое рай, якое Божы суд.



***

*Што ж будзе, як дрогне, як рухне яна?*
*Каго пад сабой пахавае?*

Максім Багдановіч

Можа, заўтра, а можа, праз год
Трэснуць сцены між нас, нібы лёд,
І святло, як вясною вада,
Нас абмые і знікне жуда
З нашых душ, нібы з дрэў груганы
Па-над полем, дзе болей вайны
Нам ніколі ўжо не распаліць,
Бо над полем наш дым праляціць…

А пакуль што між намі сцяна
І далёка, як неба, вясна,
Дзе вада, як вясною святло,
Змые ўсё, што між намі было.
Прыйдзеш ты, і табе раскажу,
Што я жыў, як трава без дажджу,
Як сцяга, што вядзе на клады,
Як у траўні без кветак сады…

Ды не заўтра і нат не праз год
Трэснуць сцены між нас, нібы лёд…

***

…Вецер плача і вецер смяецца,
І грукоча бязмежнасць нябёс,
У якой, нібы вечнасці сэрца,
Адзінотай распяты Хрыстос…

12.03.1996



***

…Я вярнуся дамоў, як з вайны,
І ніхто не сустрэне мяне.
Я гадзіннік здыму са сцяны,
Хай ікона вісіць на сцяне.
І лічыць я не буду гадзін,
Не змагу, як калісьці я мог,
Бо калі я застаўся адзін,
Мне патрэбен адзін толькі Бог,
У якога нічога няма
І ўсё ёсць, як і ёсць у мяне
Толькі Бог, гэты дзень і зіма,
Як ікона на чорнай сцяне…

11.03.2013

***

Я прыбіты крыжамі да роднай зямлі,
У якой мае мама і тата ляжаць,
Да якой і яны тут прыбіты былі,
І не змог іх ніхто ад зямлі адарваць,
Над якой маладзік, як да Бога каўчэг,
Адзінока й спакойна праз вечнасць плыве.
Я па снезе іду і са мной плача снег,
І знікае, як грэх, з мяне снег у царкве,
Дзе малюся ізноў за бацькоў і дзядоў,
Каб яны для мяне не знікалі, былі,
Як ёсць Вера, Надзея, Каханне, Любоў…

Я прыбіты крыжамі да роднай зямлі…

22.02.2013

# Ноч



***

…

# Змест

**Раніца**



**Дзень**



**Вечар**

**Ноч**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Серыя
«Бібліятэка Мінскага гарадского аддзялення
Саюза пісьменнікаў Беларусі»**

**ШНІП** Віктар Анатольевіч

# Тутэйшая туга

Паэзія і проза

*Публікуецца ў аўтарскай рэдакцыі*

Дызайн вокладкі
і камп'ютарная вёрстка
*І. П. Бандаровіч*

Карэктар
*Н. А. Ваніцкая*

Падпісана ў друк 18.11.2013.
Фармат 60×84/16. Гарнітура Minion.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 5,93. Ул.-выд. арк. 6,79.
Наклад 300 паас. Заказ № .

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
ТДА «Выдавецтва "Чатыры чвэрці"».
ЛИ № 02330/137 от 16.03.2009.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 8-215, 220013, г. Мінск.
Тэл./факс: (+375 17) 331 25 42. E-mail: info@4-4.by